# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 4 (76) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2016 г.**




***Віктар Іванавіч Кудла*** *(7.10.1941 г., в. Дроздава, Лідскі р-н), марак, кіраўнік эксперыментальнай базы "Ніва", фермер, краязнавец, аўтар артыкулаў па краязнаўстве, мастак*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

**№ 4 ( 76 )** **КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ** **2016 г.**

## У НУМАРЫ:



На першай старонцы выкладкі “Памятны знак на месцы былога бровара Папірмейстра” па вуліцы Савецкай у Лідзе.
*Здымак С. Судніка.*

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// naszaslowa.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**10 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 621.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.12.2016 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.03.2017 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 12300 руб.**
**індывід. 6 мес. - 24600 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**


ISSN 2218-1792



**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

*На літаратурнай хвалі*

# Конкурс імя Веры Навіцкай набірае папулярнасць



На працягу двух гадоў Лідскай раённай бібліятэкай праводзіўся другі адкрыты літаратурны конкурс імя Веры Навіцкай "Дарослыя - дзецям", які ставіў сваімі мэтамі прапаганду творчай спадчыны дзіцячай пісьменніцы Веры Навіцкай сярод лідзян, заахвочванне лідскіх паэтаў і празаікаў да напісання твораў для дзяцей (першы такі конкурс праходзіў два гады назад).

Калі ў першым літаратурным конкурсе імя Веры Навіцкай было каля дзесяці ўдзельнікаў, то ў другім - больш за дваццаць (з 27 аўтараў да конкурсу паводле тэматыкі дапушчаны 20 чалавек), што сведчыць аб тым, што конкурс імкліва набірае папулярнасць. Сярод іх як вопытныя аўтары, так і тыя, хто пакуль толькі спрабуе свае сілы ў напісанні літаратурных твораў. Асабліва шмат было даслана на конкурс вершаў (больш за сотню). Нямала паступіла і загадак, ёсць казкі, п'есы, фантастычныя апавяданні, гісторыі з жыцця.

Варта сказаць некалькі слоў пра Веру Сяргееўну Навіцкую, чыё імя носіць конкурс. Дзіцячая рускамоўная пісьменніца жыла ў канцы XIX-пачатку XX стагоддзя, і горад Ліда можа лічыць яе сваёй, бо ў Лідзе Вера Навіцкая жыла сем гадоў (1908-1915) і нават некаторы час з'яўлялася начальніцай мясцовай прыватнай жаночай гімназіі. Вера Навіцкая - аўтар дзіцячых кніг прозы пра дзяўчынак-гімназістак. Ёсць падставы лічыць, што некаторыя свае кнігі яна напісала менавіта ў нашым горадзе. Адзін з арганізатараў конкурсу імя Веры Навіцкай, лідскі паэт, краязнавец, рэдактар часопіса "Лідскі летапісец" Станіслаў Суднік пераклаў на беларускую мову кнігу Веры Навіцкай "Добра жыць на свеце" (напэўна, гэта першы выпадак перакладу твораў Навіцкай на беларускую мову).









Пакуль што адзіны асобнік гэтай перакладзенай кнігі ён перадаў у фонд Лідскай раённай бібліятэкі.

20 снежня ў раённай бібліятэцы адбылося ўрачыстае падвядзенне вынікаў літаратурна-га конкурсу, на якое былі запрошаны яго ўдзельнікі. Журы начале з намеснікам начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі райвыканкама Уладзімірам Самсонавым, вельмі нялёгка было вызначыць пераможцаў. Як ужо было адзначана, удзельнікаў у сёлетнім конкурсе імя Веры Навіцкай было значна больш, чым два гады назад. У выніку прэміяй III ступені быў узнагароджаны Уладзімір Васько, які даслаў на конкурс фантастычнае апавяданне "На залатой планеце" пра касмічныя прыгоды двух школьнікаў, прэміяй II ступені - Ганна Рэлікоўская (вершы пераважна на школьную тэматыку), прэміяй I ступені - Святлана Цішук (вершы і п'еса "Каток-футбаліст"). Пераможцам конкурсу акрамя дыпломаў былі ўручаны грашовыя прэміі.

Дыпломы ўдзельнікаў атрымалі Валянціна Троцкая, Валянцін Бярэсціч, Ала Мась, Аляксандр Бойка, Уладзімір Руль. Апошні - жыхар Воранаўскага раёна (нагадаем, што конкурс адкрыты).

Дасланыя на конкурс творы ўвайшлі ў другі выдадзены бібліятэкай зборнік "Дарослыя - дзецям" (першы такі зборнік выйшаў два гады назад).

Застаецца толькі дадаць, што сярод дасланых на конкурс твораў былі і шматлікія дзіцячыя творы лідскага паэта Смарагда Сліўко (1931-2006), якія сабрала для конкурсу яго ўдава Ірэна Нікадзімаўна. Вечар памяці Смарагда Сліўко адбыўся адразу пасля падвядзення вынікаў літаратурнага конкурсу "Дарослыя - дзецям".

***Алесь МАЦУЛЕВІЧ.***

**На здымках:**
1. Журы конкурсу; 2. Удзельнікі конкурсу; 3. Лаўрэат 2-й прэміі Ганна Рэлікоўская; 4. 3-ю прэмію атрымоўвае Ўладзімір Васько; 5. 1-ю прэмію атрымоўвае Святлана Цішук.




*Кніга Веры Навіцкай “Добра жыць на свеце”. Пераклад Станіслава Судніка. Вокладка Дар’і Марцінкевіч.*




*Зборнік “Дарослыя дзецям” па выніках 2-га літаратурнага конкурсу імя Веры Навіцкай 2016 г.*

# Кронiка Лiды




**Лідскі гістарычна-мастацкі музей** у намінацыі “За лепшае прадстаўленне музея ў экспазіцыі” на 3-м Нацыянальным музейным форуме ў Магілёве 1-2 лістапада заняў 3-е месца са 120.







8 кастрычніка ў в. Зачэпічы, былы Лідскі павет і раён (цяпер Дзятлаўскі раён), устаноўлены памятны знак беларускім (лідскім і дзятлаўскім) паэтам **Гарасіму Праменю** (Іван Пышко), **Пятру Граніту** (Іван Івашэвіч), **Васілю Струменю** (Аляксандр Лебедзеў).





8 кастрычніка памерла **Папова Надзея Іванаўна**, ганаровы грамадзянін Лідскага раёна, з 1978 па 1985 г. - 1-шы сакратар Лідскага гаркама КПБ.




У кастрычніку выйшла кніга лідскага пісьменніка **Валера Санько** "Карыды вогненныя іскры".

Кніга ваыйшла на беларускай, рускай і іспанскай мовах.
















28 кастрычніка **Ліда** абвешчана лепшым горадам культуры ў Год культуры ў намінацыі "Лепшы горад раённага падпарадкавання".

У рамках дэкады гістарычна-культурнай і прыроднай спадчыны рэгіёна **"Мая малая радзіма"** ў перыяд з 1 па 4 лістапада 2016 года быў праведзены Лідскі раённы фестываль музеяў устаноў адукацыі.

У фестывалі прынялі ўдзел Рады 12 музеяў устаноў адукацыі:

- дзяржаўная ўстанова адукацыі "Сярэдняя школа № 1 г. Ліды",
- дзяржаўная ўстанова адукацыі "Сярэдняя школа № 5 г. Ліды",
- дзяржаўная ўстанова адукацыі "Сярэдняя школа № 6 г. Ліды",
- дзяржаўная ўстанова адукацыі "Сярэдняя школа № 11 г. Ліды",
- дзяржаўная ўстанова адукацыі "Сярэдняя школа № 12 г. Ліды",
- дзяржаўная ўстанова адукацыі "Сярэдняя школа № 15 г. Ліды",
- дзяржаўная ўстанова адукацыі "Сярэдняя школа № 17 г. Ліды",
- дзяржаўная ўстанова адукацыі "Гімназія № 1 г. Бярозаўкі",
- дзяржаўная ўстанова адукацыі "Бердаўскі навучальна-педагагічны комплекс дзіцячы сад - сярэдняя школа",
- дзяржаўная ўстанова адукацыі "Ёдкаўская сярэдняя школа",
- дзяржаўная ўстанова адукацыі "Крупаўская сярэдняя школа",
- дзяржаўная ўстанова адукацыі "Першамайская сярэдняя школа".








23 лістапада ў Ліду прыбылі прыняты на ўзбраенне УС Рэспублікі Беларусь чатыры новыя самалёты **Як-130**.

У канцы лістапада ў Лідзе выйшаў каляндар, прысвечаны гісторыі газеты **"Наша слова"**.

Каляндар выйшаў фарматамі А-3 і А-4.








У пачатку снежня ў залатой серыі "Беларускі кнігазбор" выйшаў том выбраных твораў лідскай найвыдатнай паэткі **Дануты Бічэль**. Гэта 88 том, які працягвае знаёміць чытачоў з шэдэўрамі беларускай культуры і літаратуры. Апрача вершаў, якімі багата творчасць Дануты Бічэль, пачэснае месца адведзена і прозе.

У сярэдзіне снежня выйшаў **“Беларускі настольны перакідны каляндар на 2017 год”**. Каляндар скіраваны на 500-годдзе беларускага кнігадрукавання.

Укладальнік А. Пяткевіч.

Рэдактар С. Суднік.







У канцы снежня Лідскі райвыканкам выдаў бізнес-даведнік “**Лідскі раён**”.

# Лідскаму піўзаводу - 140 гадоў

**1590 г. У Лідзе з'яўляецца піва.**

Лідскія мяшчане разам з Магдэбургскім правам атрымліваюць дазвол на будаўніцтва піўнога бровара ў 1590 г.

**1876 г. Нараджэнне завода.**

Лідскі месціч Носель Зелікавіч Пупко будуе піўны бровар на ўласным участку.

**1899 г. Завод пашыраецца.**

Завод накіроўвае 58 вагонаў піва ў Кобрын, Беласток, Пінск, Гарадзішча, Ляхавічы.

**1900 г. Алень з этыкеткі.**

Заводскае кляймо, алень, які абапіраецца на бочку, прысутнічае на трыццаці этыкетках завода.

**Новае стагоддзе — «чыстыя» стандарты.**

У 1900-м ва ўзросце 75 гадоў памёр Носель Пупко, купец другой гільдыі, заснавальнік лідскага піўнога завода. Прадпрыемства цяпер належыць яго сынам: Іцку, Гершу, Абраму і Мейлаху. Кіруюць заводам Абрам і Мейлах, малодшыя браты.

**1905 г. Нёманскае шкло.**

Пупко замаўляюць піўныя бутэлькі на шклозаводзе В. Краеўскага і Ю. Столе ў Бярозаўцы, цяпер - «Нёман».

**1910 г. Залатая эпоха.**

У Лідзе прамысловы і піўны бум.

**1914 г. Сухі закон і квас для Чырвонай арміі.**

17 ліпеня 1914 г., падчас Першай сусветнай вайны, прымаецца закон пра забарону вытворчасці і продажу алкаголю.

**1921 г. Балагула з моцнай галавой.**

Вайна, а потым сусветны эканамічны крызіс 30-х амаль знішчылі лідскае піваварства.

**1938 г. Таямніца Умані.**

У горадзе Умань на Ўкраіне былі знойдзены піўныя бутэлькі з гравіроўкай «Пивоваренный заводъ «Баварія» З. А. Пупко. Умань» і з характэрным знакам - аленем, якія абапіраецца на бочку.

**1939 г. Нацыяналізацыя.**

Піўзавод Марка і Сямёна Пупко пераходзіць у падпарадкаванне Брадтрэсту Народнага камісарыята харчовай прамысловасці БССР.

**1940 г. «Жигулевское».**

На заводзе ўпершыню вараць легендарнае «Жигулевское» — гатунак з ледзь прыкметным смакам хмелю.










**1941 г. Акупацыя, 1941-1944 гг.**

Нямецкім салдатам патрэбна піва. На завод для наладжвання варкі накіроўваюць інжынера Ёахіма Лахбілера. Усім супрацоўнікам загадана з'явіцца на завод і працягваць работы.

**1944 г. Англійскія шпіёны п'юць лідскае піва.**

Што робяць англічане ў Лідзе? У горадзе базуецца 240-я Невельская знішчальная дывізія, якой камандуе Герой Савецкага Саюза, палкоўнік (пазней маршал) Георгій Васільевіч Зімін. Зімін напіша ва ўспамінах, што дывізіі перадалі найноўшую распрацоўку — савецкі самалёт Як-3, «паглядзець» на які ў верасні 1944 г. на самалёце Дуглас С-47 прыляцелі 14 англічан.

**1950 г. Піва 50-х.**

На заводзе пачынаюць варыць цёмнае, амаль чорнае «Аксамітнае піва» (сумесь «Жигулевского», «Украинского» і карамельнага соладу). Робяць «Московский» квас у бочках і бутэльках.

**1967 г. Брэнд «Лідскае».**

Піва «Лідскае» з'яўляецца ў крамах у 1967 г. Яго аўтары — галоўны піўвар Марыя Галяева і загадчыца лабараторыі завода Паліна Смірнова.

**1976 г. «Знак Пашаны» на стагоддзе «Лідскага піва».**

У 1976 г. «Лідскаму піву» спаўняецца 100 гадоў. У ліпені завод узнагароджваюць ордэнам «Знак Пашаны» «за паспяховае выкананне заданняў 9-й пяцігодкі і ў сувязі са 100-годдзем з дня заснавання».

**1970 г. Буратино» і «Байкал».**

У 70-я на заводзе вырабляюць два самыя настальгічныя безалкагольныя напоі савецкай эпохі. Цёмнабрунатны «Байкал» — кампазіцыя з натуральнымі эфірнымі алеямі і экстрактамі духмяных траваў.

**1985 г. Антыалкагольная кампанія.**

Завод актыўна пераключаецца на ахаладжальны асартымент.

**1991 г. Незалежнасць і прыватная ўласнасць.**

Лідскі завод зведвае ўсе складанасці пераходнага перыяду.

**1996 г. «Три короля».**

Разам з аўстрыйскімі піваварамі Eggenberg International лідчане запускаюць чэшскую лінію разліву піва, якую купілі яшчэ ў 1991 годзе.

**2008 г. Канцэрн Olvi.**

У 2008 г. акцыянеры ААТ «Лідскае піва» знаходзяць інвестара — фінскі канцэрн Olvi Oyj, які аб'ядноўвае піваварАў A. Le Coq з Эстоніі, Cesu Alus з Латвіі, Volfas Engelman з Літвы і Olvi з Фінляндыі. Генеральным дырэктарам «Лідскага піва» з 30 сакавіка 2009 г. робіцца Аўдрус Мікшыс.

**2016 г. 140 гадоў «Лідскаму піву».**

У 2016 г. піваварЫ да 140-годдзя завода выпускаюць нашумелыя навінкі: флагманскі лагер «Лідскае Легенда», а таксама лімітаваны гатунак «Лідскае 140».

2016-ы — год, калі «Лидское» ператварылася ў «Лідскае».

Брэнд пачынае гаварыць па-беларуску.

***З сайту "Лідскага піва".***

# 100 гадоў Лідскай гарадской электрастанцыі

У 1916 годзе па распараджэнні нямецкіх акупацыйных уладаў да прыватнай электрастанцыі пастаяннага току магутнасцю 50 к.с., якая працавала ў вінакурні Крыгера, былі падключаны будынкі, дзе месцілася гарадская ўлада, і часткова дамы жылога сектара ў цэнтры горада. Тады ж пачалося будаўніцтва гарадской электрастанцыі пастаяннага току і ў тым жа годзе горад атрымаў энергітычны аб'ект з двума лакамабілямі, якія прыводзілі ў дзеянне дынамамашыны пастаяннага току. На станцыі былі ўсталяваны: два лакамабілі па 150 і 80 к.с. (фірмаў "Assman et Stocker" і "Lanc") і дзве дынама-машыны магутнасцю 71 і 52 кВт (фірмаў "Siemens-Schuckert" і "Lahmer et C°, Frankfurt").

Нягледзячы на тое, што ў 1920-я гады ў горадзе працавалі дзве адносна вялікія электрастанцыі - чыгуначная і гарадская, жыхары Ліды мелі праблемы з асвятленнем. Частка горада каля чыгуначнага вузла асвятлялася ад чыгуначнай электрастанцыі. Спажыўцы плацілі па 60 гр. за кілават-гадзіну. Увесь астатні горад забяспечваўся гарадской прыватнай электрастанцыяй, арандатарам якой быў нейкі Цыдзяровіч. Электрычнасць у гэтай, большай, частцы горада часта знікала, лямпы гарэлі няроўна, і пры гэтым абаненты плацілі 1 зл. 16 гр. за кілават-гадзіну. *"Не далей як учора, г. зн. 15 студзеня цэнтр горада да 10-й гадзіны вечара быў пагружаны ў цемру, разам з жыхарамі святла не мелі паліцыя, турма і г.д."* - пісаў карэспандэнт "Слова" ў артыкуле "Нашы балячкі" на пачатку 1926 года. Праз паўгода газета "Слова" зноў звярнулася да гэтай тэмы: *"Нягледзячы на тое, што каштуе* (электраэнергія. - *Л.Л.) значна болей, чым у Вільні, электрычнасць часта псуецца, і гараджане сядзяць пры свечах ці газавых лямпах. Адзіная надзея, што здзейсняцца энергічныя захады бургамістра горада Рудольфа Бергмана і гарадская электрастанцыя пяройдзе з рук нейкага Цыдзяровіча ў маёмасць горада".*

У красавіку 1928 года "Наваградскае жыццё" папярэдзіла аб тым, што Лідзе пагражае *"егіпецкая цемра"*, бо *"лакамабілі лідскай электрастанцыі знаходзяцца ў такім стане, што прадстаўнік нагляду за катламі інж. Лябецкі забараніў іх далейшую эксплуатацыю. Але каб не пазбавіць лідзян электрычнасці на велікодныя святы, ён дазволіў электрастанцыі працаваць яшчэ нейкі час. Прычына хуткага псавання катлоў - неадпаведная вада, якую патрэбна было апрацоўваць адмысловымі хімікатамі".*

Гарадскія ўлады дабіліся свайго, у ліпені 1928 года прэса паведамляла, што *"дзякуючы шматгадовым намаганням магістрата, лідская электрастанцыя, якая з'яўлялася дзяржаўнай маёмасцю, але была перададзена ў арэнду прыватнікам, 13 ліпеня за невялікія грошы стала гарадской маёмасцю".* Аднак пераход электрастанцыі на баланс магістрата спрыяў не зніжэнню, а павышэнню цэн на электрычнасць. На пачатку кастрычніка 1929 года павышэнне цэн тлумачылася тым, што магістрат пачаў траціць вялікія грошы на будаўніцтва гарадскіх размеркавальных сетак і на будаўніцтва новага гмаху станцыі, яшчэ праз тры тыдні тарыфы на электрычнасць зноў павялічыліся.

У ліпені 1928 года на паседжанні гарадской рады было вырашана ўзяць пазыку для будаўніцтва новай электрастанцыі ў горадзе. У сакавіку 1929 года газета "Наваградскае жыццё" паведаміла: *"З пачатку траўня 1929 г. пачнецца будаўніцтва новай электрастанцыі па вуліцы Сувальскай, недалёка ад праваслаўных могілак. Кошт будоўлі склаў 800 000 зл. Станцыя павінна будзе атрымаць два рухавікі ў 260 і 150 к.с., у канцы зімы першы з рухавікоў ужо быў закуплены ў Варшаве".* І насамрэч, у траўні 1929 года пачалося будаўніцтва новай электрастанцыі коштам 800 000 злотых на старым месцы па вуліцы Сувальскай. У канцы жніўня прэса пісала: *"Гмах гарадской электрастанцыі надбудоўваецца другім паверхам, працы будуць закончаны да канца восені".* 28 жніўня на гэтай будоўлі паваліліся рыштаванне і прыціснула аднаго з будаўнікоў - Пятра Цярпілоўскага, у шпіталі канстатавалі пералом рэбраў.

Разам з рэканструкцыяй электрастанцыі горад пераходзіў з пастаяннага на пераменны ток, таму трэба было будаваць новыя размеркавальныя электрычныя сеткі з трансфарматарнымі пунктамі. Для гэтага былі пабудаваны тыпавыя трансфарматарныя пункты на гарадскім Рынку, каля старых могілак, па вуліцам Сувальскай і Варшаўскай, размеркавальны пункт насупраць вайсковага шпіталю. Гэты размеркавальны пункт з абсталяваннем фірмы "Ганц" існаваў да канца 1960-х гадоў. А тыпавы трансфарматарны пункт (падстанцыя 6/0,4 кВ) па вуліцы Варшаўскай захаваўся да нашага часу. Гэты тэхнічны будынак створаны па тыпавым праекце таго часу - на фотаздымках 1930-х гадоў такія ж трансфарматарныя пункты, крытыя дахоўкай, бачны каля рынкавай плошчы, могілак і каля староства.

У красавіку 1930 года венгерскай фірмай "Ганц" была закончана рэканструкцыя. На фотаздымку машыннай залы Лідскай электрастанцыі таго часу добра бачна шыльда фірмы "Ганц". Прэса паведамляла: *"Ліда мае электрычнасць. Нарэшце прыйшоў дзень, калі магістрат горада ў прысутнасці ваяводскіх уладаў афіцыйна адкрыў новапабудаваную гарадскую электрастанцыю. На ёй усталяваны два дызелі агульнай магутнасцю 410 к.с. Выкладзена кабельная размеркавальная сетка класа 6 кВ, якая аб'яднала шэсць трансфарматарных пунктаў. Гэта павінна забяспечыць нармальнае электразабеспячэнне і ўзровень напружання. Вонкавыя размеркавальныя сеткі 0,4 кВ*




***Машынная зала Лідскай электрастанцыі 1930 г. з шыльдай фірмы "Ганц"***



***Лідская электрастанцыя, 1930-я гг.***

*таксама рацыянальна перабудаваны. Галоўная і бакавыя вуліцы, на якіх апошнім часам павялічыўся дарожны рух, атрымаюць добрае асвятленне. Замест былых 75 ліхтароў на вуліцах горада зараз усталявана 185, і магістрат плануе ўсталяваць яшчэ 35 ліхтароў дадаткова.*

*Мантаж абсталявання, размеркавальных сетак і трансфарматарных пунктаў выканаы фірмай "Ганц", якая згадзілася зрабіць для нашага горада работу ў крэдыт на 4 гады і, верагодна, гэты крэдыт будзе пралангаваны яшчэ на паўгода ".* На пачатак 1931 года паведамлялася пра 6 714 м кабельных ліній 6 кВ у горадзе.

Трэба адзначыць, што будаўніцтвам электрастанцыі пераменнага току Ліда ў тэхналагічным сэнсе апярэдзіла суседнія гарады. Напрыклад, прэса паведамляла, што толькі ў 1932 годзе Гародня пачынала пераход на пераменны ток, адным з першых праектаваўся трансфарматарны пункт па вуліцы Дамініканскай гэтага горада, а ў Вільні толькі ў жніўні 1933 года паведамлялася пра пераход з пастаяннага на пераменны ток па вуліцы Міцкевіча (ад 3-га Траўня да моста).

Але ўжо ў 1936 годзе два дызельныя рухавікі гарадской электрастанцыі адпрацавалі свой рэсурс, патрабавалі амаль штодзённага рамонту і шмат вельмі дарагіх запасных частак. Энергія, якая выпрацоўвалася, мела высокі сабекошт. Таму стала зразумелым, што замест пастаяннага рамонту неабходна закупляць новае энергетычнае абсталяванне. Ужо ў красавіку 1937 года паведамлялася, што *"гарадская электрастанцыя атрымае новы камплект абсталявання. Зараз*



***Тыпавы трансфарматарны пункт (падстанцыя 6/0,4 кВ) па вуліцы Варшаўскай.*** *Сучасны выгляд*

*гарадская электрастанцыя мае два дызельрухавікі агульнай магутнасцю 220 кВт. З-за зносу гэтых машын і росту ўжывання электрычнасці гарадскія ўлады вырашылі купіць новы рухавік у 550 конскіх сіл. Новае абсталяванне будзе закуплена ... на грошы з доўгатэрміновай пазыкі ад Фонду Працы".* З пачаткам мадэрнізацыі насельніцтва папярэдзілі, што могуць быць перапынкі ў падачы электрычнасці, і таму неабходна мець у запасе рэзервовыя сродкі асвятлення. Прэса даводзіла, што пасля заканчэння работ гарадская электрастанцыя зможа забяспечыць электрычнасцю ўсе прадпрыемствы горада, а насельніцтва зможа карыстацца электраэнергіяй не толькі для асвятлення жытла, але нават для кухонных мэт. Павінен быў зменшыцца і сабекошт кілават-гадзіны.

1 ліпеня 1938 года адбыўся пробны пуск новага энергетычнага абсталявання, які закончыўся выбухам. Праз некалькі дзён адпаведная камісія высветліла, што з-за дрэннай зваркі труб і зборніка газу ў паліўнай апаратуры сістэма была негерметычнай, таму ўтварылася выбуховая газавая сумесь. Шкоду ад выбуху ў некалькі сотняў злотых пакрыў вінаваты за выбух інжынер Трок з Вільні. Такім чынам, першы этап рэканструкцыі закончыўся пры канцы лета 1938 года. Інфармацыі пра другі этап няма, найверагодней, што з-за пачатку вайны далейшыя работы пачаць не паспелі.

Дарэчы, пасля рэканструкцыі электрастанцыі кошт электрычнасці для спажыўцоў у горадзе панізіўся з 1 да 0,8 злотага за 1 кілават-гадзіну, аднак ён заставаўся вышэйшым, чым у суседніх гарадах. Трэба адзначыць, што ў параўнанні з нашым часам электрычнасць адносна заробкаў была надзвычай дарагой. Напрыклад, сярэднія сучасныя 100 і болей кілават-гадзін на кватэру за месяц абышліся б рабочаму з "Ардаля" (зараз - Лідская абутковая фабрыка) ў яго добры па тым часе сярэдні заробак - 80-100 злотых. Таму людзі абыходзіліся запальваннем слабых электрычных лямпачак толькі ў вячэрні час, а пра выкарыстанне электранагравальнікаў не магло ісці гаворкі. Не дзіўна, што і пасля рэканструкцыі гарадскія ўлады эканомілі на асвятленні нават публічных месцаў: *"У Лідзе пабудавана адмысловая аўтастанцыя, на якой спыняюцца агромністыя аўтобусы. Кожны дзень аўтастанцыя прымае 60 аўтобусаў. Аўтобусны рух пачынаецца з рання і закачваецца толькі ў 20-30. Зараз дзень кароткі, аўтастанцыя не мае электрычнага асвятлення, і таму разам з усім горадам пагружаецца ў цемру. Тыя электрычная ліхтары, якія ўсё ж свецяць у горадзе, маюць такія слабыя лямпы, што за 10 крокаў ад слупа ўжо цёмна. Таму абяцанне, што пасля рэканструкцыі электрастанцыі "Ліда будзе зіхацець", не выканана".*

З прэсы можна даведацца пра некаторыя здарэнні, якія датычылі супрацоўнікаў электрастанцыі.

У канцы жніўня 1929 года чыноўнік лідскай электрастанцыі Фішар у дрэнным настроі вярнуўся апоўдні дадому і патрабаваў у жонкі, каб тая яго накарміла. Калі жонка трохі прамарудзіла, ён, пакрыўдзіўшыся, выпіў бензін з бутэлькі, якая стаяла каля стала. Лекар канстатаваў апёкі горла і кішак. Нервовая была праца ў энергетыкаў у тыя часы... А ўзімку 1938 года знік без вестак гарадскі кантралёр электрастанцыі Лейба Леў. Па словах крэўных, кантралёр стаў ахвярай кахання без узаемнасці.

Не абыходзілася і без кур'ёзаў. У канцы 1937 года суд прыгаварыў чыноўніка адміністрацыі горада, назіральніка за гарадскімі работамі Палтарацкага да штрафу ў памеры 15 злотых за тое, што падчас начной змены на гарадской электрастанцыі ён збіў работніка Ўладзіслава Вільбіка: *"Гэта вынікі ўхвалы гарадской радай выдачы работнікам гарэлкі падчас працы"*.

6 траўня 1932 па Лідчыне прайшла магутная вясенняя бура, якая паваліла тэлефонныя слупы і парвала правады на чыгуначным шляху Ліда-Маладзечна (адразу, за мостам цераз Лідзейку). Маланка патрапіла ў гарадскую электрастанцыю, яе кіраўнік і дзяжурны манцёр часова страцілі прытомнасць, таму да 19-30 горад апынуўся ў цемры. З-за моцнага дажджу на 1 метр паднялася рака Лідзейка і месцамі выйшла з берагоў.

Тады ж, падчас работы на дзядзінцы плябані ксяндза Баярунца рабочыя абарвалі электрычны провад. Адзін з рабочых, Юзаф Місюра, вырашыў провад адкінуць і ўзяўся за яго рукой. *"Пацярпелы ў цяжкім стане трапіў у шпіталь"*.

Энергетыкам заўжды трэба было быць гатовымі выканаць неабходныя аварыйныя работы: *"13 ліпеня* (1937 года. - *Л.Л.*) *каля староства, на вуліцы Сувальскай, армейскі аўтамабіль збіў слуп электрычнай размеркавальнай сеткі"*.

У любой энергасістэме важным полем дзейнасці з'яўляецца ўлік адпушчанай спажыўцу электраэнергіі. У красавіку 1938 года гарадская ўправа афіцыйна перадала паліцыі справу на Станіслава Чаплю (Легіяновая, 20), які самавольна падключыўся да электрычнай сеткі і краў энергію. Такім жа незаконным чынам карысталіся электрычнасцю ўладальнікі спартыўнай залы яўрэйскага спартыўнага таварыства "Макабі" (Сувальская, 74). Але, як паліцыя пакарала парушальнікаў, невядома.

***Леанід Лаўрэш.***

# 50 гадоў СШ № 6 г. Ліды

У 1948 годзе была адкрыта пачатковая школа № 6, будынак якой знаходзіўся на вуліцы П. Асіпенкі.



У сакавіку 1966 года рабочыя будтрэста № 19 правялі мітынг, дзе быў закладзены падмурак будучай СШ № 6. На месцы, дзе планаваўся цэнтральны ўваход у школу, быў пакладзены велізарны валун і выкапаны катлаван пад падмурак. Адміністрацыяй горада было вырашана здаць школу да пачатку 1966 навучальнага года. Гэта быў самы высокі будынак у той час сярод прыватных дамоў. Ля цэнтральнага ўваходу размяшчаліся дзве скульптуры - піянера і піянеркі. 15 жніўня 1966 года будаўніцтва было закончана.



***Адкрыццё СШ № 6 1 верасня 1966 г.***

Першым дырэктарам сярэдняй школы з'яўляўся **Паторскі Іван Сяргеевіч**. Ён нарадзіўся ў вёсцы Обчын Любанскага раёна Менскай вобласці ў 1923 годзе. З'яўляўся ўдзельнікам Вялікай Айчыннай вайны 1941-1945 гг., ваяваў у партызанскім атрадзе імя Чапаева брыгады імя Куйбышава № 258.



***Паторскі І.С.***

Пасля вайны працаваў падатковым інспектарам у г. Любань, з 1946 па 1950 г. вучыўся ў Гарадзенскім педагагічным інстытуце. У1950-1951 гг. працаваў інспектарам-метадыстам у Гарадзенскім абласным камітэце. У 1951-1957 гг. выкладаў нямецкую мову ў СШ № 2 г. Ліды. З лютага 1957 года стаў дырэктарам 8-гадовай, а затым СШ № 7 г. Ліды. У1966-1972 гг. займаў пасаду дырэктара СШ № 6 г. Ліды.




Іван Сяргеевіч вялікую ўвагу надаваў грамадскай працы: з'яўляўся старшынём Гарадскога савета садзейнічання сям'і і школе, кіраўніком гарадской секцыі метадычнага аб'яднання настаўнікаў нямецкай мовы. За актыўную грамадскую працу быў узнагароджаны ганаровай граматай Міністэрства адукацыі БССР, ордэнам "Знак Пашаны", медалём "За працоўную доблесць".

Прыйшлі ў школу і першыя педагогі: Суворава Людміла Якаўлевна, Скрабец Ніна Рыгораўна, Лайкевіч Станіслава Антонаўна, Салаўёў Генадзь Сцяпанавіч, Баброва Людміла Іванаўна. Гэта былі людзі, адданыя сваёй працы, школе, дзецям. Многія з іх не расставаліся з СШ № 6 да самай пенсіі.



***Лайкевіч С.А.***

Такім педагогам стала Лайкевіч (Кулеш) Станіслава Антонаўна - легенда школы. Станіслава Антонаўна нарадзілася 9 лютага 1943 года ў вёсцы Ціўновічы Іўеўскага раёна. Бацька, Кулеш Антон Якаўлевіч, і маці, Кулеш Браніслава Тамашаўна, усё жыццё працавалі ў калгасе. У 1 клас пайшла ў 8-гадовую школу ў вёсцы Ўрцішкі, сярэднюю адукацыю атрымала ў Іўеўскай СШ № 12. У 1961-1966 гг. вучылася ў Гарадзенскім педагагічным інстытуце імя Я. Купалы.

*"У СШ № 6 я прыйшла працаваць у 1966 годзе пасля заканчэння Гарадзенскага педагагічнага інстытута імя Я. Купалы. 15 жніўня 1966 года ўвесь педагагічны калектыў выйшаў на працу і рыхтаваў новую школу да адкрыцця. Мы мылі вокны, парты, прыводзілі кабінеты ў парадак,"* - успамінае Станіслава Антонаўна.

Вучні Станіславы Антонаўны да цяперашняга часу падтрымліваюць з ёй сувязь і вельмі добра ўладкаваліся ў жыцці: Лапко Вера - заслужаны лекар, Захарэвіч Тамара - вядучы тэхнолаг Віцебскай абутковай фабрыкі, Лайкевіч Аксана - лекар навукова-даследчага інстытута анкалогіі г. Менска, Чарнавус Станіслаў

- супрацоўнік Міністэрства энергарэсурсаў.

Станіслава Антонаўна ўзнагароджана значком "Выдатнік асветы", медалём " У азнаменаванне стагоддзя з дня нараджэння Леніна", граматамі ўпраўлення адукацыі за педагагічную дзейнасць.

Звязаў лёс са школай № 6 і Зінчанку Ніну Гаўрылаўну - ветэрана Вялікай Айчыннай вайны. Зінчанка (Качан) Ніна Гаўрылаўна нарадзілася 26 верасня 1931 года ў вёсцы Хатынічы Лунінецкага раёна Берасцейскай вобласці. Да вайны Ніна Гаўрылаўна скончыла два класы.


Зінчанка Н.Г.

У 1941 годзе сям'я Качан не эвакуявалася, а з першых дзён вайны ўключылася ў барацьбу з фашыстамі. Бацька, Гаўрыла Паўлавіч, і яго сын Анатоль сталі сувязнымі партызанскіх атрадаў "Балтыец" і "Іскра". Ніна Гаўрылаўна актыўна дапамагала брату, выконвала даручэнні: перапісвала і распаўсюджвала ўлёткі, дастаўляла медыкаменты, дапамагала перавозіць міны ў партызанскі атрад.

У 1947 г. Ніна Гаўрылаўна скончыла 7 класаў школы № 1 г. Ліды. Пасля заканчэння школы было прынята цвёрдае рашэнне стаць настаўнікам. З 1948 да 1952 года яна з'яўлялася студэнткай Лідскага дзяржаўнага педагагічнага вучылішча.

Пачынала педагагічную дзейнасць у 1952 г. піянерважатай у школе № 2 г. Ліды, а ў 1953 годзе перавялася працаваць у Дакудаўскую школу, затым працавала ў СШ № 4, СШ № 3. Ніна Гаўрылаўна была ўзнагароджана юбілейным медалём "Дваццаць гадоў Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне" (7 траўня 1965 года), медалём "За баявыя заслугі" (21 ліпеня 1965 г.), юбілейным медалём "За доблесную працу. У азнаменаванне 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна". За дасягнутыя працоўныя поспехі не раз аб'яўлялася падзяка. Ніна Гаўрылаўна стала ветэранам працы.

У 2007 годзе Камісія па справах былых партызан і падпольшчыкаў Вялікай Айчыннай вайны 1941 - 1945 гадоў пацвердзіла рашэнне аднайменнай камісіі пры Лідскім райвыканкаме аб прызнанні Зінчанкі (Качан) Ніны Гаўрылаўны ўдзельнікам партызанскага і падпольнага руху Лідчыны.

27 студзеня 2010 г. Ніны Гаўрылаўны не стала.

У 1966/1967 навучальным годзе ў школе навучаліся 923 вучні. Усяго налічвалася 24 класы-камплекты па 42 вучні ў кожным. На "4" і "5" навучальны год скончылі 218 вучняў, выдатнікаў было 56 навучэнцаў. На паўторны курс навучання былі пакінуты 47 чалавек. Займаліся толькі ў першую змену. Вучыліся да 31 траўня. Экзамены здавалі ўсе класы разам на калідоры і ў спартыўнай зале.


*Піянерская дружына імя Аркадзя Гайдара*

1 верасня 1966 г. была створана піянерская дружына імя Аркадзя Гайдара, якая неаднаразова дамагалася высокіх паказчыкаў у працы і займала прызавыя месцы: 2-ое месца ў Фестывальнай віктарыне, 2-ое месца ў гарадскім фінале ваенна-спартыўнай гульні "Зарніца", прызавое месца за высокія паказчыкі ў аперацыі "Ўрэнгой", 1-ае месца ў агляддзе-конкурсе піянерскіх пакояў і наглядной агітацыі. Агітбрыгада піянерскай дружыны імя А. Гайдара заняла 2-ое месца ў агляддзе-конкурсе агітбрыгад "Фэст у Маскве - фестываль паўсюль". Рэдакцыя газеты "Піянер Беларусі", ЦК ЛКСМ Беларусі і Рэспубліканскі Савет піянерскай арганізацыі імя У.І. Леніна ўзнагародзілі граматай піянерскую дружыну СШ № 6, пераможцу 1-га тура конкурсу - агляду "Чырвоныя гваздзікі".

У 1968 годзе ў школе адбыўся першы выпуск 10-х класаў.



**Першы выпуск**

Вялікая ўвага ў школе надавалася фізічнаму выхаванню. Загадам № 42 загадчыка народнай адукацыі Лідскага гарвыканкама ад 2 студзеня 1971 г. СШ № 6 стала апорнай па фізвыхаванні. У 1972/1973 гг. да асноўнага будынка школы была прыбудавана спартыўная зала.

У гэты перыяд школа славілася вельмі прыгожымі кветнікамі, якія былі зробленыя пад кіраўніцтвам настаўніцы біялогіі Грэчыц Любові Аляксееўны. Не было ні аднаго семінара ў горадзе, каб госці не заехалі ў школу № 6 палюбавацца багаццем кветак.

Цікавым з'яўляецца факт, што за сярэдняй школай № 6 была замацавана аўтамашына "Масквіч - 426" для навучання практычнаму кіраванню.



*Кардаш Т.У.*

У 1972-1974 гадах пасаду дырэктара школы займала **Кардаш (Дрэвіц) Таццяна Ўладзіміраўна**. Яна нарадзілася ў 1933 годзе ў г. Лідзе ў сям'і службоўца (бацька працаваў у натарыяльнай канторы). У час нямецкай акупацыі разам з бацькамі знаходзілася ў родным горадзе. Пасля вызвалення савецкай арміяй г. Ліды паступіла ў 4 клас чыгуначнай СШ № 52 станцыі Ліда Брэст-Літоўскай чыгункі, якую скончыла ў 1951 годзе. У той жа год паступіла ў Гарадзенскі педагагічны інстытут імя Я. Купалы на фізіка-матэматычны факультэт і скончыла яго з адзнакай. Затым была накіравана на працу ў распараджэнне Лідскага гарана.

Са жніўня 1955 г. па люты 1958 года працавала выкладчыкам матэматыкі СШ № 2 г. Ліды, затым - у СШ № 7, СШ № 11. У 1966-1971 гг. займала пасаду завуча па вучэбна-выхаваўчай рабоце СШ № 6 г. Ліды, а з 1972 г. - дырэктара СШ № 6 г. Ліды.

Таццяна Ўладзіміраўна праявіла сябе як ініцыятыўны настаўнік, умелы арганізатар вучэбна-выхаваўчага працэсу.

Узнагароджана знакам "Выдатнік асветы БССР", юбілейным медалём "За доблесную працу", граматай Міністэрства асветы БССР.

Трэцім дырэктарам школы была **Зыранава (Кур'ян) Ніна Станіславаўна**. Яна нарадзілася ў 1931 годзе ў г. Лідзе ў сям'і рабочага чыгуначніка. У 1950 годзе паступіла ў Баранавіцкі настаўніцкі інстытут, у 1953 годзе - у Магілёўскі педагагічны інстытут на гістарычны факультэт. У 1955 годзе абрана першым сакратаром гаркама камсамолу. У 1957 годзе па сямейных абставінах пераехала ў г. Ліду, дзе паступіла на працу ў гаркам камсамолу і адпрацавала 11 гадоў.

Працавала дырэктарам школы працоўнай моладзі № 2, загадчыцай педкабінета, інспектарам гарана, старшынёй гаркама прафсаюза работнікаў асветы.

У 1974-1976 гг. - дырэктар СШ № 6 г. Ліда.

У 1970 г. узнагароджана медалём "За доблесную працу", у 1984 г. прысвоена званне настаўнік-метадыст.

На працягу дваццаці гадоў сярэднюю школу ўзначальваў **Кашпар Валянцін Фёдаравіч**. Ён нарадзіўся 6 жніўня 1928 года ў сялянскай сям'і ў горадзе Віцебску. У 1934 годзе паступіў у 1 клас Віцебскай сярэдняй школы. У красавіку 1945 года ён уладкоўваецца ў Швянчэнскую падатковую інспекцыю, са жніўня 1946 года па люты 1948 года - супрацоўнік Швянчэнскага спажывецкага таварыства. З 1949 года працуе на заводзе "Гомсельмаш".



*Кашпар В.Ф.*

У 1950 годзе ён паступае на паскораны курс навучання Гомельскага настаўніцкага інстытута імя В.Г. Чкалава, у 1952 годзе - Віленскага педагагічнага інстытута.



Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!
МІНІСТЭРСТВА АСВЕТЫ
Беларускай ССР
Тав. Кашпару
Валянціну Фёдаравічу

выдан нагрудны знак
„Выдатнік народнай асветы"
за выдатныя поспехі ў галіне
народнай асветы
Зак. 2285



УДОСТОВЕРЕНИЕ № 3178
Тов. Кашпар
Валентин Федорович
награжден значком
«ОТЛИЧНИК ПРОСВЕЩЕНИЯ СССР»
Министр просвещения СССР
гор. Москва.

Нагрудным значком «Отличник просвещения СССР» награждаются лучшие учителя, воспитатели, научные работники, организаторы народного образования, а также другие работники учреждений и предприятий Министерства просвещения СССР и профсоюза за большие успехи, достигнутые в области народного образования, и активное участие в общественно-политической жизни.



Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!
ПАСВЕДЧАННЕ № 2712
Тав. Кашпару
Валянціну Фёдаравічу
Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 6 кастрычніка 1975 г. прысвоена ганаровае званне
Заслужанага настаўніка
Беларускай ССР
Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
м. ф.
Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР
6 кастрычніка 1975 г.

Пролетарии всех стран, соединяйтесь!
УДОСТОВЕРЕНИЕ № 2712
Тов. Кашпару
Валентину Федоровичу
Указом Президиума Верховного Совета Белорусской ССР от 6 октября 1975 г. присвоено почетное звание
Заслуженного учителя
Белорусской ССР
Председатель Президиума Верховного Совета БССР
Секретарь Президиума Верховного Совета БССР
6 октября 1975 г.

З 1956 па 1964 гады Валянцін Фёдаравіч з'яўляўся дырэктарам Запольскай сярэдняй школы.

У 1965 годзе ён быў пераведзены дырэктарам у Красноўскую сярэднюю школу.

З 1965 года па 1976 год займаў пасаду загадчыка народнай адукацыі Лідскага раённага выканаўчага камітэта. За актыўную грамадзянскую пазіцыю, арганізатарскія і кіраўніцкія здольнасці, высокія вынікі ў вучэбнай дзейнасці Лідскага раёна Валянцін Фёдаравіч быў узнагароджаны граматамі, нагруднымі знакамі, медалём БССР, Лідскага райвыканкама і Гарадзенскага абласнога камітэта.

З 1976 года па 1996 год Валянцін Фёдаравіч працаваў дырэктарам сярэдняй школы № 6 г. Ліды.

Са справаздачы дырэктара В.Ф. Кашпара аб

добраўпарадкаванні школы:

*"Знешні выгляд: школа цагляная, пабудаваная па тыпавым праекце Б2-02-3-62 (на 960 вучнёўскіх парт). Тэрыторыя школы азяляненая, пасаджаны кусты, дрэвы, шмат кветак.*

*Удзел у афармленні ўнутранага памяшкання школы прымае мастацкі савет школы, кіруючыся пры гэтым выдадзенымі рэкамендацыямі па афармленні школы. Дапамагаюць у афармленні мастакі шэфскай арганізацыі.*

*1 паверх: акцябрацкія стэнды, стэнд па правілах паводзін навучэнцаў, правілы карыстання гардэробам.*

*2 паверх: стэнды "Імі ганарыцца школа", "Рашэнні 25 з'езду КПСС - у жыццё", абавязкі навучэнцаў школы з нагоды сустрэчы 60 - годдзя Вялікага Кастрычніка, экран падвядзення вынікаў сацыялістычных спаборніцтваў па школе.*

*3 паверх: стэнды па прафарыентацыі, па пачатковай вайсковай падрыхтоўцы, па гісторыі камсамолу."*

1978 год увайшоў у гісторыю школы як першы выпуск навучэнцаў, якія скончылі поўны курс СШ №6. У 1996 годзе школа адзначыла 30-годдзе.




***30-годдзе школы***

З 1996 па 2002 год на пасаду кіраўніка школы была прызначана **Чарнічэнка Людміла Мікалаеўна**. Менавіта яна стаяла ля вытоку кадэцкага руху.



***Чарнічэнка Л.М.***

У ліпені 1997 года Вайсковай Акадэміяй Рэспублікі Беларусь у асобе начальніка Г.І. Флярко і дырэктарам СШ № 6 Л.М. Чарнічэнка была заключана дамова аб стварэнні вайскова-патрыятычных класаў з выкарыстаннем праграмна-метадычнага кадравага забеспячэння Вайсковай Акадэміі. У гэтых класах навучаюцца юнакі і дзяўчаты, якія жадаюць у далейшым звязаць сваё жыццё з прафесіяй афіцэра. Падрыхтоўка вучняў вайскова-патрыятычнага класа - гэта ў вялікай ступені і працяг сямейных традыцый. Школа знаходзіцца ў Паўночным вайсковым гарадку, дзе жывуць сем'і вайскоўцаў, а іх дзеці цяпер маюць магчымасць са школьнай парты рыхтавацца да службы Радзіме, ісці па слядах бацькоў. Кураратарства над вайскова-патрыятычным класам ўзяў на сябе факультэт ракетных войскаў і артылерыі ВА Рэспублікі Беларусь.



***Першы рэспубліканскі злёт вайскова-патрыятычных класаў***



***Наведванне Вайсковай акадэміі Рэспублікі Беларусь***

Кадэцкія класы школы прымаюць актыўны ўдзел у розных акцыях і мерапрыемствах: зборах вайскова-патрыятычных класаў, днях адчыненых дзвярэй у ВА Рэспублікі Беларусь, у валанцёрскім руху.

З 2002 года дырэктарам школы з'яўляецца **Прэпляска Галіна Феліксаўна**. Яна нарадзілася 14 верасня 1962 года ў вёсцы Складанцы Воранаўскага раёна. У 1969 годзе Галіна Феліксаўна паступіла ў 1 клас Складанскай пачатковай школы, у 1972 годзе - у Нова-Казакоўскую базавую школу, у 1979 годзе - у Радуньскую сярэднюю школу і скончыла яе з за-



***Прэпляска Г.Ф.***

латым медалём. Затым 5 гадоў вучылася ў Гарадзенскім універсітэце імя Я. Купалы на матэматычным факультэце. У 1984 годзе па размеркаванні была накіравана ў СШ № 6 горада Ліды настаўнікам матэматыкі.

У 2009 г. СШ № 6 была прызнана лепшай сярод установ адукацыі.

Але найвялікшы гонар школы - яе выпускнікі. Сярод выпускнікоў школы ёсць тыя вучні, якія заявілі аб сабе на рэспубліканскім ўзроўні:

- Цыленьць Валерый Антонавіч - спартсмен - інструктар па грэка-рымскай барацьбе Мінспорту Рэспублікі Беларусь. Заслужаны майстар спорту (1996). Бронзавы прызёр Алімпійскіх гульняў (1996), 4-е месца на Алімпійскіх гульнях (2000), бронзавы прызёр чэмпіянату свету (1994), пераможца першынства СНД сярод моладзі (1991).



***Цыленьць В.А.***

Штогод у Лідзе праходзіць рэспубліканскі турнір па грэка-рымскай барацьбе на прызы В. Цыленьця.

- Малчанаў Аляксандр Яраслававіч - акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы (з 1999 года). Вядомыя ролі ў тэатры: Сымон ("Сымон-музыка"), Дырыжор ("Маэстра"), Сіман ("Брат мой, Сіман..."), Янка Здольнік ("Тутэйшыя"), Дземетрый ("Сон у чарадзейную ноч пасярэдзіне лета"), Джордж Пігэн ("№ 13")...



***Маўчанаў А.Я.***

За выкананне галоўнай ролі ў спектаклі "Маэстра" атрымаў дыплом "За лепшую мужчынскую ролю" ў тэатральным конкурсе XIII Менскага міжнароднага кінафестывалю "Лістапад".



***Сярэдняя школа № 6, сучасны выгляд***



***Калектыў школы, 2010 г.***

- Клім Іван - майстар спорту па цяжкай атлетыцы. Чэмпіён Еўропы 2011 года сярод кадэтаў. Чэмпіён Рэспублікі Беларусь 2011 года. Чэмпіён Алімпійскіх дзён моладзі Рэспублікі Беларусь 2011 года, чэмпіён Рэспублікі Беларусь 2011 года сярод юніёраў.

У сярэдняй школе № 6 працуюць і яе выпускнікі: Драгун Людміла Сямёнаўна, Хахлова Вольга Ўладзіміраўна, Богуш Наталля Іванаўна, Астравух Надзея Ўладзіміраўна, Малмыга Ірына Леанідаўна, Карчэўская Святлана Вяславаўна, Хлюст Валерыя Ўладзіміраўна і Масойць (Кучынская) Таццяна Фердынантаўна.

Адной з яркіх асоб школы з'яўляецца Масойць (Кучынская) Таццяна Фердынантаўна. У школьныя годы яна зарэкамендавала сябе як як прыкладная, адказная, актыўная вучаніца і выдатніца. Была ўзнагароджана ганаровымі граматамі за актыўны ўдзел у грамадскім жыцці і прыкладныя паводзіны, пахвальнымі лістамі за выдатную вучобу.



***Масойць Т.Ф.***

У 1986 годзе паступіла ў Гарадзенскі інстытут імя Я. Купалы на факультэт рускай мовы і літаратуры.

З 1997 года па 2013 год працавала намеснікам дырэктара па выхаваўчай працы ў СШ № 6, з 2013 года - намеснікам дырэктара па вучэбнай- выхаваўчай працы.

Узнагароджана граматамі Вайсковай Акадэміі Рэспублікі Беларусь за стараннасць, праяўленую пры навучанні навучэнцаў вайскова-патрыятычных класаў і і высокае прафесійнае майстэрства, граматамі Лідскага аддзела адукацыі за добрасумленнае выкананне прафесійных абавязкаў.

У 2016/2017 навучальным годзе школа адсвяткавала свой пяцідзесяцігадовы юбілей.

***Марыя Паўлаўна Зляніна,***
***Наталля Іванаўна Шыш.***

# Гартаючы старонкі гісторыі Мажэйкаўскай СШ

*Быць можа дзесьці вы чулі пра гэта,*
*А, можа, чыталі ў вершах паэта:*
*Ганка застрэшак, і птушкі гняздзечка,*
*І сельская школа над ціхаю рэчкай.*

Школа - гэта дзіўны дом! Тут усё перамяшалася: дзяцінства і сталасць, юнацтва і рамантыка, мары і рэальнае жыццё. Школа…. Мая родная школа…. Гэтыя словы адклікаюцца светлым пачуццём у душы кожнага…. Школьны двор, светлыя класы, спісаная крэйдай дошка, страчаны дзесьці дзённік, першая закаханасць.

І зараз мы з вамі трохі перанясёмся назад і ўспомнім, як гэта адбывалася. Да 1975 года школа знаходзілася ў в. Гасцілаўцы. Будынак быў стары. Школа не ўмяшчала ўсіх вучняў. А іх у той час вучылася 450 чалавек. Даводзілася займацца ў дзве змены. Для малодшых класаў быў адкрыты філіял. Звычайная вясковая хата ў Гасцілаўцах. У класах вучылася ад 28 да 35 чалавек. Часам спіс вучняў не ўмяшчаўся на старонцы журнала. Дырэктарам школы была прызначана **Якушава Марыя Пракопаўна**.

І вось у 1975 годзе пачалося будаўніцтва новага будынка школы ў в. Малое Мажэйкава. Школа была пабудавана хутка, у 1976 годзе. І пачала называцца яна Маламажэйкаўская сярэдняя школа, дзе першым дырэктарам стаў **Мамчыц Іосіф Іосіфавіч**. А ў 1977 годзе быў першы выпуск 10 класа. Дзеці (а іх было 50 чалавек), як птушаняты, вырваліся з гнязда на волю. Вядома, нялёгка быць першаадкрывальнікам. Даводзілася шмат працаваць, каб школа ажыла. Той памятнай восенню 1976 года парог новабудоўлі пераступіла шмат таленавітых і яркіх педагогаў: Якушава М.П., Станкевіч З.Ф., Рышкевіч А.А., Швакель А.А., Шаўкова Г.І., Сакаева Л.А., Ашмяна А.М., Салыга А.Ф. і многія іншыя.

З 25 снежня 1978 года дырэктарам школы прызначаны **Мароз Мікалай Іванавіч**. За пяць гадоў, з 1977 па 1981 год сярэднюю адукацыю атрымалі 235 чалавек. Школу тады так проста і звалі - дзесяцігодка. Дзеці рупліва працавалі, атрымлівалі веды і паступалі без рэпетытарства ў вышэйшыя навучальныя ўстановы, тэхнікумы. Школа змянялася на вачах. Былі абсталяваны навучальныя кабінеты фізікі, геаграфіі, хіміі, нямецкай мовы. Гонарам школы стаў свой вакальна-інструментальны ансамбль, які працаваў пад кіраўніцтвам настаўніка спеваў Ашмяны Аркадзя Міхайлавіча.

У 1977 годзе на тэрыторыі школы быў пабудаваны інтэрнат на 50 месцаў. І дзеці з далёкіх вёсак маглі жыць з восені да вясны. Які гэта быў дзіўны час! У 1977 годзе былі адкрыты школьныя майстэрні, дзе дзеці асвойвалі сталярную і слясарную справу пад кіраўніцтвам настаўніка працы Макарэвіча Антона Васільевіча.

Якім ідэйным было школьнае жыццё 70-х! Піянерскія атрады, зборы. Колькі было хвалявання ў дзень прыёму ў акцябраты, піянеры, камсамол! Шматлікія паходы па родным краі, турыстычныя злёты, паездкі па ўсім Савецкім Саюзе: г. Ленінград, Масква, Вільня, Берасце, Кіеў, Трокі, Коўня, праводзіцца ваеннаспартовая гульня "Зарніца", старшакласнікі ўдзельнічаюць у зборы шышак на насенне, хваёвых пупышак, садзяць лес, збіраюць макулатуру, металалом.

Мікалаю Іванавічу прыйшлося кіраваць і ў няпростыя гады перабудовы і галоснасці, распаду СССР і стварэння СНД. У нашай школе былі скасаваны акцябрацкая, піянерская і камсамольская арганізацыі, не стала чырвоных гальштукаў, барабаннага бою, горна. Але нягледзячы ні на што, кожны год быў поўны радасцямі, надзеямі, узлётамі і перамогамі. А 17 лютага 2004 года рашэннем Лідскага раённага выканаўчага камітэта Маламажэйкаўская сярэдняя школа пераназвана ва ўстанову адукацыі "Мажэйкаўская агульнаадукацыйная сярэдняя школа".

Мароз Мікалай Іванавіч прапрацаваў у школе на пасадзе дырэктара 28 гадоў, з 1978 года па 2006. Мы ўпэўнены, што кожны жыхар нашай мясцовасці - малады і стары - ведае Мікалая Іванавіча, як дырэктара нашай школы. Ён - цэлая гісторыя гэтага дзіўнага храма навукі. Усе памятаюць яго ўрокі фізікі, а недзе, можа, урокі жыцця. Ёсць такое слова "падзвіжнік". У ім спалучаюцца два вельмі важныя паняцці: рух і подзвіг. Яны вось і выяўляюць сутнасць працы дырэктара школы. Бо менавіта ён вёў вучняў скрозь гады дзяцінства, юнацтва.

А з 6 студзеня 2006 года дырэктарам школы прызначаны **Вашкевіч Іван Феліксавіч**. Школа зведала змены. Стала 12-гадовай. А ў 2008 г. па рэформе зноў у краіне вярнуліся да 11-гадовай адукацыі.

Праз два гады, з 1 верасня 2008 года на чале школы - малады, энергічны, поўны запалу К**адлубай Аляксандр Уладзіміравіч**, які прапрацаваў на пасадзе дырэктара тры гады.

*Дырэктарамі ўсе вы былі ў гэтай школе,*
*Не па чутках ведалі гэтую працу,*
*Глядзець у любых справах імкнуліся ў корань,*
*Іначай поспеху не дачакацца.*
*Не так лёгка дамагчыся павагі*
*Дзяцей, бацькоў, калегаў і начальства.*
*Надзейней за ўсё, з упартай адвагай,*
*З душой працаваць, і прыйдзе ўдача.*

Справядліва сказана, што пісьменнік жыве ў сваіх творах, мастак - у карцінах, скульптар - у створаных ім скульптурах. А настаўнік - у думках і ўчынках вучняў.

Кажучы пра нашую школу, мы не можам не

ўспомніць пра ветэранаў педагагічнай працы. Пра людзей, якія аддалі ўсё самае лепшае і светлае гэтай школе. Пра людзей, якія доўгія гады дзеляць з намі святы і будні. Пра людзей, якія стаяць ля самых вытокаў слаўнай гісторыі нашай школы. Станкевіч З.Ф. - намеснік дырэктара па навучальнай працы, Канюта І.В. - настаўнік пачатковых класаў, Капцэвіч Д.А. - настаўнік матэматыкі, Швакель А.А. - настаўнік хіміі і біялогіі, Дзмітрэвіч Л.В. - настаўнік матэматыкі, Рахатка Т.В. - настаўнік геаграфіі, Фіясь П.Н. - настаўнік фізкультуры, Рышкевіч А.А. - настаўнік геаграфіі, Ясюкевіч С.А. - настаўнік нямецкай мовы, Каплун А.І. - настаўнік беларускай мовы і літаратуры.

Сёння наша школа - гэта невялікі, дружны калектыў. Усяго 74 вучні атрымліваюць веды ў гэтым храме навукі. Па-хатняму цёпла і ўтульна ў класных пакоях. Створаны выдатныя ўмовы для развіцця дзяцей. І няхай школьніка зараз завуць навучэнцам, сутнасць засталася ранейшай - атрымаць веды і стаць чалавекам. А ўзначальвае школу вось ужо шосты год прафесіянал сваёй справы, ініцыятыўны кіраўнік - **Новікава Наталля Мечыславаўна**, якая заўсёды ідзе толькі наперад. З 2014 года намеснікам дырэктара па навучальнавыхаваўчай працы з'яўляецца Ткачук Таццяна Раманаўна.

На свеце шмат прафесій. Адны добра вядомыя, іншыя - менш. А вось з прафесіяй "настаўніка" кожны сустракаецца на сваім шляху. У большасці моў свету гэта слова ўтойвае глыбокі сэнс - настаўляць, вучыць. Услухайцеся: у рускай мове - *учитель*, у польскай - *наўчыцель*, у нямецкай - *лейрер*, у беларускай - *настаўнік*. Значыць, гэты чалавек не толькі вучыць, але і настаўляе на шлях праўды, выхоўвае лепшыя якасці: дабрыню, справядлівасць, спагадлівасць, працавітасць.

У нашай школе працуюць дасведчаныя педагогі: Каласоўская А.А., Мась А.М., Мароз Л.Р., Радкевіч Л.А., Сімончык Т.Н., Шмаро А.С., Адзінец А.Л., Мозгель Ж.С., Саўко М.Б., Ярмантовіч В.С., Філіповіч Н.В., Брылеўская М.Я., Булан Л.В., Мардакова В.Т., Лісоўскі І.А. Яны захоплены сваёй прафесіяй. За іх плячамі не адзін год руплівай працы. А гэта значыць, велізарны досвед і майстэрства, сотні вучняў, павага, адданасць сваёй справе.

Я лічу, што настаўнік - гэта пакліканне, а не проста прафесія. Каб стаць настаўнікам, трэба, як кажуць, валодаць дарам Божым. І ў нашай школе ёсць настаўніцкія дынастыі. Справу ўсяго жыцця завуча Станкевіч Зоі Фёдараўны працягнула яе дачка Новікава Наталля Мечыславаўна, настаўніцы Шаўковай Галіны Іосіфаўны - дачка, настаўніца пачатковых класаў Мозгель Жана Станіславаўна і сын Шаўкоў Аляксандр Станіслававіч - настаўнік працоўнага навучання СШ № 17 г. Ліды; у нашай школе працуюць былыя выпускнікі Шмаро Анжаліка Станіславаўна і Каласоўская Алена Аляксандраўна.

Сёння, кажучы пра калектыў школы, хочацца сказаць вялікі дзякуй людзям, якія сваёй сціплай, але неабходнай працай дапамагаюць берагчы храм навукі - нашу родную школу.

*Заггасу - за рамонты і парадак,*
*За смачныя абеды - кухарам,*
*За чысціню тэхнічным работнікам,*
*За чысціню двара мы дворніку*
*Жадаем сказаць асобны дзякуй,*
*Бо школьны двор заўсёды так вымецены вамі.*
*Дзякуй за цярпенне, за вашу гіганцкую працу.*
*Як добра, што побач з намі*
*Яны да гэтай пары прадаўжаюць завіхацца.*

Школа… Калі яе пакідаеш, яна яшчэ доўга будзе сніцца. Звычайна, сніцца тое, чаго бракуе ў жыцці. Калі пакідаеш родныя месцы, яны становяцца яшчэ мілейшымі, прыгажэйшымі. Радзіма, Беларусь, Мажэйкаўская зямля. Яркае сонца, блакітнае неба, дзіўная прырода, добрыя людзі. Усё тут сваё, роднае.

Гонар школы - яе вучні. А іх за 40 гадоў было нямала. Вядома, мы не можам назваць усіх пайменна, але некаторых успомнім. Скончылі школу з медалём: Зінькевіч Таццяна і Сяргеева Наталля, Капцэвіч Аксана, Волас Яўгенія, Сергеева Паліна, Каральчук Дзіяна, Трафімава Анастасія, Роўба Ліяна.

Ёсць і тыя, хто працягвае традыцыі Мажэйкаўскай СШ і выкладае ў вышэйшых навучальных установах: Пацук Марына, (БДУ), Самалётава Валянціна (БДЭУ), Трафімаў Аляксей (ГРДУ), Мароз Ілля (БДУ). Стала майстрам спорту - Пруд Ангеліна.

А старт у гэту светлую дарогу ім быў дадзены нашымі настаўнікамі. Мы ганарымся сваімі выпускнікамі.

2016 год абвешчаны Годам Культуры. Наша школа працуе ў цесным супрацоўніцтве з работнікамі творчых прафесій. Удзельнікі вакальна-інструментальнага ансамбля Шмаро Юры, Бачыла Ўладзімір - сёння музыкі. Музыка плыве ў іх выкананні і проста зачароўвае слухача. Працягнулі справы бацькоў Шмаро Аляксандр, Бачыла Дзіяна.

Сёння школа ганарыцца выпускніцай Палейчык Алёнай, якая брала ўдзел у 13 нацыянальным фэсце беларускай песні і паэзіі ў Маладзечна, у Фэсце - конкурсе "Новыя імёны ў Гародні", была ўдзельніцай адборачнага тура на 25-ым Міжнародным фэсце мастацтваў "Славянскі базар".

Мы ўпэўнены, што кожны з нашых выпускнікоў знайшоў сваё месца ў жыцці. І не важна, якую прафесію вы абралі, важней, кім вы сталі. Выпускнікі - гэта будучыня школы. І школа па праву можа вамі ганарыцца.

У лістападзе 2016 года школа адзначыла свой 40-гадовы юбілей. На імпрэзу сабралася шмат гасцей, якія прыехалі з розных куткоў Беларусі. Акрамя былых выпускнікоў і жыхароў аграгарадка, на юбілеі прысутнічаў начальнік Аддзела адукацыі, спорту і турызму Лідскага райвыканкама Кадлубай А.В., які сказаў шмат цёплых слоў на адрас настаўнікаў нашай школы. Многія з прысутных у зале не толькі маглі пачуць у гэты дзень свае прозвішчы, гістарычныя факты за 40 гадоў існавання школы, але і ўбачыць сябе на шматлікіх слайдах, якія паказваліся. За гэтыя гады 888 вучняў атрымалі пасведчанне пра агульную базавую аду-






кацыю, 740 - атэстаты пра агульную сярэднюю адукацыю.

На працягу ўрачыстай часткі сваімі выступамі гледачоў цешыў ансамбль "Каханачка", лашчылі слых песні ў выкананні настаўнікаў школы: Адзінец А.Л. і Філіповіча Н.В., з вітальнымі словамі звярталіся да сабраных былыя выпускнікі школы: Іода Ігар (першакласнік 1976 года), Юшкевіч Таццяна, Сергеева Аксана. Хацелася б выказаць словы падзякі тым, хто аказваў і аказвае нам фінансавую дапамогу. ЛРСУП "Мажэйкава" з'яўляецца нашым прадпрыемствам-шэфам, дзякуючы якому мы маем бясплатную гародніну, каб знізіць цану харчавання вучняў, набылі кампутар, тэлевізар, мэблю, забяспечваем запатрабаванні ўстановы ў канцылярскіх і гаспадарчых таварах.

Дзяцінства праімчалася, а школа засталася такой жа юнай і задорнай. І пакуль ёсць наша школа, мы з вамі заўсёды будзем маладымі, дзяўчынкамі і хлапчукамі з чыстымі, адкрытымі сэрцамі. Жыві, школа! З Днём нараджэння, школа!

*Цяплей чалавеку ў жыцця перамолах,*
*У краі суровым цяплей ад таго,*
*Што дзесьці на свеце ёсць мілая школа,*
*Ёсць добрая школа яго.*
*І дзе б ты ні быў, што б ні рабіў,*
*Застаецца табе школа роднай.*
*Яе, як надзею, ты ў сабе не згубіў,*
*І хочаш павек быць яе годным.*

***Таццяна Раманаўна Ткачук,***
***намеснік дырэктара***
***па навучальна-выхаваўчай***
***працы.***

# Лідскія юбіляры 2016 года
# Сын сваёй зямлі

## *75-гадовы юбілей адзначыў Віктар Іванавіч Кудла*

17 кастрычніка 2016 года 75-гадовы юбілей адзначыў Віктар Іванавіч Кудла. Чалавек, які ўсё жыццё аддаў роднай зямлі, напэўна, не патрабуе прадстаўлення. Былы дырэктар эксперыментальнай базы "Ніва", фермер, краязнавец, мастак...

### *Дарогі жыцця*

*- З маім нараджэннем звязана цікавая гісторыя: я, можна сказаць, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны,* - расказвае з усмешкай на твары Віктар Іванавіч. - *У траўні 1941-га бацька быў прызваны на вайсковыя зборы пад Гародню. Мама, якая была цяжарная мною, і яшчэ адна вясковая жанчына 20 чэрвеня вырашылі наведаць сваіх мужоў. Дабраліся да самой часткі, якая стаяла за Нёманам, сустрэліся. Першыя словы бацькі былі: "Што ж вы прыехалі?! Вайна будзе! Едзьце дамоў хутчэй". І жанчыны вярталіся. Начавалі ў Гародні, дзе а чацвёртай гадзіне раніцы сустрэлі вайну. Яны беглі ў кірунку Ліды. Неба паласавалі самалёты, паўсюль - выбухі, пажары... Як толькі ляцеў самалёт, хаваліся ў канаву або хмызнякі. Калі ўсё сціхала, гукалі адна адну: "Верка, ты жывая?" - "Жывая". І беглі далей... Праз чатыры месяцы пасля тых падзей нарадзіўся я. Дарэчы, і тут таксама цікава склалася: маці гасцявала ў бабулі Еўкі на хутары Праважа і вярталася дахаты. Нарадзіла мяне ў паўкошыку (вазку), лічы, на самым нашым падворку... Часта яна мне потым казала: "Нарадзіла я цябе ў дарозе, вось і ты ўсё жыццё кудысьці едзеш і едзеш". Так і ёсць: у сталым узросце я аб'ехаў шмат краін.*

Дарог у жыцці Віктара Кудлы сапраўды было шмат. Першая і вялікая пачыналася па моры, падчас службы на флоце. Чатыры гады ён праслужыў на крэйсеры "Камсамолец" Талінскай ваенна-марской базы.

На караблі служыў вежавым артэлектрыкам і старшынём рэйдавага камандзірскага катэра, апошні год быў сакратаром камітэта камсамолу. Крэйсер курсіраваў у Балтыйскім моры, нейтральных водах, удзельнічаў у вучэннях краін Варшаўскай дамовы. Дарэчы, менавіта падчас гэтых вучэнняў у акваторыі Шчэцінскага заліва ў складаных штармавых умовах Віктару Кудлу давялося праявіць свае здольнасці і мужнасць, за што атрымаў медаль з рук старшыні Савета Міністраў СССР Аляксея Касыгіна. Віктару Іванавічу выпала сустрэцца з касманаўтам Германам Цітовым. *"На караблі, з выпадку 20-годдзя вызвалення Эстоніі, прымалі гасцей, сярод якіх быў і Г. Цітоў,* - расказвае Віктар Іванавіч. - *Раніцай другога дня гасцей катэрам*



**Старшыня Савета Міністраў СССР Аляксей Касыгін уручае медаль матросу Віктару Кудлу**

*дастаўлялі на востраў Саарэма. На пірсе ўжо стаялі дзяўчаты з кветкамі. А ў мяне на катэры быў сам Цітоў. Я прапанаваў яму: "Герман Сцяпанавіч, зайдзіце ў рубку." Ён падышоў да штурвала (на касмічным караблі штурвалаў жа няма) і, спытаўшы дазволу, крутнуў да канца ўлева, а потым да канца ўправа. Зрабіў на хвалях "крутое піке". Уляцела мне потым ад начальства, але адгаворка была: гэта ж сам Цітоў!"*

### *Дэвіз гаспадаркі - "Уперад!"*

Па заканчэнні службы ў флоце Віктар Кудла атрымаў прапанову застацца ў Таліне. Але гэты варыянт ён не разглядаў - імкнуўся дахаты. Ды і абставіны так складваліся: старэйшы брат паехаў па камсамольскай пуцёўцы ў Краснаярск, дзе і застаўся, малодшыя былі яшчэ малыя, бацькі ніяк не маглі дабудаваць хату. І Віктар Іванавіч вярнуўся дамоў. Да арміі ён ужо скончыў сельгастэхнікум і атрымаў спецыяльнасць заатэхніка. Пра гэта ў мясцовым калгасе даведаліся, і ледзь толькі ўчарашні марак (дарэчы, старшы лейтэнант ВМФ) пераступіў парог хаты, як прыехаў старшыня калгаса.

За працу заатэхнікам Віктар Кудла ўзяўся з ахвотай. Ужо праз год яго перавялі намеснікам старшыні калгаса імя Вярхоўнага Савета БССР у в. Мыто. Потым накіравалі вучыцца. Пасля заканчэння Гарадзенскага сельгасінстытута прызначылі галоўным заатэхнікам у калгас "Дворышча". Трэба сказаць, калгасы "Дворышча" і "Савецкі" (ў суседніх Крыніцах) былі самымі адсталымі. І раённае кіраўніцтва зрабіла стаўку менавіта на маладога спецыяліста з "Дворышча", прапанаваўшы яму ўзначаліць "Савецкі". На прапа-

новы Віктар Кудла доўга адказваў адмовай.

*- Ішоў 1973 год... Было свята Кастрычніцкай рэвалюцыі, у госці прыехаў брат,* - успамінае Віктар Іванавіч. *- І тут раздаецца тэлефонны званок - першы сакратар райкама партыі віншуе са святам і пытае: "А можна я прыеду?" Праз паўгадзіны белая "Волга" раённага начальніка заязджае ў двор. Пагаварылі... "Мы рэкамендуем Віктара старшынём "Савецкага", а ён усё адмаўляецца", - адзначыў сакратар, на што брат адказаў: "Гэта яго справа". А жонка міжволі: "Можа, ты годзік папрацуеш, пайдзі ўжо, надта просяць...". І гэтым як адрэзала мне шлях назад.*

*- На той час была газета "Ўперад"* (зараз - "Лідская газета"), *і "Ўперад" стала дэвізам маёй гаспадаркі,* - расказвае Віктар Кудла. *- Першае, з чаго мы пачалі, - гэта будаўніцтва. Пабудавалі дзіцячы сад, кацельню, жывёлагадоўчы комплекс, бульбасховішча, бульбасартавальны пункт. Вырашылі зрабіць упор менавіта на вырошчванне бульбы. На базе гаспадаркі стварылі эксперыментальную базу "Савецкую", адну з лепшых гаспадарак у раёне.*

На ўзроўні міністэрства на Лідчыне было вырашана зрабіць яшчэ адну эксперыментальную базу. Лепшага варыянту, чым суседняе з "Савецкай" "Дворышча", не было. Таму і вырашылі далучыць саўгас да "Савецкай", а ўзначаліць узбуйненую гаспадарку - Віктару Кудлу.



***Дырэктар эксперыментальнай базы "Ніва"***

Шмат сіл і старанняў прыйшлося прыкласці маладому кіраўніку самай вялікай на той час гаспадаркі ў раёне, каб згуртаваць новы калектыў, умацаваць дысцыпліну, накіраваць спецыялістаў на рашэнне перспектыўных задач. У першую чаргу вырашаліся пытанні ўмацавання матэрыяльна-тэхнічнай базы, будаўніцтва, рэканструкцыі жывёлагадоўчых ферм з поўнай механізацыяй працэсаў, стварэннем бытавых умоў (душавых, лазняў) для жывёлаводаў, што і было зроблена на МТФ "Мігуны", "Гурыны", "Гімбуты". Свінагадоўчая ферма "Мергінцы" пасля рэканструкцыі была прызнана лепшым у вобласці міні-комплексам замкнёнага цыклу. За гэтыя гады ў новай аб'яднанай гаспадарцы, якая атрымала назву "Ніва", былі пабудаваны аграхімцэнтр, збожжасховішча вежавага тыпу са збожжасушылкамі, сенасховішча і бульбасховішча, склады для будматэрыялаў, новыя гаражы. Добраўпарадкаваны ўсе палявыя і пасялковыя дарогі. Шмат было зроблена па сацыяльна-культурным развіцці Дворышча: пабудаваны адміністрацыйны будынак, сярэдняя школа, ФАП, быткамбінат, дамы на вул. Цэнтральнай і Зорнай.



***На прафсаюзнай рабоце***

Набытак таленавітага кіраўніка - не менш таленавітыя вучні. З "ніўскай школы" выйшлі вядомыя сёння на Лідчыне спецыялісты і кіраўнікі: Уладзіслаў Лабецкі, Віктар Юхно, Станіслаў Грышкевіч, Іван Жынко, Васіль Алясюк, Станіслаў Мікутайціс і іншыя.

***Нам засталася спадчына***

Дворышча - цікавае гістарычнае месца. Віктар Кудла, чалавек ад зямлі, не мог застацца абыякавым да той спадчыны, што засталася тут. Але глядзеў на яе не толькі сэрцам, як улюбёны ва ўсё роднае чалавек, але і як гаспадар. З яго падачы ў гаспадарцы вырашылі аднавіць у Дворышчы ансамбль панскага фальварка. Падкрэслю: гэта было ў пачатку 80-х, калі пра аграэкатурызм ніхто нават не вёў і размовы.

У Дворышча былі запрошаны архітэктары, якія распрацавалі праект сядзібна-этнаграфічнага комплексу. Пачыналася ўсё з дарогі, дзе знарок быў пакінуты брук. Злева ад яе адкрываўся былы крухмальны завод, справа - карчма. Далей - возера, млын... "Млын быў цалкам рэканструяваны. Дарэчы, калі пачалі абкопваць яго, дакапаліся да асновы. Аказваецца, стаіць фундамент млына на палях (сваях). Больш за сто гадоў палі стаяць, а нібыта ўчора пастаўлены. На першым паверсе была зроблена зала ўрачыстых грамадзянскіх абрадаў, на другім у адпаведным інтэр'еры пардугледжаны пакоі маладой, маладога, сватоў, мельніка. На трэцім - банкетная зала, там жа кухня (яна павінна была працаваць на ўласных прадуктах гаспадаркі). На кожным паверсе ўладкаваны каміны, працаваў грузавы ліфт. У рэстаўраванай чатырохпавярховай вежы быў створаны гістарычна-этнаграфічны музей "Зямля і людзі". Першы паверх - экспазіцыя каменнага веку. Тут жа адлюстраваны перыяд Кастрычніцкай рэвалюцыі: сярод экспанатаў - шынель мясцовага жыхара Іосіфа Бічаля, які бачыў самога Леніна. Падымаемся на другі паверх - "Вялікая Айчынная вайна". Трэці - "Першыя калгасы". Чацвёрты - "Эксперыментальная база "Ніва". Дах - аглядная пляцоўка, з якой адкрываліся краявіды Дворышча.

Дарэчы, са стварэння гэтага комплексу пачыналася і конна-спартыўная школа, былі закуплены спартыўныя коні. Тады ж на забалочаных і запушчаных нізінах былі выкапаны сажалкі. Старадаўні парк вычышчаны, пасаджаны новы парк уздоўж р. Жыжмы. Па цэнтральнай вуліцы пракладзены ліўнёвая каналізацыя, кабель вулічнага асвятлення. Усё гэта рабілі самі людзі, жыхары Дворышча, падчас суботнікаў, якія арганізоўваліся амаль штотыдзень.

*- Мне было вельмі прыемна, калі я бачыў, што дварышчанцы паказваюць гасцям Дворышча, ганарацца зробленым,* - расказвае Віктар Кудла. *- І вельмі сумна зараз, калі бачу, што ад музея нічога не засталося.*



***На свяце фермераў***

***Вечны покліч***

Напэўна, перад кожным чалавекам, які аднойчы ў жыцці пакідае працу, паўстае пытанне: а што далей? Так думаў і Віктар Іванавіч. У яго была магчымасць пераехаць у Ліду, але, параіўшыся з сям'ёй, вырашыў застацца ў Дворышчы. Адзін з сыноў скончыў сельгасінстытут, другі - гістарычны факультэт. Трэба сказаць, што абодва сталі годным працягам бацькі, увабраўшы ўсе лепшыя рысы і памкненні. У той час толькі пачынаўся фермерскі рух. Праца на зямлі была сугучна покліча душы былога дырэктара эксперыментальнай базы. І Віктар Іванавіч разам з малодшым сынам Артурам адкрылі фермерскую гаспадарку "Расінка - 2002". Узялі 15 гектараў зямлі (зараз ужо 51), на якіх вырошчваюць бульбу, збожжавыя і агародніну. З цягам часу ў фермерства ўключыўся старэйшы сын Вадзім, а малодшы заняўся іншай справай.



***З сынамі***

Сам Віктар Кудла ўзначаліў раённую асацыяцыю фермерскіх гаспадарак. Адначасова вядзе нястомную працу па захаванні спадчыны, памяці аб падзеях мінуўшчыны. Сабраў багаты краязнаўчы матэрыял, вядзе перапіску з архівамі, а галоўнае - спяшаецца запісаць успаміны жывых сведкаў. Апошнім часам працуе над успамінамі пра Ганчарскую школу, збірае матэрыял пра родную вёску Дроздава. Вялікую працу Віктар Кудла правёў па адной з самых малавядомых тэм - бежанстве Першай сусветнай вайны. У планах краязнаўца - прадоўжыць гістарычны экскурс па Дворышчы і накіды пра ваеннае ліхалецце ў родным краі...

*- Мой святы абавязак - зрабіць усё, каб гісторыя засталася ў памяці дзеля нашчадкаў.*

Партрэт юбіляра, напэўна, быў бы няпоўным без некалькіх штрыхоў аб яго захапленнях. Адно з іх - гэта карціны: Віктар Кудла малюе з самага дзяцінства, найбольш часта - родныя краявіды. Другое - разьбярства па дрэве. Трэцяе - садаводства: ён вырошчвае і выводзіць розныя гатункі пладовых дрэў, вінаграду, туй і іншых раслін.



***За мальбертам***

Магчыма, многага пра Віктара Іванавіча яшчэ не ўдалося сказаць. Напрыклад, пра высокае прызнанне яго працы, мноства ўзнагарод. Але, напэўна, галоўныя ўзнагароды ў жыцці не тыя, што захоўваюцца ў футлярах і папках, а непадуладныя часу пачуцці павагі і падзякі ад многіх людзей. Тых, хто проста ведаў, жыў, працаваў. Хто сёння, узяўшы ў рукі газету, шчыра радуецца таму, што гэты чалавек быў, ёсць і яшчэ будзе.

***Вольга Яхантава.***

# І Быкаў такі малады...

## *Да 70-годдзя Ларысы Канчэўскай*



*Канчэўская Ларыса Георгіеўна. Нарадзілася на в. Сахалін 9 кастрычніка 1946 г. Жыла ў Расіі, у Латвіі. З 1956 г. жыве ў Лідзе. Скончыла філалагічны факультэт БДУ. Была рабочай, лабаранткай на заводзе электравырабаў, мастаком-афарміцелем, касірам у банку, малодшым навуковым супрацоўнікам у гарадскім архіве, інструктарам гарвыканкама, інжынерам па эстэтыцы, выкладчыкам у педвучылішчы. Пенсіянерка. Зрэдку друкавалася ў "Лідскай газеце" і газеце "Чистый мир". Друкавалася ў альманаху "Ад лідскіх муроў". Аўтар "Маленькай аповесці пра любоў", надрукаванай у альманаху "Ад лідскіх муроў" № 8.*

*Дапісвае аўтабіяграфічны раман, раздзел з якога друкуецца тут.*

***Частка 5. Форум пра сувязь пакаленняў, дзе я дазналася пра творчыя планы маладога пісьменніка.***

Вярнуўшыся з падарожжа па Ўкраіне, Крыме і Малдавіі, я аддавалася адчайнаму марнаванню часу. Ела мамчыны супы і баршчы без спрэчак і з хвацкім апетытам. Аказалася, што яны проста цудоўныя! Спала так, быццам не высыпалася цэлы год. Якая асалода нікуды не спяшацца і спаць на сваім ложку ў крухмальнай бялізне, слухаючы скрозь сон ранішняе гуленне галубоў і дзікаваты заклік галубкі, які не трывожыць і ні да чаго не абавязвае.

Днём, пасля невялікай дапамогі маме я з сеткай новых падручнікаў па літаратуры, астраноміі і біялогіі прабіралася ў парк, у які-небудзь з маляўнічых бязлюдных закуткаў. Мець зносіны ні з кім пакуль не хацелася. Адзінота была сапраўдным кайфам!

У адзін з самых цікавых, напружаных момантаў, калі я проста глытала артыкул Бялінскага пра "лішніх людзей", валяючыся ў высокай траве, нада мной раздаўся голас суседкі цёці Сары Кірэевай:

- Ну, знайшла я цябе ўсё-такі! Дабрыдзень, Ларыса.

- Ой, цёця Сара, дабрыдзень… Я так занята цяпер, вы бачыце.

- Я бачу.

Яна прысела побач са мной на траву.

- Мне вельмі патрэбна твая дапамога! На днях ў Доме афіцэраў будзе праходзіць вялікая цікавая сустрэча ўдзельнікаў вайны, партызан, пісьменнікаў з моладдзю. Трэба вывучыць верш і быць прадстаўніком вучнёўскай моладзі.

- Цёця Сара! Ну, дайце хоць адпачыць! - заныла я.

- Адпачыла ў паходзе? Усё. Лета канчаецца!

Справа ў тым, што Сара Аронаўна працавала ў Доме афіцэраў арганізатарам усіх масавых мерапрыемстваў: і культурных, і палітычных. Калі б вы ведалі, якая гэта працаёмкая, клапатлівая і цікавая праца! Пры ўсім гэтым наша суседка была, прынамсі, выглядала, ураўнаважаным чалавекам, умеўшым супакоіць і падбадзёрыць афіцэраў, якія часцяком нерваваліся і зрываліся, калі справа ішла не так, як хацелася б.

- Вось табе тэкст верша.

- Да якога часу вывучыць? Колькі строф?

- На паслязаўтра. Строфы сама палічыш. Заўтра мне прачытаеш на памяць.

Дом афіцэраў быў для мяне ўжо даўно трэцім прыстанкам пасля хаты і школы. Адмаўляць у дапамозе тым, хто мяне развіваў і даваў магчымасць атрымліваць шырокую культурную інфармацыю, было, мякка кажучы, недалікатна.

Я яшчэ паныла ўслед адыходзіўшай суседцы, загарнула падручнік з літаратурнай крытыкай і неахвотна пачала ўчытвацца ў верш. Ну, быццам, нічога… Не лозунговые вершы, якія так навязлі ў зубах… Але даўгаваты. Трэба ж хутка запомніць… І яшчэ па своему яго перажыць. Інакш прагучыць непераканаўча, фальшыва… Так, Вольга Фокіна - аўтар. "Чаромха".

*Черёмуха за старым огородом -*
*Единственная память об отце.*
*Он был тогда безусым, безбородым,*
*С улыбкой на обветренном лице.*
*Колхозный бригадир.*
*Вернувшись с поля,*
*Шагал на речку мыться, а потом,*
*Перекусив ржаного хлеба с солью,*
*Полено брал, да нож, да долото.*
*В траву катились стружки-завитушки,*
*Как волосы дочуркины, белы,*
*И начинали новые игрушки*
*В избе сосновой обживать углы…*
……………………………………

І г.д. Бацька пайшоў на вайну і загінуў.
І ў канцы:
*Те шрамы - знаки мужества и силы,*
*Святая память отгремевших дней.*
*…Спи, мой отец!*

*Цвести по всей России*
*Раскидистой черёмухе твоей.*

Трэба растлумачыць, што падзея, якая рыхтавалася ў нашым горадзе было водгукам, ці хутчэй шматразовым рэхам сакавіцкай ідэалагічнай нарады ў Крамлі гэтага ж 1962 года. Вельмі ўзлаваўся Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў на творчую моладзь СССР, якая пісала вершы, прозу, карціны, здымала фільмы, не цалкам зразумелыя партыйнай і міністэрскай верхавіне. Большасць яе даўно ўяўляла сабою старэйшых і вельмі старых людзей. Многія з іх кіравалі творчымі саюзамі, ацэньвалі мастацтва, рэцэнзавалі яго. І іх унутраны лозунг быў: "Не пушчаць і забараняць".

Пачалося з выставы маладых мастакоў у Манежы. Хрушчоў з паплечнікамі яе наведалі і ашалелі ад гневу. Замест звыклых рэалістычных карцін з партрэтамі, нацюрмортамі і пейзажамі, на якіх усё зразумела - абстракцыянізм у выглядзе беспрадметнай мазаніны, або прадметы ў незразумелых прапорцыях і ўзаемаадносінах. Што гэта? Тайнапіс? Здзек? Ці яшчэ горш - дуля ў кішэні?... Каму дуля?... Уладзе?!! Распусціліся, разумееш!... А ну, перачытаць, перагледзець гэтых новаяўленых геніяў! А потым, адпаведна, усіх - на крамлёўскі дыван! Хай паглядзяць у вочы таму, чый хлеб ядуць! Народу!!!

"Лупцоўка" маладых талентаў у Крамлі транслявалася па шматлікіх радыёкропках, радыёпрымачах і рэдкіх яшчэ тэлевізарах. Любімыя таленавітыя паэты краіны затыхаліся і чырванелі ад немагчымасці ўставіць слова ў несупынны слоўны струмень хрушчоўскага гнеўнага барытону. Жорстка ўляцела Яўгену Еўтушэнку, Роберту Раждзественскаму, Бэле Ахмадулінай, Андрэю Вазнясенскаму, Васілю Аксёнаву, рэжысёрам Марлену Хуцыеву, скульптару Эрнсту Неізвестнаму, мастаку Барысу Жутоўскаму і многім іншым.

Перажыванні маладых пісьменнікаў, паэтаў і саму крамлёўскую падзею вельмі жыва апісаў Васіль Аксёнаў (якога ўсё-такі гадоў праз пятнаццаць выслалі з СССР) у сваёй кнізе "Палымяны запал".

Партыю занепакоіла, што ў краіне з'явілася захапленне заходніцтвам у мастацтве, у ладзе жыцця, у палітыцы. Спыніліся на тым, што многія з савецкай моладзі не ведаюць правільнага шляху ў далейшым жыцці. І трэба пра гэта пагаварыць усёй краінай - на заводах, фабрыках, у калгасах, у вайсковых частках, у творчых саюзах пісьменнікаў, мастакоў, кінематаграфістаў.

Па сутнасці даверлівы Мікіта Сяргеевіч "павёўся" на інтрыгу вернага сталінскага вучня Суслава. У выніку сапсаваў адносіны з тымі, хто быў яму ўдзячны і верны за "адлігу". Хрушчоў гэта зразумеў сам у 1964 годзе, калі яго па-зладзейску "зрынулі" таварышы па партыі.

Пастаўленае пытанне было вельмі няпростым. Яно патрабавала сур'ёзнай і ўдумлівай падрыхтоўкі ад ідэолагаў усіх рангаў. Але мне то, пятнаццацігадовай дзяўчынцы, выгадаванай на нашых песнях, фільмах, рускай класічнай і савецкай літаратуры, на той бліжняй гісторыі, якая здзяйснялася на нашых вачах і на вачах нашых бацькоў, мне то было ўсё ясна:

*"...Жила бы страна родная,*
*И нету иных забот…"*
Што яшчэ растлумачваць?

Напэўна, гэта было на працоўным тыдні, таму што і прыбылыя, і свае знакамітыя госці пасля агульнай урачыстай нарады павінны былі паехаць па вытворчых і вайсковых калектывах. Ліда была вельмі буйным вайсковым гарнізонам: два вайсковыя гарадкі і амаль усе навакольныя вёскі і лясы былі поўныя такога ж кантынгенту - афіцэраў і салдат. Мабыць, вайскоўцаў было больш, чым карэннага насельніцтва разы ў тры.

Мяне папрасілі павязаць піянерскі гальштук. У чым справа? (Я і так займалася піянерыяй школы, была старшынёй савета дружыны па даручэнні педкалектыва і камітэта камсамолу.)

У прызначаны дзень у піянерскай форме, гальштуку і з бантамі ў "хвосціках" прыйшла ў бурлівае фае Дома афіцэраў. Што там дзеялася! Людзі, якія даўно не бачылі адзін аднаго, абдымаліся, цешыліся сустрэчы, спяшаліся ў шыкоўны буфет абмыць неспадзяванае спатканне. Нейкі сівы дзядзька гадоў шасцідзесяці абдымаў маленькую вірлавокую жанчыну гадоў сарака:

- Вера! Малая! А ты не змянілася. Ах, ты мая складная! Як я за цябе заўсёды баяўся!

- Усё ж абыйшлося, таварыш камандзір!

Дзесьці ў куце невялікая кампанія мужчын у ордэнах спрабавала штосьці праспяваць сваім гуртком з франтавога рэпертуару.

Начальнік Дома афіцэраў з супрацоўнікамі стаяў у коле са сталічнымі пісьменнікамі. Вось Пятрусь Броўка. Яго я ведаю! Натоўп такі! Але ўсе на ўздыме, з добрым настроем. Большасці ўдзельнікаў вайны - ад 38 да 50 гадоў. А колькі зусім маладых партызан, падпольшчыкаў!

А падобна, я буду адзіным прадстаўніком школьнікаў…

Да мяне падышла Сара Аронаўна, прыбраная, трохі ўсхваляваная, з хлапчуком, лётным курсантам. Ён, як і я, пачуваўся тут згубленым сярод дарослай радаснай масы.

- Ларыса, пазнаёмся. Гэта - Васіль, курсант Харкаўскай ваеннай лётнай вучэльні. Стажыруецца ў Паўднёвым гарадку. Піша апавяданні, друкуецца… Будзеце ў прэзідыюме разам сядзець. Не згубіцеся! Паедзеце ў адной працоўнай групе потым… Не забудзься, твой верш - пасля выступу генерала Ігнаццева. Запомніла? Васіль, пракантралюйце яе.

- Ёсць!... Вядома! - счырванеў блакітнавокі, невысокі, бялявы Васіль. - Вы не супраць кантролю? - гэта ён мне.

- Ды кантралюйце, колькі хочаце! Вы ж будучы камандзір.

- Дык, можа, у залу пойдзем? Там ціха і прахалодна… А то, задуха!

- Хадзем…

У зале, і праўда, было нешматлюдна, цемнавата. Пару чалавек, седзячы за сталом прэзідыюма, штосьці

хутка страчылі ручкамі ў паперках, правячы ці ўпершыню запісваючы будучы выступ. У першым радзе залы сядзеў высокі дзядзька гадоў сарака. Мы сціпла селі за яго спіной.

- А на сцэну зойдзем пасля таго, як прэзідыюм запоўніцца, - разумна разважыў Васіль. - А вы, і напраўду, піянерка? У якім жа вы класе?

- Перайшла ў дзясяты, - і растлумачыла сваю "дэкаратыўную" ролю.

Пярэдні дзядзька адсеў ад нас на пяць крэслаў направа. Відаць, мы яму заміналі засяродзіцца. Васіль далікатна панізіў голас да паўшэпту:

- А гэта хто? Вы яго ведаеце? Ён у Лідзе жыве?

- Не ведаю… Сёння шмат гасцей адусюль…

- Казалі, што будзе група пісьменнікаў, вайсковыя журналісты. Яны мяне больш за ўсё цікавяць! Жанчына, ну, якая нас пазнаёміла, казала, што вы вершы пішаце… Пачытаеце?

- Яна, відаць, штосьці наблытала, - счырванела я ў цемры.

- Вось, шкада! Я б вам свае апавяданні пачытаў… Хоць яны ў мяне ў гасцініцы афіцэрскай засталіся. Але я на памяць магу… Там і газеты харкаўскія, у якіх я друкаваўся. Ведаеце, так дзіўна і прыемна сваё прозвішча бачыць, надрукаваным у газеце! Быццам бы яно ўжо існуе асобна ад цябе… Мне многія нашы курсанты нават зайздросцілі…

Васіль быў кранальна гаманкі. У вайну яго бацька быў лётчыкам і загінуў у паветраным баі. Маці памерла ў эвакуацыі ад запалення лёгкіх, калі яму было чатыры гады. Потым - дзіцячы дом, сувораўская вучэльня, лётная вучэльня…

Тут зазвінеў званок, у зале пасвятлела, пражэктары асляпілі сцэну. Народ ажыўлена запаўняў месцы ў прэзідыюме і партэры. Мы таксама за ўсімі і селі ззаду. З намі зайшоў і сеў чалавек, якога мы раздражнялі. Пад пражэктарам стала відаць, што ён руды, худы і высокі. Твар яго было панурым у адрозненне ад святочнага настрою большасці.

Нячутна якая надышла Сара Аронаўна сказала:

- Дзеці, вашы месцы ў другім радзе прэзідыюма з краю, бліжэй да трыбуны. Перасядзьце.

Звярнулася да нашага суседа:

- Выбачыце! Нагадайце ваша прозвішча, калі ласка!

Той штосьці неразборліва буркнуў.

- Вам таксама ў другі рад.

Мы пераселі. Сусед так і застаўся ззаду.

Ведаеце, мне спадабаўся той агульны збор сваёй аднадушнасцю, і шчырым уздымам, і вельмі нефармальным падыходам да пытання. Людзі ўспаміналі сваіх таварышаў па партызанскіх справах, аднапалчан, загінулых у баях Вялікай Айчыннай вайны. Яны гаварылі пра гэта, быццам толькі цяпер яшчэ разам перакурылі і толькі што страцілі іх. Былі і мімавольныя слёзы ў суровых ваенных немаладых людзей… Сутнасць усёй гэтай агульнай сустрэчы заключалася ў радку з "Рэквіема" Роберта Раждзественскага: "Памяці загінулых будзьце вартыя".

Беларускія паэты чыталі свае вершы. Журналісты распавядалі, як яны адкрывалі імёны невядомых герояў мясцовых баёў. Камсамольцы заводаў, фабрык і калгасаў распавядалі пра шэфства над сем'ямі загінулых, пра догляд магілаў загінулых байцоў, пра сваіх загінулых бацькоў.

Тады падзеі вайны, якія пакінулі свае страшныя сляды на землях Беларусі, Украіны і Расіі, былі блізкія да нас па часе і зразумелыя. Вайна была і ў жыццях дзяцей, якія нарадзіліся адразу пасля яе. Мы гулялі на руінах, і вакол было шмат безназоўных магіл…

Калі натхнёная публіка пакінула залу, каб пагаварыць, паўспамінаць і зноў наведаць асвежаны і папоўнены дэфіцытамі буфет, у прэзідыюм, які не расходзіўся, прыйшлі афіцэры-інструктары. Нас размеркавалі па групах і па розных аб'ектах, дзе трэба правесці сустрэчы з рознымі людзьмі, галоўным чынам з моладдзю, распавёўшы ім пра сённяшні форум і яго мэты.

Маё прозвішча назвалі ў кампаніі з Васілём Пракапенкам і Васілём Быкавым.

- Ваша прозвішча Быкаў? - спытала я будучага лейтэнанта.

- Не. Пракапенка. Курсант Васіль Пракапенка.

Тут капітан у залатых лёгкіх акулярах падвёў нам нашага змрочнага незнаёмца.

- Вось, таварыш Быкаў, даручаная вам інфармацыйна-творчая група. Курсант-стажор Пракапенка і прадстаўнік школьнай піянерыі і камсамоліі, вучаніца школы № 8…- ён зазірнуў у паперку, - Канчэўская Ларыса.

Дзядзька моўчкі кіўнуў нам.

Афіцэр, дарэмна пачакаўшы цырымоніі знаёмства, прадставіў нам нашага старэйшага:

- Васіль Быкаў, удзельнік вайны, журналіст газеты "Гарадзенская праўда", малады пісьменнік. Апублікавана першая кніга таварыша Быкава, па якой зняты фільм "Трэцяя ракета".

- Пісьменнік!!! - захоплена, не па-вайсковаму ўспыхнуў курсант.

Па-мойму, ён нават спрабаваў змацаваць знаёмства поціскам рукі, але аб'ект захаплення гэта праігнараваў, гледзячы ў другі бок. Вася збянтэжыўся свайму нестатутнаму парыву.

Я пакрыўдзілася за свайго таварыша і яго адпрэчаную шчырасць. Але, можа быць, у сапраўдных загартаваных мужчын так прынята? Чым больш балюча, тым карысней? Не!!! Гэта няправільна! Маладога хлопца, у якога не было побач ніводнай роднай душы, цягнула да сталых мужчын, якія ваявалі на вайне, смутная дзіцячая памяць пра загінулага бацьку… Ну, не ведаю… Руку ж няцяжка было б паціснуць…

Мы селі ў светла-зялёную "Перамогу", што прыехала па нас і рушылі на "аб'ект" у Паўднёвы гарадок.

З дрыготкім сэрцам я ўвайшла ў яшчэ стары маленькі ДКА майго дзяцінства, дзе я спявала ў хоры і танчыла на канцэртах, дзе мы адчайна крычалі "ўра" на ранішніх кінасеансах, калі "нашы" перамагалі… Якое ўсё малюсенькае, нізенькае.

У залцы перад сцэнай сядзяць некалькі дзясят-

каў салдатаў самых розных нацыянальнасцяў: узбекі, туркмены, армяне, грузіны, ну і, відаць, украінцы, рускія, беларусы, а ёсць і прыбалты, па-мойму, літоўцы. Самымі нясмелымі і разгубленымі здаюцца сярэднеазіяты. Напэўна, з мовай цяжкасці. І тужаць, напэўна, па цяпле… Так усё знаёма…

Зампаліт абвясціў мэту нашага прыезду, распавёў пра падзею ў горадзе, на якой пабываў сам. Я прачытала вершы, чым усхвалявала вайсковы калектыў, які ажывіўся і настроіўся на далейшую гутарку. Хтосьці нават спытаў, ці ёсць у мяне брат і ці служыць у войску. Сказала, што мой брат якраз цяпер служыць у Арменіі ў горадзе Эчмыадзіне, чым бязмерна расхвалявала маленькую армянскую дыяспару.

Затым я абвясціла Васю Пракапенку, якога тут некаторыя пазналі. Ён на памяць прайграў свой надрукаваны апавядр пра хлопчыка, які страціў у вайну родных, і праз пяць гадоў пасля Перамогі знойдзенага бацькам, камандзірам лётнага палка, які шукаў яго.

Распавядаючы сцэну сустрэчы, Вася пабялеў і шырока адкрыў свае блакітныя ясенінскія вочы, каб не заплакаць. Стала ясна, што ён апісваў сваю нядзейсную мару. Зала стаіла дыханне, таму што сядзеўшыя ведалі гэтыя надзеі. Гэтыя салдаты былі дзецьмі вайны…

… Курсант, быццам ачомаўшыся, памарудзіў і прадставіў нашага старэйшага групы па ўсіх рэгаліях, як яго атэставаў нам капітан пасля форуму. Той адным крокам ускочыў на нізенькую сцэну і агледзеў залу, быццам толькі што сюды ўвайшоў. Ён убачыў гэты хлапечы інтэрнацыянал у салдацкай форме - грубых гімнасцёрках, галіфэ і цяжкіх ботах. Раптам гэты руды, пануры чалавек усміхнуўся, быццам пазнаў сябе даўняга, усміхнуўся з разуменнем, па-бацькоўску… І мне зноў стала крыўдна за Васю.. І за сябе… І за самога Быкава.

Я так заглыбілася ў разважанні пра нязграбнасць зносін некаторых людзей, што ўслухоўвацца ў выступ аратара пачала не адразу. Калі я ўключылася, Быкаў заканчваў распавядаць пра свой першы бой. У салдат гарэлі вочы.

Зампаліт спытаў пра фільм, які знялі па аповесці "Трэцяя ракета". Быкаў без запалу сказаў, што кіно і аўтарскі літаратурны твор не заўсёды ўдала сумяшчаюцца. І ў гэты момант я ўспомніла, што літаральна напачатку года глядзела гэты фільм, і ён мне спадабаўся. Там я адкрыла для сябе новага маладога акцёра - Станіслава Любшына. (Усё жыццё я сачыла за яго незвычайнай, living розна... 

Салдаты ажывіліся, пераглядаліся, шапталіся. Зампаліт штосьці казаў прысутнаму побач узбеку. Той падняў руку. Быкаў з усмешкай кіўнуў яму галавой.

- Таварішч псатль, расскажыть а сваих творчых планах, пжалуста!

Пісьменнік памаўчаў, гледзячы ў залу. Потым махнуў рукой, як бы сам сабе кажучы: "А, была - не была! Чаго ўжо там… Рызыкну, распавяду".

- Ёсць у мяне задумка… Дакладней, ужо пачаў пісаць…. Пра ўцёкі з італьянскага канцлагера. Уцекачамі аказаліся маладзенькая італьянка і ваеннапалонны беларус. Яны схаваліся ад пагоні ў Альпах. І пасля лагерных баракаў, непасільнай працы і голаду яны акунуліся спачатку ў завею і мароз на перавале, а потым - у прыгажосць і цяпло альпійскіх сенажацяў. Але іх нагнала пагоня… І ён яе выратаваў, а сам загінуў…

- Як?! - выдыхнула зала.

- Яшчэ не ведаю… Ведаю толькі, што ў іх было тры дні волі…

Усе доўга маўчалі, унутрана ператварыўшыся ў суаўтараў пісьменніка, які падзяліўся чымсьці вельмі запаветным…

- Вось гэта сюжэт! - сказаў задуменна Вася…

Вярталіся мы ў змярканні. Марныя спробы курсанта падоўжыць радасць творчых зносін скончыліся глухім маўчаннем пісьменніка, ненадоўга прыадчыніўшага сваю ракавіну ў асяроддзі, якое нагадала яму маладосць. Можа быць, ужо шкадуючы пра гэта, ён маўчаў на пярэдняй сядушцы побач з кіроўцам.

Хлопец, у надзеі пагаварыць з такім чалавекам, прапусціў сваю вячэру, паехаўшы нас праводзіць. Выйшаўшы з машыны на плошчы каля Дома афіцэраў, я і Васіль развіталіся з пісьменнікам. Не памятаю, ці пачуў ён нас.

Праз два ці тры гады маю ўвагу прыцягнула невялікая кніжка са знаёмым прозвішчам аўтара: Васіль Быкаў "Альпійская балада".

Стала зразумела, што сваю задумку пісьменнік выканаў. Выразнейшую і лепшую назву цяжка знайсці! Балада - гераічная і трагічная песня.

Аповесць чыталася на адным дыханні. А адразу ж за кнігай быў зняты фільм, які надоўга стаў любімым для гледачоў некалькіх пакаленняў. І зноў - у ім акцёр Станіслаў Любшын. А ў ролі імпэтнай звонкай італьянкі Джуліі запомнілася адна з лепшых актарак беларускага кіно Любоў Румянцава. Адразу ўсе дзяўчаты пачалі стрыгчыся "пад Джулію", хадзілі з канцлагернай "нулёўкай", якая адрастае. Сяя-тая з маіх равесніц дагэтуль не можа з ёй растацца. А што? Хораша!

Васіль Быкаў стаў вялікім пісьменнікам і гонарам савецкай літаратуры. Многія дакладныя назвы кніг перайшлі ў назвы аднайменных фільмаў. Творы перакладзены на многія мовы. Відаць, яго сапраўдная, мужчынская проза хвалюе людзей розных краін. Аўтар "Сотнікава", "Воўчай зграі", "Мёртвым не баліць" і іншых твораў ведаў вайсковыя нягоды, гераізм, здраду і іх кошт. Ён быў з тых нешматлікіх пісьменнікаў (Канстанцін Сіманаў, Васіль Гросман), якія паказалі непрыхарошаную праўду вайны з яе нялёгкай гераікай, крывавай і цяжкай працай, дзе вырашаецца пытанне пра наяўнасць, адсутнасць ці абуджэнне сумлення ў душы чалавека. У творчасці В. Быкава вайна - гэта экстрэмальныя ўмовы, у якіх выяўляецца духоўная сталасць яго герояў...

***Леанід Лаўрэш***

# Горад Яго Каралеўскай Мосці Ліда ў другой палове XVII і ў XVIII стагоддзях

Першым, яшчэ да 1905 г. у Вільні працаваў з інвентаром Лідскага староства 1680 г., лідскі гісторык Міхал Шымялевіч. Мне фотакопію гэтага інвентара перадаваў выбітны беларускі гісторык Яўген Канстанцінавіч Анішчанка.

Копію інвентара Лідскага староства сярэдзіны 1745 г. мне перадаў другі выбітны беларускі гісторык і архівазнавец Дзяніс Лісейчыкаў.

Выказваю вялікую падзяку шаноўным гісторыкам, без іх не было б гэтага артыкула.

Таксама нядаўна мне ў рукі патрапілі дзве лічбавыя копіі двух найцікавейшых дакументаў: "Рэвізійныя спісы Лідскага павета 1775 г." і "Падымны тарыф Лідскага павета 1775 г.". Абодва дакументы пачынаюцца з апісання нашага горада. "Рэвізійныя спісы Лідскага павета 1775 г." - адзіная ацалелая лідская падатковая кніга XVIII ст., да 1944 г. захоўвалася ў Галоўным архіве даўніх актаў у Варшаве (AGAD), пасля пажару і знішчэння Варшавы нацыстамі нейкім дзіўным чынам (архівісты не дазналіся як) кніга прывандравала ў кракаўскі архіў, дзе аматары даўніны зрабілі яе лічбавую копію. Я пераклаў тую частку з "Рэвізійных спісаў Лідскага павета 1775 г.", якая датычыць нашага горада.

"Падымны тарыф Лідскага павета 1775 г." быў перазняты ў Дзяржаўным гістарычным архіве Літвы. У абодвух дакументах фігуруюць прозвішчы адных і тых жа жыхароў нашага горада, напісаныя рознымі пісарамі практычна ў аднолькавай паслядоўнасці. Таму параўноўваючы розныя почыркі, можна амаль што беспамылкова вызначыць прозвішчы месцічаў Ліды.

Можа самае цікавае ў гэтых дакументах для жыхароў нашага горада - прозвішчы лідзян, якія жылі тут ў XVII і XVIII ст. Яны - прамыя продкі сучасных жыхароў нашага горада, некаторыя з прозвішчаў XVIII ст. носяць сучасныя лідзяне.

**Ліда ў інвентары Лідскага староства 1680 г.**

Знішчальнай навальніцай пракаціліся па нашым краі ваенныя падзеі 1654-1667 г. У 1655 г. маскоўскія войскі спустошылі Ліду і яе ваколіцы. У 1656-1657 г. гэтую мясцовасць спасціг неўраджай. Становішча жыхароў яшчэ больш пагоршыла маравая пошасць, якая лютавала восенню-зімой. У гэтай усеагульнай замятні ў Лідскім павеце з'явілася шмат бадзяг, уцекачоў, перасяленцаў, якіх вайна сагнала з абжытых месцаў. З-за гэтага пачасціліся рабаванні, забойствы, наезды на маёнткі, разносілася эпідэмія.

Увосень 1659 г. маскоўскі ваявода князь Іван Хаванскі, рухаючыся з 30-тысячным войскам з Вільні ў Гародню, падступіў да Ліды. Лідскі замак, не глядзячы на адчайную абарону, быў захоплены, а горад разрабаваны і спалены. Тады былі знішчаны і ўсе лідскія цэрквы. Горад прыйшоў у заняпад[1]. Лідскі павет страціў у тую вайну 24,7% насельніцтва[2].

19 траўня лідская шляхта сабралася на грамнічны соймік ў мястэчку Мыто (у Лідзе ў той час лютавала інфекцыйная зараза). Былі абраныя павятовыя і гродскія службовыя асобы: суддзя - васілішскі староста Марцін Лімант, Мацей Мікалай Альшэўскі - падсудак[3], Ян Нарбут - земскі пісар[4], Адам Нарбут - падстараста, Ян Зуб - гродскі суддзя[5], Аляксандр Станіслаў Калантай - пісар гродскі і інш. На гэтых людзей былі ўскладзены абавязкі па энергічным выкараненні злачыннасці. Выракі абраных асоб прыраўноўваліся да выракаў трыбунала і павінны былі без абмеркавання выконвацца[6].

Людскія і матэрыяльныя страты былі настолькі

---

[1] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок (Исторический очерк) // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 50.

[2] Сагановіч Г. Невядомая вайна 1654-1667. Мінск, 1995. С. 140.

[3] Падсудак - памочнік суддзі або пісар земскага суда, замяняў суддзю.

[4] Пісар земскага суда. Разгляду ў земскім судзе падлягалі грамадзянскія і крымінальныя справы шляхты, апроч справаў, падсудных гаспадарскаму і гродскаму судам. Таксама ў земскі суд маглі падавацца скаргі на пазапраўныя дзеянні службовых асобаў гэтага павета. Земскі суд аддзяляўся ад іншых органаў дзяржаўнай улады і быў выбарным. У яго склад уваходзілі суддзя, падсудак і пісар. Усе яны абіраліся шляхтай павета (з 4-х кандыдатураў на кожную пасаду) і зацвярджаліся на пажыццёвае займанне пасады вялікім князем. Абранымі маглі быць толькі шляхціцы, жыхары ВКЛ, якія мелі нерухомасць у гэтым павеце. Усе чальцы суда прымалі прысягу. Судовы пісар, які з'яўляўся чальцом земскага суда, прыносіў асобную прысягу, якой абавязваўся добрасумленна запісваць паказанні бакоў і іншых удзельнікаў судовага працэсу, нічога не дадаючы і не выключаючы. Закон абавязваў запісы рабіць "*словы рускими*", г.з. тагачаснай беларускай мовай.

[5] Гродскі суд - павятовы суд для шляхты, мяшчан і сялян у ВКЛ. Першапачаткова знаходзіўся ў замку (горадзе, гродзе), адкуль і пайшла назва. Першапачаткова ў замкавым судзе разглядаліся амаль усе мясцовыя справы, але пазней, са з'яўленнем іншых судоў (напрыклад - земскага), у кампетэнцыі гродскага засталіся толькі "гарачыя справы" - аб нападах на дамы шляхты, забойствах, цяжкіх і менш цяжкіх цялесных пашкоджаннях, падпалах, разбоях, згвалтаваннях, атручваннях, а таксама грамадзянскія справы аб вяртанні збеглых прыгонных сялян. Асноўнай задачай гродскага суда было ажыццяўленне правасуддзя адносна асобаў, злоўленых на месцы ўчынку, а таксама затрыманых на працягу 24 гадзінаў пасля здзяйснення злачынства. Гродскі суд таксама сведчыў грамадзянска-праўныя дамовы, забяспечваў судовыя доказы і г. д.

[6] АВАК. Т. XIII. С. 99-100.

вялікімі, што сойм Рэчы Паспалітай 1676 г., каб даць гораду адрадзіцца, выдаў адмысловую канстытуцыю, па якой Ліда на чатыры гады вызвалялася ад усіх грашовых і натуральных павіннасцяў, пастою войскаў, пастаўкі коней для перавозкі пошты і г.д.[7]

Неспакойнымі былі для Ліды і наступныя гады, уначы 29 чэрвеня 1679 г. горад згарэў ад пажару. Пажар пачаўся з невядомай прычыны. З-за сухога надвор'я і моцнага ветру агонь з неверагоднай хуткасцю распаўсюдзіўся па ўсім горадзе. На працягу адной гадзіны пажар знішчыў 38 месціцкіх хат, не лічачы хат манастырскіх і шляхецкіх. Многія хрысціяне і яўрэі згарэлі жывымі, а многія атрымалі цяжкія апёкі. Увесь хатні скарб, быдла і да т.п. зрабіліся здабычаю полымя[8].

Лідскім старастам ў 1671 і 1676/82 гг. быў Дамінік Мікалай Радзівіл[9] (1643-1697) - сын Аляксандра Людвіка Радзівіла, адзін з унукаў Мікалая Радзівіла "Сіроткі". Стараста лідскі, ваўкавыскі, вярбілаўскі. Дамінік Мікалай Радзівіл вучыўся ў Італіі.

Удзельнічаў у бітве з туркамі пад Хоцінам у 1673 г. і ў вайне з туркамі 1683 г. У 1677-81 гг. падскарбі надворны ВКЛ, у 1681-90 гг. падканцлер ВКЛ, з 1690 г. канцлер ВКЛ. У 1685 г. маршалак Трыбунала ВКЛ. Пасол на соймы 1669 г. (удзельнічаў у абранні на каралеўскі пасад Міхала Вішнявецкага), 1674 г. (падтрымаў абранне Яна III Сабескага), 1676 г., 1681 г. Пры канцы жыцця, у 1690 г. стаў клецкім ардынатам і запачаткаваў малодшую клецкую галіну Радзівілаў.

Два разы быў у шлюбе. З Ганнай Мар'янай Палубінскай меў 4 дачкі і сыноў Яна Мікалая Аляксандра, Мікалая Фаўстына, Фелікса і Міхала Антонія. У шлюбе з Ганнай Крысцінай Любамірскай дзяцей не меў[10].

Лідскім падстарастам быў Эліяш Міхал Рымвід, якраз ён і фігуруе ў Інвентары Лідскага староства.

Жыццёвы шлях наверх Эліяша Міхала Рымвіда быў наступны: суддзя гродскі лідскі (1668-1671 г.), падстароста лідскі (1671-1682 г.), падстолі лідскі (1678-1683 г.), сурагатар гродскі віленскі (1682 г.), падкаморы лідскі (1683-1690 г.) і, нарэшце, маршалак лідскі (1690-1696 г.).

У 1669 г. сярод іншых паслоў ад Лідскага павета Эліяш Міхал Рымвід засведчыў абранне караля польскага і вялікага князя літоўскага Міхала Карыбута. З падымнага рэестра Віленскага ваяводства 1690 г. даведваемся, што Эліяш Міхал Рымвід, маршалак лідскі меў 100 дымоў, таксама валодаў Навадворскім староствам - 114 дымоў у 1667 г., 92 дымы ў 1690 г.

Эліяш Міхал Рымвід фігуруе і тастаманце Францкевіча-Радзімінскага. Гэты тастамант ад 22 жніўня 1694 г. сведчыць, што лідскую павятовую эліту звязвалі не толькі сваяцкія, але і сяброўскія адносіны.

Казімір Ян Францкевіч-Радзімінскі (лідскі стараста ў 1682-1694 гг.) не меў нашчадкаў і ў якасці апякуноў сваёй жонкі Аляксандры з Нарушэвічаў прызначыў Эліяша Міхала Рымвіда, маршалка лідскага і Аляксандра Нарушэвіча, старасту ўшпольскага[11].

Нясецкі піша пра Эліяша Рымвіда: *"Эліяш Міхал, найперш падстараста гродскі лідскі, потым падкаморы, стараста навагрудскі* (памылка, насамрэч навадворскі) *і лаздзейскі* (Лаздзіяй - *Л.Л.*), *быў паслом на розныя соймы, куды яго шматкроць Айчына кідала, таксама дэпутатам на трыбунал скарбовы літоўскі, але ўжо камісарам, Constit. 1678 fol. 15, калі місія для нашых (гэта значыць езуітаў) пры касцёле дэмбраўскім, ад яго і ад ягонай жонкі функцыянавала, быў потым маршалкам лідскім"*. Ён быў жанаты з Крысцінай Гружэўскай, падкамаранкай жмудскай. Ян - падкаморыч лідскі 1685 г.[12].

Гэтую інфармацыю пра Эліяша Міхала Рымвіда з іншых крыніц дапоўніў Міхал Шымялевіч. Ян Гружэўскі, падкаморы жмудскі меў двух сыноў і ажно дванаццаць дачок: з іх Крыстына, як падаецца вышэй, была жонкай Эліяша-Міхала Рымвіда, Яна-Паўла Стрыеўскага, войскага гарадзенскага, чашніка саноцкага. Эліяш Міхал Рымвід разам з жонкай валодаў у былым Лідскім павеце Дэмбравам, і меў пляц у Лідзе *"ідучы з Рынка па вуліцы Каменка, па правай руцэ, праву шляхецкаму падлеглы"*, раней належаў Крыштафу Багдзевічу, потым ягонаму сыну Мальхеру. Сыны гэтага апошняга, Людвік і Казімір Багдзевічы прадалі гэты пляц Эліяшу Міхалу Рымвіду, падстарасту лідскаму за 80 коп грошаў, а Ян Васілевіч, генерал Яго Каралеўскай Мосці Лідскага павета 4 лютага 1678 г. зацвердзіў гэтае набыццё. Пасля смерці Эліяша Міхала Рымвіда яго сын Ян Рымвід, маршалковіч лідскі і старасціч навадворскі і лаздзейскі 22 снежня 1702 г. спадкаваў пасля бацькі *"двор у горадзе Лідзе на вуліцы, якая з Рынка на Каменку ідзе, з агароднікамі там жа жывучымі"* і прадаў яго Францішку Мазевічу, маршалку лідскаму. Потым усе звесткі пра гэтую сям'ю знікаюць[13].

Вернемся да лідскага старасты з 1682 па 1694 гг. Казіміра Яна Францкевіча-Радзімінскага (1638-1694). Сын Міхала, стольніка полацкага, і Ганны Кляноўскай. Быў жанаты з Аляксандрай, дачкой Яна Нарушэвіча. Казімір Ян Францкевіч-Радзімінскі займаў шэраг дзяржаўных пасад: падчашага менскага, з 1674 лідскага падкаморага, лідскага старасты, з 1689 г. падскарбія надворнага ВКЛ, у 1682, 1688 і 1693 гг. - маршалак Трыбуналу ВКЛ і г.д. Заснаваў кляштар кармялітаў у Жалудку і базыльянскі манастыр ва Ўшачах[14].

[7] Volumina Legum. Petersburg, 1860. T. V. S. 218.
[8] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 50.
[9] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. Spisy. Pod redakcje Andrzeja Rachuby. Warszawa, 2004. T. 1. S. 714.
[10] Вялікае Княства Літоўскае. Энцыклапедыя ў 3 т. Мінск, 2005. Т. 2. С. 488-489.
[11] Амелька С. Да пытання аб складзе палітычнай эліты шляхты Лідскага павета ВКЛ у другой палове // Герольд Litherland № 17. 2006. С. 87-89.
[12] Herbarz polski Kaspra Niesieckiego. Lipsk, 1841. T. 8. S. 210.
[13] Szymielewicz Michal. Skad pochodzi rod Adama Mickiewicza // Ziemia Lidzka № 9-1938. S. 113-116.
[14] Вялікае Княства Літоўскае. Энцыклапедыя ў 3 т. Мінск, 2007. Т. 3. С. 705.

Горад Ліда будаваўся на поўнач ад замка. У XVII ст. горад меў рынак і каля яго школьны двор, а таксама чатыры вуліцы. Вуліца, якая выходзіла на дарогу ў Вільню, звалася Віленскаю. Другая вуліца, якая ішла ад рынка міма замка звалася Замкаваю. Трэцяя вуліца, якая пачыналася ад Замкавай, і выходзіла на дарогу ў м. Васілішкі і Астрыну, ад імя раўчука Каменкі звалася Каменскай. Чацвёртая Крывая вуліца, злучала рынак з Каменскай вуліцай. Працяг Крывой вуліцы ад Каменскай да замка, уладкаваны ў пачатку XIX ст., зваўся да найноўшага часу Нова-Кармеліцкай вуліцай.

Уся зямля, занятая горадам, першапачаткова была ўласнасцю вялікага князя і належала да Лідскага замкавага двара або фальварка; але пачынаючы з XVI ст. некаторыя часткі гэтага абшару пераходзяць у прыватную ўласнасць. Напрыклад, у 1566 г. Павел Рошчым атрымаў ад караля Жыгімонта Аўгуста прывілей на два пляцы ў Лідзе, у 1589 г. Аляхновічу было дадзена пацверджанне на куплю ім таксама двух пляцаў у Лідзе, у 1591 г. Рафаіл Алешыс Згірскі атрымаў прывілей на адзін пляц і г.д. Раздача пляцаў адбывалася і ў больш позні час, так, напрыклад, да 1785 г. кароль Станіслаў Аўгуст выдаў прывілей Паўлу і Ганне Канапніцкім на пляц па Замкавай вуліцы, а ў 1787 г. Яну Ромеру - там жа на ленным праве. Такім чынам у горадзе ўтварыліся цэлыя асобныя кварталы, якія належалі ў XVII-XVIII ст. Куроўскім, Францкевічам, Радзімінскім, Калясінскім і інш.[15] Сваю маёмасць уладальнікі здавалі ў арэнду яўрэям і месцічам на правах вечнага чыншу - рэнты за карыстанне пляцам.

Па сведчанні дакументаў у XVII ст. г. Ліда складаўся з наступных частак: замка, двара, уласна горада і прадмесця Зарэчча.

З Інвентара Лідскага староства ад 1680 г. бачна, што Замкавы фальварак (двор) знаходзіўся за замкам над ракой Каменкай, быў агароджаны плотам з хросту, меўся ўваход праз уязную браму.

Фальварак складаўся з наступных пабудоў:

У давары фальварка, па левым баку каля самых варот стаяў крыты дранкай бровар. Дзверы бровара былі не на завесах, а на бегунках, усярэдзіне мелася мураваная з каменю печ для вырабу піва.

Кухня і насупраць яе лазня з дзвярыма на бегунках, з каменнай печчу і падлогай.

Ідучы далей ад бровара, стаяў крыты саломай жылы дом з сенямі, дзверы ў дом з жалезнай клямкай. У доме па правым баку белы пакой з каморай, у якую дзверы на завесах з жалезнымі зашчапкай і клямкай. У белым пакоі мелася наступная мэбля і начынне: стол сталярнай работы, дзве шкляныя скрыні ў драўляных скрынях на тры вялікія кварты[16]. Малое акенца з застаўкай. Вокны з вялікімі рамамі на завесах з зашчапкай. Печ з шэрай кафлі з комінам, адзін зэдль. З гэтага пакоя ў камору вялі дзверы на завесах з зашчапкай і прабоямі жалезнымі. У каморы мелася адно акно з клямкай ў вялікай раме, каля яго - малое акно з зашчапкай, стаяў вялікі зэдль. Дзверы, якія вялі з каморы ў сені - на завесах, з зашчапкай і жалезнымі прабоямі.

У сенях меліся яшчэ адны дзверы на завесах, з зашчапкай і клямкай, яны вялі ў другі белы пакой з каморай. У пакоі меліся два вялікія зашклёныя акны і трэцяе малое акенца, печ была зложана з шэрай кафлі, на падлозе зялёныя покрыўкі (ходнікі), стаялі дзве лавы. З гэтага пакоя ў камору мелася двое дзвярэй: адны на завесах, з зашчапкай другія на бегунках, з зашчапкай жалезнай і з прабоямі.

Калі выйсці з жылога дома, дык па левы бок мелася піўніца (склеп), крытая саломай, у піўніцы дзверы на бегунках з жалезнай зашчапкай і з прабоямі.

Каля піўніцы меўся крыты саломай хлеў з хросту на сохах, брама ў хлеў - з дошак на бегунках.

Далей стаяла крытае сенам гумно для ссыпання збожжа ў восем засекаў.

Па праваму баку фальварка:

Крытая саломай стайня на двух слупах.

Ад стайні па левым баку пякарня з хросту з сенямі. Уваходныя дзверы ў пякарню - з дошак, на бегунках, у пякарні - чорная печ для выпечкі хлеба, вокнаў з рамамі тры, лавы на цеста, сталы, бочка для нашэння вады.

За пякарняй, у тыле - гумно з хросту, крытае саломай на двух слупах, брамка з жалезнай зашчапкай.

За гумном - адрына з хросту, а таксама малое гумно, агароджанае хростам і два агароды, таксама агароджаныя хростам[17].

Далей ў Інвентары пералічаны зямельныя надзелы месцічаў (гараджан) і шляхты; месцічаў: *"Агульная плошча дваццаць тры і адна восьмая валокі, з якіх месцічы плацяць чыншу па два злотыя пяць грошаў"* [18].

На Падзамчы, жылі 8 сямей. Яны плацілі па 15 грошаў за арэнду пляца пад дом і абавязаны былі па чарзе адрабляць гвалты[19] па падсыпцы грэблі нават і за некалькі міляў ад горада, разам з іншымі месцічамі талокі і іншыя патрэбы двара[20].

Капшчыну[21] плацілі 18 чалавек. За выраб і продаж піва (2,15 зл.) - 8 чалавек, у тым ліку і бургамістр горада Ян Амановіч, за піва і гарэлку (3,22 зл. і 4 паўгрошы) - 6 чалавек, за мёд, піва і гарэлку (6,7 зл і 4

[15] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 46.

[16] Кварта - чвэрць. Да 1766 г. раўнялася 1/4 гарнца (адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў у ВКЛ, 3,28 л.). Кварта ў той час была роўнай 0,82 л. У 1766 г. сойм зацвердзіў новую меру гарнца - малы (шынкавы), роўны 2,8237 л. (адпаведна кварта пачала ўмяшчаць 0,70577 л.) і ў 2 разы большы - вялікі (цэхавы), роўны 5,6474 л. 144 малыя (шынкавыя) гарцы складалі віленскую бочку - 406,54 л. Адзінка, у 4 разы меншая за кварту, называлася кватэрка.

[17] НГАБ. Ф. 1767. Воп. 1. Спр. 22. А. 924 адв. - 925.

[18] НГАБ. Ф. 1767. Воп. 1. Спр. 22. А. 925 адв. - 926 адв.

[19] Гвалты - феадальная павіннасць якую трэба было адпрацоўваць.

[20] НГАБ. Ф. 1767. Воп. 1. Спр. 22. А. 927.

[21] Капшчына - у ВКЛ піцейны падатак, спаганяны за выраб і продаж гарэлкі, мёду і піва.

паўгрошы) - 3 чалавекі, толькі гарэлку вырабляў і прадаваў (1,7 зл. 4 паўгрошы) - 1 чалавек. З гэтых 18 чалавек - 8 былі яўрэямі.

Забойшчыкі быдла і яўрэі-рэзнікі (якія займаліся забоем быдла згодна з рэлігійнымі законам), павінны былі аддаваць двару 1 камень[22] тлушчу ў год.

Інвентар 1680 г. згадвае млын, які належаў да Лідскага замкавага фальварка і размешчаны на р. Лідзейцы. Яго арандаваў лідскі яўрэй, *"які здаўна яго трымае і зараз згодна з кантрактам ён жа арандуе ... і абавязаны штогод плаціць па частках пяць (?) злотых згодна з кантрактам, а месцічы ЯКМ гэтага горада Ліды і яўрэі таксама .... ніхто з іх да іншага млына вазіць збожжа не павінен, але толькі да лідскага млына"* [23].

Па гэтым інвентары ў склад Лідскага староства ўваходзілі: горад Ліда і вёскі: Гарні, якія знаходзяцца ў пажыццёвым карыстанні ў палкоўніка Давыда Ярдана, Астроўля (26 валок), Цыбары (14 валок) і Боркі[24].

Прамысловасць і гандаль у Лідзе былі развітыя слаба. У дакументах XVII ст. у Лідзе згадваюцца толькі бровары, якія размяшчаліся пры замкавых фальварках, у касцельным фальварку Куроўшчыне або Навасёлках і ў некаторых мяшчан; з рамеснікаў згадваюцца толькі кавалі і гарбары, а таксама рэзнікі. Корчмы мядовыя, гарэлачныя і піўныя існавалі тут яшчэ ў XV ст., у часы Казіміра. У 1680 г. усіх корчмаў у Лідзе было 19, з якіх 10 утрымоўваліся хрысціянамі, у тым ліку адна - бурмістрам панам Янам Амановічам, і 9 - яўрэямі[25].

Штотыдзень па панядзелках адбываўся гандаль, а два разы ў год - кірмашы. Кірмашы існавалі тут здаўна і былі пацверджаны соймам у 1611 г.[26]

Галоўнай крыніцай даходаў лідзян была сельская гаспадарка - горад ўяўляў сабой чыста сельскагаспадарчае селішча. Інвентар сведчаць, што з кожнай валокі месцічы ўносілі ў прыбытак замкавага фальварка па 2 зл. і 5 гр. чыншу штогод, а з ворных моргаў[27] - па 5 гр. і сенакосных - толькі 2 гр. Плата гэтая штогод збіралася бурмістрам і лаўнікамі і дастаўлялася ў фальварак у дзень св. Марціна[28].

**Горад у Інвентары Лідскага староства 1745 г.**

У 1702 г. адзін з атрадаў шведскіх войскаў разрабаваў і спаліў частку горада і падарваў замкавыя вежы. У Лідзе была пакінута шведская залога, а ўтрыманне яе ўскладзена на жыхароў. У 1706 г. шведы другі раз разрабавалі горад і яго наваколлі, а затым тое самае паўтарылі і ў 1708 г., рухаючыся з Гародні цераз Ліду па Івейскім гасцінцы, пад начальствам самога караля Карла XII. Услед за адходам шведаў паўтарыліся знаёмыя для Ліды карціны голаду, язвы, галечы.

Сойм 1717 г. з увагі на бядотнае становішча горада, пацвердзіў канстытуцыю 1676 г. і дэкрэты Скарбовага Трыбунала, якімі былі прадстаўленыя Лідзе правы і вольнасці. Канстытуцыя 1776 г. пакінула Лідзе, у ліку нямногіх іншых гарадоў, Магдэбурскае права назаўжды, а кароль Станіслаў Аўгуст прывілеем 1788 г. дараваў гораду пляц зямлі для пабудовы на ім ратушы[29].

У Інвентары 1745 г. страчана некалькі старонак, а тыя, што ёсць, ляжаць у адвольнай паслядоўнасці. Таму мне прыходзілася акрамя чытання і расшыфроўкі старога тэксту, яшчэ і разгадваць рэбус і імкнуцца зрабіць звязны тэкст.

На пачатку XVIII ст. дзяржаўная ўласнасць складалася з наступных маёнткаў: Ліда, Кульбакі, Гарні, Цыбары і Пурсці[30].

***Рынкавая плошча і Школьны двор***

Цэнтрам, сэрцам горада заўжды была Рынкавая плошча, якая ў спісе ідзе як Рынкавая вуліца (заўважу, што адрасы, кшталту: *Рынак, 8* існавалі ў Лідзе, як найменей, да 1939 г.).

Рынкавая плошча - так званая "Агора" мелася яшчэ ў старажытнагрэцкіх полісах, Яна з'яўлялася месцам агульнаграмадзянскім. Плошча звычайна размяшчалася ў цэнтры горада, і на ёй знаходзіліся галоўны гарадскі рынак і нярэдка - урадавыя ўстановы. Агору, як правіла, атачалі таксама галярэі з рамеснымі майстэрнямі і храмы. Часам па перыметры агоры ставіліся статуі. Часцей за ўсё агора з'яўлялася адміністрацыйным і эканамічным цэнтрам горада.

Такім чынам рынкавая плошча, на якой сумяшчаліся гандлёвыя і адміністратыўныя функцыі - сталая прыкмета еўрапейскага горада.

Археолагі кажуць, што культурны слой на Лідскай Рынкавай плошчы дасягае 2 метраў. На гэтым месцы спрадвеку ішоў гандаль, гандлёвым днём быў панядзелак. Менавіта тут стаяла ратуша - будынак, у якім размяшчаліся органы гарадскога самакіравання. Як і ўсе еўрапейскія гарады, Ліда карысталася Магдэбургскім правам, якое атрымала 17 верасня 1590 г. Апошні будынак Лідскай ратушы пабудаваны ў XVIII

[22] Старая адзінка вагі - 12,96 кг, назва паходзіць ад каменя, якія ўваходзяць у склад жорнаў.

[23] НГАБ. Ф. 1767. Воп. 1. Спр. 22. А. 928 адв.

[24] НГАБ. Ф. 1767. Воп. 1. Спр. 22. А. 929 - 930.

[25] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 49-50.

[26] Volumina Legum. Petersburg, 1859. T. III. S. 25.

[27] Морг - адзінка вымярэння плошчы зямлі ў сярэднявечнай Заходняй Еўропе і Рэчы Паспалітай, роўная прыблізна 0,71 гектара. Выдадзены ў 1884 г. том VI "Геаграфічнага слоўніка Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін" пісаў: "Морг (ням. Morgen (раніца), азначае плошчу зямлі, якую адзін чалавек можа на працягу 1 дня скасіць або ўзараць. Памеры морга былі рознымі".

[28] НГАБ. Ф. 1767. Воп. 1. Спр. 22. А. 928 адв.

[29] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 49-50.

[30] Volumina Legum. Petersburg, 1860. T. VI. S. 187.

ст., стаяў на Рынкавай плошчы, ён быў упрыгожаны порцікам з калонамі. Пры ім існавала старадаўняя драўляная пабудова ў гатычным стылі. Сам будынак у XIX ст. служыў вайсковай гаўптвахтай, а прыбудова - адрынай у пажарных. Вялікі пажар 1891 г. сярод іншага знішчыў і будынак былой Лідскай ратушы.

Пры Рынку меў свой пляц і двор Лідскага старасты, сярод іншых тут жыў і юрыдычанін Мацей Баркоўскі[31]. Справа ў тым, што акрамя рамеснікаў і гандляроў у горадзе жылі духавенства і шляхта. Шляхта час ад часу наведвала горад і мела тут свае рэзідэнцыі з зямлёй - юрыдыкі. Насельнікі юрыдык - юрыдычане, падпарадкоўваліся толькі ўладальнікам зямлі і не плацілі падаткаў у гарадскі скарб. Гарадскія ўлады заўжды імкнуліся зменшыць колькасць юрыдык, але гэтыя спробы вынікаў не давалі (пра юрыдыкі гл. ніжэй).

На Рынку пяць пляцаў пуставалі ці былі незабудаваныя.

### *Віленская вуліца*

Мела 28 дымоў. Тут стаяла карчма пана Наневіча, якая была ў арэндзе ў Ізраіля Мардухавіча, сярод іншых жылі рамеснікі: кравец Ян Гарасюк, каваль Казімір Гален і Абрам, арганіст касцёла Казімір Перхур[32].

***У горадзе меліся наступныя юрыдыкі:***

**Юрыдыка яснавяльможнага пана Лідскага харунжага,** 2 дымы. З 1714 па 1749 гг. лідскім харунжым быў Лукаш Антоні Александровіч (1684-1763). Таксама ён займаў іншыя пасады: у 1710 - 1713 гг. ён быў лідскім скарбнікам, ў 1713 - 1714 гг. - лідскім стольнікам, у 1713 - 1720 гг. - лідскім падстарастам, з 1733 г. - маршалкам каптуровых[33] судоў. Лукаша Антонія Александровіча лідская шляхта абірала паслом на соймы 1718, 1722 і 1738 гг., таксама ён быў паслом на элекцыйным сойме 1733 г.[34] На элекцыйным сойме 1733 г. 13 000 шляхты абралі каралём Станіслава Ляшчынскага, які выступаў за правядзенне дзяржаўных рэформ. Аднак пад ціскам Расіі і Аўстрыі праз месяц быў сабраны яшчэ адзін элекцыйны сойм, які абраў каралём Аўгуста III Саксонскага (1733-1763). Апошні прыйшоў да ўлады з дапамогай саксонскіх і расійскіх войскаў, якія вымусілі Станіслава Ляшчынскага пакінуць радзіму. Жанаты быў Лукаш Антоні Александровіч з Канстанцыяй (†1749), дачкой навагрúdскага кашталяна.

**Юрыдыка яснавяльможнай пані Гадэбскай**, 2 дымы.

**Юрыдыка яснавяльможнага пана кашталяна навагрудскага**, 6 дымоў. Навагрудскім кашталянам ў той час быў лідскі стольнік Данііл Шышка. Быў намінаваны навагрудскім кашталянам 10 лістапада 1744 г. *"па смерці Яна Рдултоўскага"*, памёр Данііл Шышка ў 1756 г.[35]

**Юрыдыка пана Рэймана.**

Капшчыну плацілі 20 чалавек, з іх не менш за 13 чалавек - яўрэі.

Адным з галоўным элементаў даходу ўладальніка сядзібы быў чынш, г. зн. рэнта за карыстанне пляцам.

Лідскі двор меў наступныя вёскі: Астроўля, Боркі, Кульбакі, Палубнікі[36].

### Ліда ў падымным тарыфе Лідскага павета 1775 г.

Яшчэ ў 1772 г. Ліда была занятая рускімі войскамі пад начальствам генерала графа Татлебена, які ўніверсалам ад 20 студзеня 1773 г. абцяжарыў жыхароў Лідскага павета прыняць на сябе пастаўку забеспячэння для яго салдат[37].

Вопіс 1775 г. праводзіўся па пастанове сойму Рэчы Паспалітай 1773-1775 гг. для падліку даходаў дзяржавы пасля скарачэння яе межаў па выніках першага падзелу. Па традыцыі аб'ектам тагачаснага падліку служылі хаты (дымы) і іх уладальнікі. Падаткі налічваліся на "дым". У ВКЛ "дым" - адна з даўнейшых адзінак падаткаабкладання. Дым ўяўляў сабой комплекс гаспадарчых пабудоў, жылога дома, розных сельгасугоддзяў, хатняй жывёлы і сельскагаспадарчага інвентару. Двары месцічаў таксама называліся дымамі.

Разлікі за дым вызначаліся ў флорынах. З сярэдзіны XV с. флорын, акрамя абазначэння залатой манеты, стаў лічыльна-грашовай адзінкай. Залаты флорын (дукат) стаў называцца "чырвоным злотым" (florenus rubeus, florenus in auro). Флорын, як падліковая адзінка, быў прыроўнены да 30 срэбных грошаў; такім чынам, сума ў 30 грошаў пачала называцца "флорынам", або "злотым польскім" (florenus polonicales). Так паўстала новая грашовая адзінка - злоты (сучасная валюта Польшчы).

У 1775 г. увесь Лідскі павет налічваў 11 723 дымы, з іх 10 974 дымы на вёсках і 749 гарадскіх. Згодна з тарыфам 1775 г. Лідскі павет плаціў падаткаў:

Падымнага - 67 701 зл.

Чопавага[38] - 8 606 зл.

Пагалоўнага[39] (падушнага) - 13 277 зл.

[31] LVIA Ф. 598 Воп. 1 Спр. 1086. А. 3.

[32] Там жа. А. 3 адв. - А. 4.

[33] Часовы надзвычайны суд у Рэчы Паспалітай для разгляду тэрміновых спраў у часы бескаралеўя.

[34] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. Spisy. Pod redakcje Andrzeja Rachuby. Warszawa, 2004. T. 1. S. 318, 390.

[35] http://www.gaiba.narod.ru/kasztaliany.html

[36] LVIA Ф. 598 Воп. 1 Спр. 1086. А. 3 - А. 5.

[37] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 51.

[38] Чопавы падатак - падатак з усякага роду напояў як замежных, так і мясцовых. У каралеўскіх гарадах захоўвалася да канца XVIII ст. і перавышаў ўсе астатнія падаткі разам узятыя

[39] Пагалоўны падатак - форма падатку, калі падатак спаганяецца ў аднолькавым або прыкладна аднолькавым памеры з кожнага чалавека, які па выніках перапісу, падлягае абкладанню.

Кварты[40] - 47 617 зл.

Млынавага - 1 178 зл.

Разам - 138 327 зл.

У канстытуцыі 1775 г. запісана:

*"Магдэбурскія гарады дзеляцца на тры класы.*

*Да першага класа належаць Вільня, Гародня, Берасце, Коўня, Менск, Слуцк.*

*Да другога класа належаць Пінск, Навагрудак, Слонім, Ліда, Расіены, Кейданы, Друя, Чарэя (Czereia).*

*Да трэцяй групы належаць усе магдэбургскія гарады, якія не патрапілі ў дзве першыя катэгорыі.*

*Устанаўліваецца наступная падымная плата:*

*1. Кляштары, плябані абрадаў, плябані лацінскага абраду і плябані дысідэнцкія, а таксама палацы ў гарадах усіх трох класаў па 50 злотых у год плаціць павінны. ...*

*Плябані грэцкага абраду (ўніяцкія - Л.Л.), а таксама грэцкага абраду не ўніяты (праваслаўныя - Л.Л.) з-за таго, што яны маюць бедныя фундушы ці наогул ніякіх не маюць, у гарадах усіх трох класаў і па вёсках прыроўнены да вясковых дамоў краю, дзе яны знаходзяцца.*

*2. За камяніцы (kamienice) і корчмы (domy wjezdne). У гарадах першага класа за іх трэба было плаціць 30, другога - 20 і трэцяга - 10 злотых.*

*3. Двары (dwory) і будынкі (budynki pokatniejsze), якія знаходзіліся не ў цэнтры горада. У гарадах першага класа за іх трэба было плаціць 12, другога - 10 і трэцяга - 7 злотых.*

*4. Дамы ў гарадах, гаспадары якіх жывуць з сельскай гаспадаркі (domy rolnicze). У гарадах першага класа за іх трэба было плаціць 6, другога - 5 і трэцяга - 4 злотыя.*

*5. Дамы прыватных жыхароў (chalup prywatnych mieszkancow). У гарадах першага класа за іх трэба было плаціць 4, другога - 3 і трэцяга - 3 злотыя.*

*А лазарэты і шпіталі падымнага падатку плаціць не павінны"*

...

*"Для складання спісаў і ўрэгулявання падымнага і чопавага падаткаў прызначаем інспектараў (Lustratorow) ... да Лідскага павета паноў Мацея Глушынскага, гродскага суддзю, і Аўгустына Шэмета, краўчага гэтага ж павета"* [41].

Усе дымы ў "Падымным тарыфе Лідскага павета 1775 г." па тыпу маёмасці падзяляюцца на 6 раздзелаў, і ў залежнасці ад якіх устаноўлены памеры выплаты:

1. Кляштары - 50 злотых.
2. Палацы - 50 злотых.
3. Мураваны дом ці карчма - 20 злотых.
4. Дамы не ў цэнтры (pokatniejsze) - 10 злотых.
5. Дамы, гаспадары якіх жывуць з земляробства (rolnicze) - 5 злотых.
6. Прыватныя - 3 злотыя.

Палацаў у Лідзе не было.

Абодва дакументы пачынаюцца з плябані Лідскага Фарнага касцёла, пробашчам якога быў ксёндз Антон Эйсманта. Плябань лічылася адным дымам і плаціла 50 злотых падатку ў год. У візіце касцёла ад 1882 г. запісана: *"Дом плябані каля касцёла драўляны, пабудаваны ў 1750 годзе на мураваным фундаменце ..."* [42]. Згодна з візітацыяй 1777 г. на касцельным падворку на вуглах касцельнай агароджы стаялі два мураваныя шпіталі, у якіх жылі нямоглыя і старыя парафіяне і парафіяльная школа, якая адначасова была жылым домам, верагодна - плябанню. У школе навучалася 6 чалавек[43].

Кароткае апісанне нашага горада ў 1784 г., у якім за базавую кропку ўзяты Фарны касцёл, ёсць ў **"Вопісе парафій Лідскага дэканата ў 1784 г."**: *"Касцёл парафіяльны ў горадзе, павеце і дэканаце Лідскім, ад касцёла ў кірунку на захад праз семдзесят крокаў знаходзіцца касцёл і кляштар кс. кармелітаў antiqua observantia, у кірунку на поўнач праз чатырыста пяцьдзесят крокаў знаходзіцца касцёл, кляштар і павятовая школа кс. піяраў, у кірунку на летні ўсход праз дзевяцьсот крокаў парафільная ўніяцкая царква (ritus graci uniti)* (тут памылка, адна ўніяцкая царква каля касцёла піяраў, г.зн. у кірунку на поўнач праз чатырыста крокаў, але яна ўжо магла быць нячынная, другая - паміж зімовым усходам і поўднем якраз праз дзевяцьсот крокаў - *заўвага Л.Л.), праз дзвесце пяцьдзесят крокаў у кірунку на зімовы ўсход - стары мураваны замак, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу праз пяцьсот крокаў стаіць яўрэйская бажніца, у кірунку на поўнач праз дзве тысячы пяцьсот крокаў - яўрэйскія могілкі"* [44].

Кляштар і касцёл кармелітаў таксама лічыліся адным дымам і плацілі 50 злотых. Мураваныя кляштар і касцёл пры ім знаходзіліся ў цэнтры горада на супрацьлеглым баку вуліцы ад Фарнага касцёла.

Цікавую інфармацыю пра яго мы даведваемся з візіты 1820 г. Кляштар - двухпавярховы будынак, які меў форму літары "L" з паўночным і ўсходнім крыламі, з аднапралётным размяшчэннем памяшканняў і калідорам з двара. Ён прылягаў да сакрыстыі касцёла з поўдня і быў тынкаваны толькі з боку вуліцы. Кляштар крыты гонтай. На другім паверсе было 7 жылых памяшканняў і склады. Каля кляштара ў бок рэчкі знаходзіўся агарод і гаспадарчыя пабудовы, ніжэй - альховы

[40] Кварта - назва падатку, уведзенага ў 1563 г. Яго плацілі дзяржаўцы каралеўскай маёмасці ў памеры 0,25, а потым 0,2 ад даходаў.

[41] Volumina Legum T. VIII. Petersburg, 1860. S. 398.

[42] Інвентарны вопіс Лідскага рымска-каталіцкага касцёла і бенефіцыі // Лідскі летапісец № 2(18)-2002. С. 9.

[43] Pyzel K. Kosciol parafialny p.w. Podwyzszenia krzyza Sw. w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 127.

[44] Вопіс парафій Лідскага дэканату ў 1784 г. Парафія Ішчалнская і Лідская. З магістарскай працы Андрэя Рыбака пад кіраўніцтвам прафесара, доктара габілітаванага Юзафа Марошка, 2004 // Лідскі летапісец № 1 (61) - 2013. С. 30.

гаёк і яшчэ ніжэй - луг.

Касцёл выходзіў фасадам на ўсход, быў тынкаваны і выбелены як знутры, так і звонку, у плане меў форму крыжа даўжынёй 44,5 і шырынёй 17,5 локця, пакрыты дахоўкай, над вялікім алтаром меўся купал з сігнатуркай. Бязвежавы фасад падзелены прамымі пілястрамі, меў трохкутны шчыт. Бакавыя фасады таксама былі падзеленыя пілястрамі і мелі вялікія вокны. Разам касцёл меў 11 вокнаў з белага шкла і 6 алтароў[45].

Акрамя двух касцёлаў у спісах прысутнічае і алтарыя ў Фарным касцёле. Алтарыя - тып касцельнай фундацыі, лідскую алтарыю фундаваў біскуп Тамаш Зянкевіч, алтарыстам (ксяндзом, які служыў каля вызначагана алтара ў Фарным касцёле) быў слонімскі пробашч[46] *"ягамосць ксёндз Тадэвуш Лясковіч"*.

Цікава, што ў абодвух дакументах адсутнічаюць лідскія ўніяцкія цэрквы. Верагодна, з-за беднасці яны былі пазбаўлены неабходнасці плаціць падаткі, ці святар не жыў у Лідзе, а шпіталі, якія дзейнічалі пры ўніяцкіх цэрквах, падаткам не абкладаліся.

Рыма-каталіцкія касцёлы лічыліся як 1 дым ці "кляштар" і плацілі па 50 злотых, алтарыя таксама ішла як 1 дым, але плаціла 20 злотых.

### *Рынкавая вуліца*

Спіс вуліцы Рынкавай пачынаецца з дома маршалка Лідскага павета Ежы Ёдкі (1715-1789), які меў мураваны дом, за які плаціў 20 злотых падымнага падатку. Ежы Антон Ёдка быў жанаты з дачкой смаленскага падчашага Янай з Абрыскіх. Пасля Аляксандра Рылы, з 1732 па 1744 г. заняў пасаду лідскага крайчага. З 10.11.1744 г. па 9.05.1750 г., пасля Даніеля Шышкі, атрымаў пасаду стольніка, з 9.05.1750 па 9.09.1752 г., пасля Канстанты Скіндара быў лідскім войскім, з 9.09.1752 па 8.03.1768 г. пасля Казіміра Сцыпіёна заняў пасаду лідскага падкаморага, і ў гэты час ён - таксама ўжо і дзевянішскі староста. А 8.03.1768 г., пасля К. Нарбута, Ежы Ёдка атрымаў пасаду лідскага маршалка, якую займаў да сваёй смерці 21.11.1783 г. Пра яго смерць паведамляла "Газета Віленская" ў № 47 ад 21.11.1783 г.[47]

Дом "лідскага маршалка (дзе пошта)" на Рынкавай плошчы пазначаны на карце горада канца XVIII ст. Паштовая станцыя ў Лідзе з часоў караля Станіслава Аўгуста квітнела. На гэтай станцыі прымалі і выдавалі запячатаныя лісты. Міхал Шымялевіч паведамляў, як Інвентар Ліды 1798 г. апісваў дамы па Віленскай вуліцы: *"Ад Фарнага касцёла з правага боку знаходзіўся дзедзічны дварок яснавяльможнай пані Ёдкі, у якім пошта"*. Гэты дварок стаяў на месцы, якая ў 1930-х гг. была нерухомай маёмасцю Фларанціна Длускага (у тыя ж гады, гэта вуліца Сувальская, 58, кінатэатар "Эра" [48]). У гэтым жа доме пошта паказана на плане горада Ліды 1832 г. Праз нейкі час гэтая нерухомая маёмасць становіцца ўласнасцю прапаршчыка Дарожнага. Толькі ў 1842 г. гэты дварок быў знішчаны пажарам[49], і пошту перанеслі на пляц Камінскіх[50].

На Рынкавай вуліцы знаходзілася карчма Ігнацыя Сцыпіёна[51], лідскага старасты, за якую ён таксама

[45] Pyzel Konrad. Kosciol p.w. Najsw. Marii Panny i Sw. Alberta oraz klasztor karmelitow trzewiczkowych w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 172.

[46] Pyzel Konrad. Kosciol p.w. Najsw. Marii Panny i Sw. Alberta oraz klasztor karmelitow trzewiczkowych w Lidzie // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. Krakow, 2008. T. 2., cz. III. S. 100.

[47] Urzadnicy Wielkiego Ksiestwa Litewskiego. Spisy. Pod redakcj? Andrzeja Rachuby. Warszawa, 2004. T. 1. S. 332., 391., 401., 359., 339., 662.

[48] Зараз - Савецкая, 16.

[49] Пажар 23 жніўня 1842 года ў Лідзе ўзнік з-за перагрэву печы ў яўрэйскай лазні. У выніку пажару згарэлі касцёл піяраў, школьны двор, частка дамоў каля Рыначнай плошчы і 43 дамы ўздоўж вуліцы Віленскай, паводле іншых звестак, згарэлі 80 яўрэйскіх дамоў і 40 хрысціянскіх, а таксама павятовая драўляная паштовая кантора.

[50] Szymielewicz Michal. Dawna poczta I telegraf w ziemi Lidzkiej // Ziemia Lidzka №2-1939. S. 55.

[51] Ігнацы Сцыпіён (1728-1791 г.) адзіны нашчадак вялікай спадчыны Сцыпіёнаў. Нягледзячы на маладосць, дзякуючы прывілею дадавання гадоў Ігнацый ужо ў 1743 г. стаў лідскім старастам. У 1743-1746 г. яго настаўнік Мацей Догель (1715-1760 г.) - вядомы гісторык-архівіст і правазнавец - парушыўшы загад апякуна Яна Тарла, ваяводы сандамірскага вывез Ігнацыя Сцыпіёна на вучобу за мяжу. Юны Сцыпіён вывучаў філасофію, права і дакладныя навукі ў Ляйпцыгу, наведаў Парыж і Рым. У 1748 г. Ігнацы Сцыпіён быў першы раз абраны дэпутатам на сойм ад Лідскага павета. На працягу жыцця ён неаднаразова абіраўся лідскім дэпутатам, хаця ў 1745 г. прадстаўляў "Галіцкую зямлю". На паседжаннях сойму Ігнацы Сцыпіён вызначыўся памяркоўнасцю ды імкненнем да дакладнасці фармальнага боку соймавай працы. Вядомы толькі яго скаргі гетманам на злоўжыванні расійскіх войскаў у Лідскім павеце ў 1757 г. (падчас Сямігадовай вайны). Падчас "элекцыі" 1764 г. Ігнацы Сцыпіён аддаў свой голас ад Лідскага павета за Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Вясной 1759 г. ён атрымаў званне генерала-маёра літоўскага войска і пачаў шукаць якой-небудзь грамадзянскай дзяржаўнай пасады. 9 снежня 1765 г. Ігнацы Сцыпіён быў прызначаны падстоліем літоўскім. Невядома якія маёмасныя ці палітычныя разлікі прымусілі яго ў лістападзе 1786 г. адмовіцца ад гэтай пасады, прадаўшы яе. Ігнацы Сцыпіён прымаў удзел у масонскім руху. Ён быў братам ложы "Вялікага французскага Ўсходу", а ў 1766 г. уступіў у шатландскую ложу Э. Брухля. Неўзабаве Ігнацы Сцыпіён стаў кавалерам найвышэйшых узнагарод Рэчы Паспалітай: ордэна Святога Станіслава (1776 г.) і ордэна Белага Арла (1781 г.). Маёмасныя справы Ігнацыя Сцыпіёна хіба былі найлепшымі за ўсю гісторыю роду. Пасля смерці бабкі Тарэзы з Глябіцкіх-Юзафовічаў (пасля 1746 г.) ён акрамя спадчыны Сцыпіёнаў і Фірлеяў атрымаў і маёнтак Глябіцкіх-Юзафовічаў Шчучын. Гэта дазволіла Ігнацыю Сцыпіёну стварыць у заходняй частцы Лідскага павета сапраўдную латыфундыю - "добры шчучынскія" (у пачатку XIX ст. - 2172 прыгонныя). Другім вялікім уладаннем Ігнацыя Сцыпіёна былі "добры Серакомля" ў Лукаўскім павеце. У Шчучыне Ігнацы Сцыпіён падтрымліваў дзейнасць калегіюма піяраў і канвента сясцёр міласэрднасці. Значныя ахвяраванні атрымалі і лідскія піяры. У 1773 г. тут з'явілася аптэка, а ў 1785-1792 г. - батанічны сад. Намаганнямі

плаціў 20 злотых. Карчма - пабудова, дзе падарожнік мог падхарчавацца і знайсці начлег, а таксама месца сходаў, урачыстасцяў і шляхецкіх соймікаў. Корчмы будаваліся на гандлёвых плошчах гарадоў або мястэчак, у вялікіх вёсках і фальварках, на гандлёвых шляхах, каля рачных пераправаў, пры млынах і інш. Традыцыйна, карчма ў цэнтры мела заезд (тыпа стайні), па баках - шынок і пакой для пастаяльцаў. Каля карчмы маглі будавацца бровары, разнастайныя гаспадарчыя будынкі, крамы.

Праз усё XVIII ст. лідскімі старастамі былі Сцыпіёны дэ Кампа. Першым, ў 1713 г., дзякуючы падтрымцы Міхала Радзівіла, заняў пасаду лідскага старасты, якая да таго доўга належала Радзівілам, Ян Сцыпіён.

Міхал Шымялевіч пісаў, што, маёмасцю староства была ў тыя часы невялікая Лідская эканомія, якая складалася з фальварка Ліда, пляцаў і прапінацыі ў Лідзе, а таксама ў вёсках Боркі, Зарэчча, Астроўлі. Раней адарваныя ад былой эканоміі Лідскага староства вёскі Гарні, Цыбары, Кульбакі і Пурсці мелі іншых дзяржаўцаў. Звычайна Сцыпіёны жылі ў сваёй маёмасці Шчучыне, а Лідскую эканомію аддавалі ў арэнду сваім падстарастам. У цэнтры горада Ліды, пры даўнім рынку, каля царквы Св. Мікалая ад самага пачатку XVIII ст. Сцыпіёны мелі вялікі пляц, які з фронту прылягаў да рынка і размяшчаўся паміж вуліцамі Камерцыйнай і Пераца, якія былі тут у 1930-х гг. і з тылу абмяжоўваўся ракой Лідзейкай (пасля Другой Сусветнай вайны гэтых вуліц няма, але паглядзеўшы на карту горада ў 1930-х гг. не цяжка зразумець, пра якую пляцоўку ідзе гаворка - *Л.Л.*). На гэтым пляцы размяшчалася з часоў Сцыпіёнаў гарадская канцылярыя, турма і аптэка. Інстытуцыі гэтыя існавалі тут ажно з канца XVIII - пачатку XIX ст. Таксама тут жа быў і жылы двор, у якім месціліся лідскія старасты ў часы сваіх прыездаў у горад. Спераду, пры самым рынку ці вуліцы Віленскай стаяла вялікая заезджая карчма. У 1756 г. піяры перанеслі свой калегіюм з Веранова ў Ліду і размясціліся на пляцы Сцыпіёна - часова занялі частку заезджай карчмы, *"відочна, перарабілі карчму ў школу, павешаны на ёй званок пачаў згуртоўваць дзятву ў навуку адразу, з першых дзён вучэбнага года"*. Пра гэтую карчму Шымялевіч пісаў, што яна згарэла ў пажары горада Ліды 1827 г., потым на яе месцы ў 1840 г. Беньямін Камінскі пабудаваў новы двухпавярховы мураваны дом, у якім розныя павятовыя ўлады месціліся да 1915 г. У 1920-30-х гг. гэтай нерухомасцю валодаў Фрума Крэйна Ілютовіч, з канца XIX ст. некалькі дзесяткаў іншых уладальнікаў забудавалі былы сцыпіёнаўскі пляц ажно да ракі Лідзейкі[52].

Трэцяя пабудова, за якую плацілі 20 злотых падымнага падатку, была карчма Беньяміна Давідовіча.

З земляробства на Рынкавай вуліцы жыў толькі Казімір Маскалевіч, большасць дымоў адносілася да катэгорыі "прыватныя" - г.зн. уладальнікі гэтай маёмасці жылі з гандлю і рамесніцтва.

З дакумента бачна, што вуліца Рынкавая - гэта не толькі забудова рынку, але і дамы з другога боку вуліцы, г.зн. усходняя частка пазнейшай Віленскай вуліцы. Вуліца Віленская пачыналася толькі пасля Рынкавай.

***Віленская вуліца***

Вуліца была кароткай - каля 200 м ад рынка на поўнач. Калі глядзець на карту горада канца XVIII стагоддзя, дык бачна, што яна мела з усходняга боку 26 пляцаў з драўлянымі будынкамі, з заходняга - больш за 20.

У "Падымным тарыфе Лідскага павета 1775 г." на вуліцы Віленскай былі 32 дымы. Жылі тут гандляры, рамеснікі і тыя, хто меў даход з земляробства.

З шляхты дом тут меў толькі Дамінік Нарбут. Верагодна, гэта быў Дамінік (? - пасля 1807?), сын Казіміра (мечніка, войскага і маршалка лідскага). Пасол на сойм 1764 г., удзельнічаў у элекцыі караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Староста міжэвіцкі з 1771 г., чашнік лідскі ў 1770-74 гг. і войскі ў 1775-94 гг. У 1789 г. абраны дэпутатам Трыбунала ВКЛ. Пасол на сойм 1782 г. і Чатырохгадовы сойм 1788-92 гг., чалец "Згуртавання сяброў урадавай уставы". Падпісаў Віленскі акт паўстання 1794, чалец "Найвышэйшай літоўскай рады" (яе сакратар, чалец крымінальнага суда). Пасля задушэння паўстання яго расшуквалі як адказнага за смяротнае пакаранне гетмана Ш. Касакоўскага[53].

Таксам тут жылі два Перхуры, Антон і Ежы. Пра Перхураў Міхал Шымялевіч пісаў: *"На паўночным баку замкавага ўзгорка ў Лідзе растуць дзве старыя сасны з прыродна сплясканымі і выцягнутымі да замкавых муроў - у бок поўдню, да сонца - кронамі.*

Ігнацыя Сцыпіёна мястэчка Шчучын 23 траўня 1761 г. атрымала Магдэбурскае права, што прадугледжвала гандлі па нядзелях і чацвяргах, 12 кірмашоў у год і выбары мясцовага самакіравання. Варта адзначыць, што вялікае будаўніцтва Ігнацы Сцыпіён разгарнуў таксама ў Серакомлі, дзе з'явіліся палац, сад і, магчыма, касцёл. Як мецэнат ён фінансаваў выданне свайго настаўніка Мацея Догеля "Дыпламатычны кодэкс ВКЛ", а таксама даў грошы на абнаўленне піярскай друкарні ў Вільні і пакупку для яе манускрыптаў. Ігнацы Сцыпіён ажаніўся ў 1755 г. з Марыянай Вадзіцкай, дачкой Пятра Вадзіцкага, кашталяна сандэцкага. Ад гэтага шлюбу нарадзілася дачка Вераніка і 5 сыноў: Павел, Юзаф, Караль і Вінцэнт. Усе дзеці атрымалі адукацыю ў Шчучынскім калегіюме піяраў, дзе іх настаўнікам быў славуты вучоны Станіслаў Баніфацы Юндзіл (1761-1847 г.). Ён пакінуў вельмі цікавую характарыстыку культурнага ўзроўню Сцыпіёнаў, як адукаваных людзей, якія былі ўзорам шляхецкай культуры: *"Знаходжанне маё ў Шчучыне* […] *прынесла мне такую яшчэ карысць, што наведваючы дом жыўшых там тады Сцыпіёнаў, падстоліяў літоўскіх, у іх шляхетным грамадстве навучыўся добрых і належных манераў і зусім адвык ад вымаўлення і выразаў правінцыяльных, якія паўсюль і адразу вылучаюць маіх землякоў ліцвінаў"* - Цыт. па: Дanскіх Сяргей. Шляхта італьянскага паходжання ў Лідскім павеце ВКЛ: пытанні рэцэпцыі і асіміляцыі // Герольд Litherland № 17. 2006. С.57-68.

[52] Szymielewicz Michal. Dzieje pijarow lidzkich // Ziemia Lidzka №9-1936. S. 3-4.

[53] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мінск, 1999. Т. 5. С. 280.

*Чуў з вуснаў Эвеліны Сегень*[54]*, якая жыве на Зарэччы, і якая - я ўпэўнены - ніколі не бачыла ніякія старыя дакументы, а апавядала так, як чула ад старых людзей, што некалі каля тых дзвюх соснаў расла і трэцяя, якую "лідскі бургамістр Перхур сто, а можа і дзвесце гадоў таму сцяў. Быў пакараны - сам Перхур памёр, і ягоны род загінуў". З старых папер я даведаўся, што ў Лідзе яшчэ ў XVII ст. жыў род Перхураў, месцічаў лідскіх, з якіх каля 1717 г. лідскім бургамістрам быў Стэфан Перхур, а другі Перхур, імя якога не ведаю, таксама быў бургамістрам ў Лідзе каля 1740 г. Перад тым Перхурам бургамістрам Ліды каля 1730 г. быў Якуб Урбановіч, а ў 1759 г. - Казімір Бараноўскі. З паловы XVIII ст. усялякія ўзгадкі пра Перхураў у метрыкальных актах Лідскай фары знікаюць. Адзіным напамінам пра гэты род засталася назва дзялкі гарадской зямлі "Перхураўскі клін", на якой зараз заснаваны парафіяльныя рыма-каталіцкія могілкі на Слабадзе"* [55]. І нават у 1902 г. гэты ўчастак меў назву "Перхураўскі клін" і знаходзіўся ў арэндзе ў Міхаіла Клінцэвіча[56].

### *Школьны двор*

У 1775 г. тут жылі Лідскі рабін Янкель Ясялевіч, удава суддзі (верагодна - яўрэйскага) і яшчэ 5 чалавек - верагодна настаўнікі яўрэйскай школы і служкі сінагогі. Цікава, што сінагога не плаціла ніякага падатку, а рабін плаціў 3 злотыя ў год падымнага падатку. Усе астатнія таксама плацілі па 3 злотыя ў год. Школьны двор (яўрэйская школа) ёсць на карце горада канца XVIII ст.

### *Вуліца Замкавая*

Гэтая вуліцы вяла ад замка да рынкавай плошчы. У той час на ёй было няшмат пабудоваў і найбольшую маёмасць меў земскі суддзя Ян Ромер: *"Ян Ромер, суддзя земскі, тры малыя двары*", якія лічыліся адным дымам, і за якія ён плаціў 20 злотых, што кажа, пра тое, што галоўная пабудова Ромера была мураванай. Таксама на гэтай вуліцы ён меў *"два дамы скарбовыя, два дымы"*, за якія ён плаціў 20 злотых, што кажа, што гэтыя дамы лічыліся дамамі не ў цэнтры. З таго, што дамы Гейлы і Сруля Хаімовіча стаялі *"на яго ж юрыдыцы"* бачна, што Ромер меў па гэтай вуліцы юрыдыку.

Міхал Шымялевіч піша, што *"да 1785 г. кароль Станіслаў Аўгуст выдаў прывілей Паўлу і Ганне Канапніцкім на пляц па Замкавай вуліцы, а ў 1787 г. - Яну Ромеру там жа па ленным праве. Такім чынам, у горадзе ўтварыліся цэлыя асобныя кварталы, якія належалі ў XVII-XVIII ст. Куроўскім, Францкевічам, Радзімінскім, Калясінскім і інш., якія аддававаліся імі яўрэям і мяшчанам на правах вечнага чыншу"* [57], гэта значыць, што Ромер пасля 1775 г. атрымаў яшчэ нейкі дадатковы пляц на Замкавай вуліцы.

**Юрыдыка Ягамосьці ксендза плябана.**

Юрыдыкі (лац.: jurisdictio - судаводства) - у ВКЛ з XV ст. адміністрацыйна адасобленыя часткі гарадоў ці прадмесцяў, якія былі пад уладай феадала, царквы або манастыра, і на жыхароў якіх не пашыралася судовая і адміністрацыйная ўлада гарадскога самакіравання. Узніклі ў выніку перасялення прыгонных на ўчасткі ці ў дамы, якія належалі феадалам у гарадах, або перасялення саміх гараджан у межах гарадскіх уладанняў феадала. У кожнай юрыдыцы яе ўласнік прызначаў старасту або войта, засноўваў судовы орган на ўзор гарадской рады. Гарадское самакіраванне дамагалася скасаванне юрыдык, забараняла мяшчанам пераход на юрыдыкі пад пагрозай выгнання з горада. Юрыдыкі паскорылі працэс канцэнтрацыі ў гарадах рамесніцтва і гандлю, што спрыяла пашырэнню іх ролі як цэнтраў дробнатаварнай вытворчасці і абмену. У той жа час пашырэнне юрыдык узмацняла ўплыў феадальнай анархіі на гарады, што перашкаджала іх эканамічнаму развіццю і працэсу саслоўнай кансалідацыі. Юрыдыкі скасоўваліся соймамі 1764 і 1791 гг.[58]

**Юрыдыка Фарнага касцёла** (ёсць на карце горада канца XVIII ст.) мела назву Куроўшчына. Куроўшчына ў XVI ст. уяўляла сабой фальварак і належала Куроўскім. На працягу XVII ст. пераходзіла ва ўласнасць Кулешаў, Гадэбскіх і нарэшце дасталася мсціслаўскаму ваяводу Аляксандру Масевічу, які ў 1696 г. запісаў яе на карысць лідскага касцёла. У 1854 г. перайшла ва ўласнасць горада Ліды[59].

Тут, разам з карчмой, мелася 12 дымоў. Зараз гэта тэрыторыя мікрараёна Касманаўтаў.

**Юрыдыка Замкавая.**

Гэта юрыдыка, верагодна, была каля двара лідскага старасты - на поўдзень ад замка. Складалася з 7 дымоў.

**Юрыдыка ксяндзоў кармелітаў.**

Вядома, што кармелітам належаў раён горада Зарэчча. Зарэчча яшчэ ў XVII ст. складалася з трох частак - фальварка і некалькіх сялянскіх сядзіб, якія належалі Гадэбскім, а пасля перайшлі ва ўласнасць харунжага Франца Іосіфа Масевіча, з замкавай зямлі і пляцаў, якія знаходзіліся пад веданнем Лідскай магдэбургіі. Фальварак Зарэчча па дароўным запісе Масевіча ад 25 красавіка 1767 г. дастаўся Лідскаму кармеліцкаму кляштару, пасля скасавання якога ў 1839 г. быў прыняты ў скарб. Фальварак гэты пасля быў надзелены гораду Лідзе ў якасці выганнай зямлі, але

[54] Эвеліна Сегень (1867-1942), родная сястра Яна Сегеня, аўтара мемуараў "Успаміны пра Ліду канца XIX стагоддзя", сябра і суседа Міхала Шымялевіча, дзеда майго сябра Януша Сегеня (Варшава). Да 1915 г. была таемнай настаўніцай польскай мовы - *Л.Л.*

[55] Szymielewicz Michal. Nasze drzewa. Sosna // Ziemia Lidzka № 1-1938. S.7-8.

[56] Виленские губернские ведомости № 78, 2 октября 1902.

[57] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 50.

[58] Беларуская энцыклапедыя. Т. 18. Мн., 2004. С. 217.

[59] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 50.

ў 1854 г. уступлены за фальварак Куроўшчына на карысць Лідскага прыходскога касцёла. Землі, якія былі ў карыстанні сялян вёскі Зарэчча, роўна як і замкавыя нівы ў 1853 г., надзелены сялянам[60].

У 1775 г. юрыдыка складалася з 7 дымоў разам з карчмой.

**Юрыдыка васпана Салагуба.**

Верагодна, гэта была маёмасць кагосьці з спадкаемцаў Юзафа Антона Салагуба (†1759), сына вялікага літоўскага падскарбія Яна Міхала Салагуба гербу "Праўдзіц", які валодаў маёнткам Вашкевічы ў Лідскім павеце.

На юрыдыцы стаяла скарбовая карчма, і меліся яшчэ два дымы.

**Юрыдыка Ягамосці пана Фульгента Камінскага.**

У той час у Лідскім павеце былі два Фульгенты Камінскія гербу Роля, адзін Камінскі (1734 -†1801) - лідскі чашнік і гараднічы, другі Фульгент Камінскі (1745 -†1790) - ротмістр павета.

Гэта юрыдыка складалася з 9 дымоў разам з карчмой "ксендза празбітара".

**Юрыдыка Ягамосці пана Сцыпіёна, падстолія ВКЛ.**

Як ужо адзначалася вышэй, маёмасць лідскага старасты Сцыпіёна - гэта раён горада ад рынкавай плошчы - уніз да ракі Лідзейкі. Дзесьці тут, верагодна, месцілася і яго юрыдыка. Яна складалася з 6 дымоў, уладальнікамі якіх былі гандляры і рамеснікі.

**Юрыдыка Ягамосці пана Александровіча, падкаморага.**

Юрыдыка належала Францішку Аляксандровічу (1733 - †1808), лідскаму чашніку (1764 г.), лідскаму харунжаму (1766 г.), лідскаму падкамораму (1772-1777) і лідскаму кашталяну (1793 г.). Складалася з трох дымоў.

**Юрыдыка Яснавяльможнай пані Статкевіч.**

З "Падымнага тарыфу Лідскага павета 1775 г." даведваемся, што гэтая юрыдыка знаходзілася па вуліцы Каменскай. Магчыма, гэтая маёмасць раней належала падстарасту Эліяшу-Міхалу Рымвіду і да 1775 г. перайшла ў рукі Статкевічаў.

**На гарадскіх пляцах і на Зарэччы на гарадскіх пляцах.**

Верагодна маюцца на ўвазе пляцы Лідскай магдэбургіі. З-за таго, што практычна ўсе насельнікі гэтых пляцаў плацілі падымны падатак як земляробы, можна зрабіць вывад, што гэтыя пляцы знаходзіліся па ўскрайках горада.

**На юрыдыцы паноў Кастравіцкіх.**

Уладальнікам гэтай юрыдыкі быў гродскі пісар Самуэль Кастравіцкі (1729-†1780). Тут знаходзілася 6 дымоў, усе ўладальнікі якіх займаліся земляробствам.

Лідскі стараста Ігнацы Сцыпіён з замкавага двара ў Лідзе плаціў 6 злотых падымнага падатку. Чопавага падатку Ліда плаціла 224 злотыя ў год. У спісе прысутнічаюць 4 карчмы - Старусень, на Зарэччы, у Гарнях і карчма Рыбацкая, якія разам плацілі 56 зл. чопавага падатку (гл. ніжэй).

Пасля спусташальных войнаў, з другой трэці XVIII ст. горад, загойваючы раны, пачаў няўхільна развівацца. Але падзеі часоў падзелаў Рэчы Паспалітай прыпынілі развіццё горада. Пасля ж далучэння да Расіі рэзка паменшылася саслоўе беларускіх "месцічаў" - колькасць гараджан-хрысціян у гарадах скарацілася больш, чым напалову, у той час, як сялянскае насельніцтва павялічылася. У чатыры разы паменшылася колькасць гараджан-хрысціян у Берасцейскім і Лідскім паветах, у два з паловай разы - у Ваўкавыскім і Слонімскім паветах[61] - гэта былі першыя вынікі інкарпарацыі ў Расійскую імперыю.

**Інвентар Лідскага староства 1680 г.[62]**

***А. 924.***

Года тысяча семсот восемдзесят шостага,
кастрычніка, чацвёртага дня.

Падчас свята ў дзень Міхаіла арханёла, у горадзе Яго Каралеўскай Мосці Лідзе *in solito indici-onim low*[63] парадкам Права паспалітага, суддзямі ... Антоніем Скіндарам, старшынём, Ігнатам Нарбутам, Антоніем Аляксандровічам, гарадскім вяльможным пісарам, засядацелямі і ўрадоўцамі Земскага лідскага суда: ... вялебнага пана Тадэвуша Корвіна ...

***Інвентар Лідскага староства***

Найяснейшага князя ягомасці, вялебнага Дамініка Мікалая Радзівіла, лідскага старасты, падскарбія надворнага ВКЛ. З усімі даходамі як з горада Яго Каралеўскай Мосці Ліды, так і з эканоміі староства ... падстарасту яснавяльможнаму пану Эліяшу Міхалу Рымвіду падстарасту гродс.: Лідск. правам арэндным згодна права, ад Ясна Асвячонага вялебнага князя дадзена дня Св. Пятра і Паўла Св. Рымскага на тры гады згодна з новым календаром, дадзена і пададзена ... Эліяша Катанскага (?) рэвізора па волі Ясна Асвячонага вялебнага князя, ... у годзе тысяча шасцісот васьмідзесятым, дваццаць дзявятага чэрвеня.

Найперш будынкі

Лідскі замак, агароджаны мурам вакол. Брама адна, да яе (шлях праз) вялікія вароты па плаціне з форткай абітай жалезам.

***А. 924 адв.***

*Будынак замкавага фальварка*

[60] Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок // Виленский календарь. Вильно, 1906. С. 57.

[61] Швед В., Дансіх С. Заходні рэгіён Беларусі ў часы напалеонаўскіх войнаў. 1805-1815 гады. Гродна, 2006. С. 32-35.

[62] НГАБ. Ф. 1767. Воп. 1. Спр. 22. АА. 924-939.

[63] Па звычаёвым праве.

Сам фальварак за замкам стаіць над ракой Каменкай, агароджаны плотам з хросту да кута, у які (фальварак) уваход праз уязныя памежныя вароты. Уехаўшы, па левым баку каля самых варот бровар, дранкай крыты, у бровары дзверы на бегунках, усярэдзіне печ для вырабу піва, мураваная з каменю. Ёсць кухня і насупраць яе лазня з дзвярыма на бегунках з каменнай печчу і падлогай. Ідучы ад таго бровара, стаіць жылы домік, крыты саломай, у домік уваход праз сені, дзверы з жалезнай клямкай, там жа пры правым баку белая хата (пакой - *Л.Л.*) з каморай, у якую дзверы на завесах з зашчапкай і клямкай жалезнымі. Стол сталярнай работы. Тут дзве скрыні пад шкло, у драўляных скрынях - па тры вялікіх кварты. Малое акенца з застаўкай. Вокны з вялікімі рамамі на завесах з зашчапкай. Печ з шэрай кафлі з комінам, адзін зэдль. З гэтай хаты (пакоя - *Л.Л.*) ў камору дзверы на завесах з жалезнымі зашчапкай і прабоямі. У гэтай каморы адно акно з клямкай ў вялікай раме, каля яго малое акно з зашчапкай, тут адзін вялікі зэдль. Дзверы, які вядуць з каморы ў сені, на завесах з зашчапкай і жалезнымі прабоямі. З тых жа сяней насупраць каморы другія дзверы, якія вядуць у другую белую хату (пакой - *Л.Л.*) з каморай. Гэтыя дзверы на завесах з зашчапкай і клямкай. Тут два вялікія зашклёныя акны і трэцяе малое акенца, печ зложана з шэрай кафлі, на падлозе зялёныя покрыўкі ... дзве лавы. З гэтага пакоя ў камору - двое дзвярэй: адны на завесах з зашчапкай, другія на бегунках з зашчапкай жалезнай і з прабоямі.

Калі выйсці з гэтага дома, па левы бок стаіць піўніца (склеп), крытая саломай, у піўніцы дзверы на бегунках з жалезнай зашчапкай і з прабоямі. Каля гэтай піўніцы крыты саломай хлеў з хросту на сохах, брама ў хлеў з дошак на бегунках. Далей крытае сенам гумно да ссыпання збожжа, засекаў восем ...

***A. 925***

дзверы з прабоямі і зашчапкай, ад таго ... па правым баку стайня, крытая саломай, на двух слупах ... ад стайні па левым баку пякарня з хросту з сенямі. Уваходныя дзверы ў пякарню з дошак, на бегунках, чорная печ для выпечкі хлеба, вокнаў з рамамі тры, лавы на цеста, сталы, бочка для нашэння вады. За пякарняй, у тыле гумно з хросту крытае саломай на двух слупах, брамка з жалезнай зашчапкай. За гумном адрына з хросту, а таксама малое гумно агароджанае хростам і два агароды... таксама агароджаныя хростам.

Палеткаў тутэйшага двара тры: адзін у Мосцічах, другі за агародам ад Каменкі, трэці за ... ад гасцінца Юсялекага вялікая сенажаць дворная ў Мосцічах - чатыры стагі, у Саўкішках - тры стагі, у Борках ... - чатыры стагі.

<u>Частка дворная</u>
Жыта пасеена валок меры віленскай - 8.
Пшаніцы пасеена - 1/2.
Гароху пасеена - 1/2.
Яські (?) пасеена - 1/2.
Ячменю пасеена - 3.
Аўсу пасеена - 2.
... пасеена ... - 1
Канопляў пасеена - 1/2
Маку пасеена, гарнцы - 1/2

***A. 925 адв.***
<u>Валокі горада Ліды</u>

| <u>Валокі</u> | |
|---|---|
| 1/2 | Ралікоўскай |
| 1/2 | Бартламей Яшкель |
| 1/2 | Ежы Здановіч |
| 1 | Адам Арынялевіч |
| 1/4 | Максім Шмей |
| 1/4 | Кандрат Рута |
| 1/4 | Андрэй Плакса |
| 1/4 | Казімір Барысовіч |
| 1/4 | Андрэй Гарневіч |
| 1/6 | Стэфан Хамейка |
| 1/3 | Ян Хамейка |
| 1/2 | Мікалай Мельнічэня |
| 1/4 | Міхал Амановіч |
| 1/4 | Кшыштаф Івановіч |
| 1/4 | Марцін Гарневіч |
| 1/4 | Ян Пешы |
| 1/4 | Ян Гігойць |
| 1/4 | Ян Гарадзельніца |
| 1/4 | Андрэй Дзядук |
| 1/4 | Ян Здановіч |
| 1/4 | Ежы Здановіч |
| 1/4 | Ян Дзядук |
| 1/4 | Мацей Раман |
| 1/4 | Ян Івановіч |

***A. 926***

| | |
|---|---|
| 1/2 | Самуэль Сідаровіч |
| 1/2 | П. Ян Амановіч, бурмістр. |
| 1/4 | Ярамей Швец |
| 1/4 | Ян Коркель |
| 1/2 | Ячкелава, удава |
| 1/4 | Зянон Півута |
| 1 | Мойшы, яўрэя |
| 1/4 | Крыштаф Шаўкавіна |
| 1/4 | Станіслаў Бараноўскі |
| 1/4 | Адам Грымялевіч |
| 1/4 | Крыштаф Івановіч |
| 1/4 | Стэфан Казлоўскі |
| 1/4 | п. Лабанова, удава |
| 1/4 | Казімір Маскалевіч |
| 1/4 | Пётр Мельнік |
| 1/4 | Ян Міхнюк |
| 1/4 | Станіслаў Пятровіч |
| 1/4 | Яшкелёва, удава |
| 1/4 | Марцін Гарневіч |
| 1/4 | Станіслаў Гарневіч |
| 1/4 | Крыштаф, кравец, Лакушэвіч |
| 1/2 | Казімірава Гарневічава, удава |
| 1/4 | Абрама, яўрэя |
| 1/2 | Ежы Здановіч |
| 1/2 | Крыштаф Кодзь |
| 1/2 | Ян Наўтовіч |
| 1/6 | Міхал Грамейка |

*Міхал Шымялевіч*

# Гісторыя лідскіх піяраў[1]

**I.**

За 30 км на поўнач ад Ліды, на вялікай дарозе на Вільню, каля чыгуначнага прыпынка знаходзіцца, некалі вялікі, а зараз падзелены, маёнтак Вераноў (зараз, Воранава - *Л.Л.*) з мястэчкам такой жа назвы. Двор Вераноў раней называўся Балотнае, да нашага часу летувісы называюць яго Балатнас. Маёнтак Балотнае з карчмой, згодна з вопісам 1690 г. меў 61 сялянскі дым, разам з Гарадзенкай і Бердаўкай належаў Аляксандру Яну Масевічу, ваяводзе мсціслаўскаму. На пачатку XVIII ст. гэты маёнтак неяк перайшоў ва ўласнасць Яна Сцыпіёна дэ Кампа[2], старасты лідскага і барцянскага, нашчадка Пятра Сцыпіёна дэ Кампа[3], губернатара княства Бары, які прыбыў у наш край у 1518 г. як маршалак каралевы Боны. Ян, ажаніўшыся з Тарэзай з Глябіцкіх-Юзафовічаў, меў аднаго сына Юзафа[4], дзедзіча магнацкай фартуны. Юзаф[5] узяў

[1] Szymielewicz Michal. Dzieje pijarow lidzkich // Ziemia Lidzka №9-1936. S. 2-4.; №1-1937. S. 2-3.; №3-1937. S. 32-33.; № 4-1937. S. 44.; №6-7-1937. S. 62-67.

[2] Першай дзяржаўнай пасадай Яна Сцыпіёна стала пасада лідскага гродскага пісара, якую ён атрымаў у 1695 г., дзякуючы падтрымцы Яна Мікалая Радзівіла. У 1699 г. ён быў абраны лідскім дэпутатам у Трыбунал ВКЛ, а ў 1703-1704 г. нават з'яўляўся яго маршалкам. У 1704 г. Ян Сцыпіён спрабаваў заняць пасаду лідскага земскага пісара, але атрымаў толькі месца лідскага падстолія. Нарэшце, у 1713 г., дзякуючы падтрымцы Міхала Радзівіла, Ян Сцыпіён заняў пасаду лідскага старасты, якая да таго доўга належала Радзівілам. У якасці лідскага старасты і пасла ад Лідскага павета Ян Сцыпіён актыўна ўдзельнічаў у большасці палітычных падзеяў пачатку XVIII ст. Ён скардзіўся на злоўжыванні расійскай арміі ў Лідскім павеце (1710 г.), выступаў супраць "царскай пратэкцыі" Рэчы Паспалітай (1716 г.), прапаноўваў зняць з усіх дзяржаўных пасадаў "дысідэнтаў" - некатолікаў (1720 г.). У 1719 г. віленскі кашталян Людвік Канстанты Пацей перадаў Яну Сцыпіёну Барцянскае староства ў Лідскім павеце. 7 лістапада 1720 г. Ян Сцыпіён атрымаў пасаду смаленскага кашталяна, якая не давала матэрыяльных даходаў, але гарантавала месца ў сенаце Рэчы Паспалітай. Неўзабаве Ян стаў першым Сцыпіёнам, які заняў магнацкую пасаду. Але яго спробы ў 1732 г. заняць пасаду смаленскага ваяводы былі безпаспяховымі. Ян Сцыпіён валодаў пасля бацькі Сукурчамі, Шчучынкам і Балотнам (зараз Воранава) у Лідскім, Сякержынцамі ў Гарадзенскім і Бебраўцамі ў Мазырскім паветах. Ад маці ён стаў уладальнікам Канюхоў ў Ваўкавыскім павеце. Дзякуючы дзяржаўнай службе Ян Сцыпіён з жонкай атрымаў вёскі Гарні (1708 г.) і Пурсці (1711 г.) у Лідскім павеце. У 1710 г. ён "трымаў у заставе" (кіраваў і карыстаўся без права ўласнасці) маёнтак Агінскіх Яшуны Віленскага павета. Разам з жонкай - Тарэзай з Глябіцкіх-Юзафовічаў, дачкой падстолія віцебскага і войскага полацкага Юрыя Глябіцкага-Юзафовіча - Ян Сцыпіён размясціў у 1735 г. у Балотным (Воранаве) кляштар піяраў, а ў 1738 г. у Канюхах - кляштар дамініканаў. Такім чынам, Ян Сцыпіён быў першым прадстаўніком свайго роду, які дасягнуў амаль магнацкага статусу: сенатар, двойчы староста, уладальнік некалькіх маёнткаў у трох паветах, заснавальнік двух кляштароў - Цыт. па: Данскіх Сяргей. Шляхта італьянскага паходжання ў Лідскім павеце ВКЛ: пытанні рэцэпцыі і асіміляцыі // Герольд Litherland № 17. 2006. С.57-68. - *Л.Л.*

[3] Родапачынальнікам Сцыпіёнаў на землях Польшчы і ВКЛ, паводле афіцыйнай генеалагічнай версіі, быў італьянскі нашчадак рымскіх Сцыпіёнаў неапалітанскі шляхціц Пётр Сцыпіён дэль Кампа - маршалак двара каралевы Боны Сфорцы і губернатар княства Бары ў Італіі - спадчыннага ўладання каралевы. Італьянец Пётр, які ў традыцыях культуры Адраджэння абраў сабе гучны лацінскі псеўданім і быў вядомы, як "Сцыпіён - вучоны з Бары" (Scypion Scholaris z Bari), у 1530-1550 г. з'яўляўся сакратаром каралевы Боны Сфорцы. Відавочна, што ў Польшчы ён з'явіўся пазней 1518 г. і быў адукаваным чалавекам, які імкнуўся праз веды набыць пэўны сацыяльны статус. Дарэчы, афіцыйнае прозвішча дэль Кампа Сцыпіён можна літаральна перакласці з італьянскага, як "аднаго поля шляхецтва са Сцыпіёнамі". У часы Адраджэння антычныя псеўданімы бралі сабе для афіцыйнага ўжывання толькі асобы нешляхетнага паходжання. Такім чынам, ля вытокаў шляхецкага роду Сцыпіёнаў у Польшчы і ВКЛ знаходзіўся адукаваны італьянец, які пачынаў сваю "кар'еру" ў якасці сакратара каралевы Боны - Цыт. па: Данскіх Сяргей. Шляхта італьянскага паходжання ў Лідскім павеце ВКЛ: пытанні рэцэпцыі і асіміляцыі // Герольд Litherland № 17. 2006. С.57-68. - *Л.Л.*

[4] Ян Сцыпіён меў 5 сыноў і 1 дачку. Дасягнулі паўнагоддзя толькі сын Юзаф (?-1743 г.) і дачка Ганна - *Л.Л.*

[5] У 1720 г. бацька перадаў Юзафу Лідскае староства. Як мага раней Ян Сцыпіён імкнуўся вылучыць адзінаму сыну асобнае ўладанне. У 1718 г. з дазволу караля Аўгуста II Моцнага ён перадаў Юзафу вёску Гарні, у 1735 г. - Кульбакі, у 1736 г. - Барцяны і Пурсці ў Лідскім павеце. Юзаф атрымаў заможны стан, адпаведны для актыўнага ўдзелу ў грамадска-палітычным жыцці. Юзаф Сцыпіён неаднаразова выбіраўся на соймы Рэчы Паспалітай ад Лідскага павета, Смаленскага ваяводства і Інфлянтаў. Першы раз ён ажаніўся ў 1728 г. з Веранікай Фірлей - дачкой каменскага кашталяна Андрэя Фірлея. Пасля смерці ў 1730 г. яе брата Якуба Вераніка стала адзіным нашчадкам усёй маёмасці Фірлеяў, якая такім чынам трапіла да Сцыпіёнаў. Ад бацькі Юзаф Сцыпіён меў Шчучынак, Балотнае (Воранава), Палубнікі, Сукурчы, Гарні, Кульбакі, Борці і Пурсці ў Лідскім павеце і Канюхі ў Ваўкавыскім павеце. Пасля смерці каля 1739 г. жонкі Веранікі Юзафу Сцыпіёну дасталася ўся спадчына Фірлеяў ў Люблінскім і Рускім ваяводствах, у тым ліку юрыдыка ў Любліне. Дзякуючы сваім багаццям Юзаф Сцыпіён рабіў вялікія ахвяраванні кляштарам піяраў у Шчучыне і Воранаве і дамініканам у Канюхах. Ён падтрымаў сваю маці ў заснаванні ў Шчучыне канвента сясцёр міласэрднасці ў 1742 г. Другой жонкай Юзафа Сцыпіёна стала ў 1740 г. Тарэза Барбара Радзівіл - дачка навагрудскага ваяводы Мікалая Фаўстына Радзівіла. Фактычна гэты шлюб можна разглядаць як прызнанне за "лідскімі" Сцыпіёнамі роўнага становішча з боку магнатаў ВКЛ. У 1742 г. у Дрэздэне кароль Аўгуст III Сас адзначыў Юзафа Сцыпіёна ордэнам Белага Арла - вышэйшай узнагародай у Рэчы Паспалітай. Ад першага шлюбу з Веранікай Фірлей Юзаф Сцыпіён меў двух сыноў: Станіслава і Ігнацыя, а таксама трох дачок: Ганну, Магдалену і Тарэзу. Ад другога шлюбу з Тарэзай Барбарай Радзівіл – толькі аднаго сына Ксаверыя Мікалая. - Цыт. па: Данскіх Сяргей. Шляхта італьянскага паходжання ў Лідскім павеце ВКЛ: пытанні рэцэпцыі і асіміляцыі // Герольд Litherland № 17. 2006. С.57-68. - *Л.Л.*

шлюб з Веранікай (Вярэнай) Фірлей з Дубровіцы, кашталянкай камянецкай, якая была дачкой Ганны Ланцкаронскай, народжнай кашталянкай радамскай. Пасля таго, як ў 1730 г. памёр брат, Якуб Фулер, стараста мукароўскі, жонка Юзафа Сцыпіёна дэ Кампа Вераніка, стала апошняй дзедзічкай усёй радавой маёмасці. Маладажоны Юзаф і Вераніка Сцыпіёны дэ Кампа атрымалі ў спадчыну і Балотнае. Назва Балотнае, верагодна, паходзіла ад слова *балота* ці ад старажытнага уладальніка гэтай маёмасці па прозвішчы *Балота*, і ў любым выпадку была непрыемная для вымаўлення і для слыху. Таму ў гонар маладой пані Веранікі (Вярэны) маёнтак быў пераназваны ў *Вераноў*. Тую ж назву атрымала і новазаснаванае каля маёнтка мястэчка, якое раней таксама звалася Балотнае.

Заслужаны ў Рэчы Паспалітай род Сцыпіёнаў дэ Кампа, перанёс сюды і захаваў прыгожыя традыцыі італьянскага адраджэння - пакінуў пасля сябе на Лідчыне векапомную памяць - школу і шпіталь у Шчучыне, школу ў Веранове і Лідзе.

1 жніўня 1735 г. у маёнтку Шчучын Ян і Тарэза, кашталяны смаленскія разам з Юзафам і Веранікай, Сцыпіёны дэ Кампа, лідскімя старасты - з аднаго боку, а з другога боку ксёндз Ансельм ад ордэна Шкалярыюм Піярум[6] - Школ пабожных - і ксёндз Людвік Блажэўскі, віца-правінцыял, прадстаўнік таго ж ордэна, падпісалі дамову: Сцыпіёны, жадаючы, каб слава Божая паўсюдна, а асабліва ў іх уладаннях і для іх падданых памножана была, заклалі калегіюм піяраў у сваіх уладаннях - гэта значыць у Балотным, зараз Вераноў Лідскага павета (артыкул напісаны да 1936 г. - *Л.Л.*). На пабудову новага касцёла, кляштара і школ абавязаліся прызначыць пляц на рынку таго ж мястэчка. Пляц, на якім (у 1735 г.) стаіць драўляны касцёл і знаходзяцца могілкі (ў баку ад мястэчка), калі касцёл з-за старасці парушыцца, не можа быць прызначаны ні для чаго іншага, а толькі заставацца ў сваёй агароджы. Адначасна фундараты абавязалі ксяндзоў-піяраў праводзіць рэгулярнае набажэнства з казаннямі ў нядзелю і ў святочныя дні, аздобы касцёла захоўваць, люд паспаліты ў артыкулах веры кожную нядзелю катэхізаваць, моладзь шляхецкую і ўсякага стану ў пабожнасці, навуцы, і добрых звычаях выхоўваць і ім жа прапаведаваць Божую славу, у павазе да бліжняга і ў руплівасці аб душах належна вучыць.

На ўтрыманне калегіюма, дзе павінны былі выкладаць як найменей 12 капланаў, Сцыпіёны запісалі 10 000 злотых з свайго маёнтка Асавы Лапацінскай. Таксама 5 000 злотых, забяспечаных яго фальваркам Асавой, запісаў Самуэль Бяньковіч. Ад яўрэйскага кагалу мястэчка Ружаны было запісана 10 000 злотых, маёнтак Мерач Францкевічаўская забяспечвала 20 000 злотых, маёнтак Радзівонішкі Халхоўскага, адпісаны "на славу Божую" ў распараджэнне фундатараў Войцахам Стацэвічам, былым адміністратарам маёнтка Шчучын - 5 000 злотых з забеспячэннем гэтай сумы нерухомасцю. Дакумент з гэтымі сумамі зацверджаны 17 кастрычніка таго ж года правінцыялам піяраў кс. Аброзіем Вансовічам. У наступным годзе на сталы побыт у Вераноў прыехалі два піяры - кс. Ян Багуцкі, кіраўнік місіі, і кс. Тэадор Баркоўскі - адміністратар касцёла і школьны настаўнік, яны залажылі тут сваю рэзідэнцыю.

Пад наглядам і кіраўніцтвам першага кіраўніка піяраў кс. Багуцкага ў Веранове каля рынку паўсталі драўляныя будынкі калегіюма і школы. Пры ягоным пераемніку, кс. Гіпаліту Жаглiцкім (1742-1745 гг.), пасярод рынку пабудаваны новы драўляны касцёл, які існуе да нашых часоў (артыкул напісаны да 1936 г. - *Л.Л.*). Потым вераноўскімі рэктарамі былі:

1745-1748 гг., кс. Гурдзіян Войцах Скаронскі;

1748-1751 гг., кс. Леан Людвік Галавінскі;

1751-1755 гг., кс. Клеменс Галавінскі, брат свайго папярэдніка, у 1755 г. памёр у Веранове;

1755-1756 гг., паўторна, кс. Ян Багуцкі, памёр у Веранове 26 ліпеня 1756 г.;

З 1756 г. кс. Яўхім Радамыскі, памёр у Любяшове 18 студзеня 1775 г.

Ужо на трэцім годзе існавання ў школе піяраў выкладалася рыторыка, г.зн. школа ўжо мела апошні клас. Па жаданні геранёнскага інфулята[7] вераноўскія піяры адміністравалі таксама касцёл у Геранёнах і адкрылі там аддзел сваёй школы. Аднак, піяры працавалі ў Веранове нядоўга.

Ад ранейшых часоў паміж езуітамі і піярамі ішла барацьба на полі асветы шляхецкай моладзі, барацьба гэтая вылівалася ў судовыя справы ў розных інстанцыях аб прывілеях на ўтрыманне навучальных устаноў. Што да спосабаў навучання, дык да паловы XVIII ст. не было розніцы паміж піярскімі і езуіцкімі школамі. Але для моладзі, дык піяры мелі перавагу ў тым, што менш каралі вучняў і не прывівалі рэлігійнага фанатызму ці пагарды да людзей іншай народнасці, рэлігіі ці стану. Езуіты, моцныя сваімі старажытнымі прывілеямі, даказвалі, што кароль Аўгуст III у абарону праў Віленскай акадэміі 28 сакавіка 1738 г. падпісаў дэкрэт, які скасоўваў піярскія школы ў Вільні, Балотным і Геранёнах. Піяры не закрылі сваіх школ, не выканалі гэтага дэкрэту і перанеслі спрэчку з езуітамі ў апостальскую сталіцу. У гэтую барацьбу ўключыўся і свецкі люд. Напрыклад, у абароны праваў езуітаў выступіў гарадзенскі соймік, які 22 жніўня 1740 г. у наказах дадзеных паслам на шасцітыднёвы сойм, запісаў, *"каб школы Іх Мосьці кс. піяраў у Вільні, Балотным і Геранёнах, супраць права створаныя, ... былі зачынены"* [8]. Таму вераноўскія піяры не маглі працягваць тут сваю дзейнасць і мусілі паменшыць адукацыйную працу да памераў парафіяльнай школкі, адначасова ўтрымліваючы для сваіх чатырох навіцыянтаў курс маральнай тэалогіі. Пры пасярэдніцтве

---

[6] Назва ордэна цалкам: Ordo Clericorum Regularium Pauperum Matris Dei Scholarum Piarum, S.P., Sch.P. - *Л.Л.*

[7] Каталіцкі святар, які як ўзнагароду за асабліва дбайную службу, атрымаў права насіць падчас набажэнства інфулумітру - *Л.Л.*

[8] Акты Виленской Комиссии. Т. 8. С. 308.

Радзівілаў у Нясвіжы 8 верасня 1753 г. паміж езуітамі і піярамі было падпісана паразуменне - піяры адракліся ад адкрыцця школ у Вільні[9]. Паколькі тое пагадненне нічога не казала пра адукацыйныя пляцоўкі ў Веранове і Геранёнах, дык лёс іх заставаўся пад пытаннем. Але гэта былі часы Станіслава Канарскага і яго слаўнага Collegium Nobilium[10], на ўзор якога пачалі рэфармаваць свае калегіюмы і самі езуіты.

II.

Слаўны праўнік і гісторык, піяр кс. Мацей Догель, лідзянін па паходжанні, хатні настаўнік у сям'і Сцыпіёнаў, першым падаў думку перанесці вераноўскі калегіюм *"у шляхетны каралеўскі горад Ліду"*. Пасля залатвення ўсіх спраў Ігнацы Сцыпіён дэ Кампа[11], сын і ўнук ужо памерлых першых фундатараў, у той час лідскі стараста, заўважыў, што грашовыя сродкі ксяндзоў піяраў большыя, чым трэба, каб жыць у горадзе і зразумеў, што магчыма перанесці калегіюм. Відочна, менавіта ў Лідзе, а не ў Веранове, 12 снежня 1756 г. ён у прысутнасці Францішка Александровіча, пісара земскага і Самуэля з Кастравіц Кастравіцкага, пісара лідскага гродскага, падпісаў акт пераносу, які пакідаў вераноўскі касцёл піярам і замацоўваў за гэтай рэзідэнцыяй фундушовую суму ў 20 000 злотых, забяспечаных маёнткам Мерач Франскевічоўская. Астатні фундуш пераносіўся ў Лідскі калегіюм, прычым да ўжо існага фундушу Сцыпіён дадаў яшчэ свой пляц ў Лідзе пры вуліцы Віленскай, набыты ў Людвікі Гадэмбскай, стольнікавай пінскай у 1749 г., а таксама ва ўласнасць калегіюма ён запісаў свой фальварак Асава Лапацінская. У той жа дзень гэты акт быў зарэгістраваны ў Лідскім гродскім судзе, а 9 сакавіка таго ж года пацверджаны віленскім біскупам Міхалам Зянковічам. Аднак справа пераносу калегіюма ў Ліду з павелічэннем колькасці святароў у бедным павятовым горадзе, якім была Ліда, стрымлівалася закуліснымі інтрыгамі. Хранікёр калегіюма, кс. Юзафат Вайшвіла, пісаў, што *"як сведчаць лісты, якія знаходзяцца да гэтага часу ў плябані, лідскія кармеліты звярталіся з просьбай у Апостальскую сталіцу, каб піярам не дазволілі асесіі ў Лідзе, бо хваляваліся, што паменшацца іх касцельныя даходы"*.

Праз усё XVIII ст. лідскімі старастамі былі чатыры пакаленні Сцыпіёнаў дэ Кампа. Маёмасцю староства была ў тыя часы невялікая Лідская эканомія, якая складалася з фальварка Ліда, пляцаў і прапінацыі ў Лідзе, а таксама вёсак Боркі, Зарэчча, Астроўлі. Раней адарваныя ад былой эканоміі Лідскага староства вёскі - Гарні, Цыбары, Кульбакі і Пурсці - мелі іншых уладальнікаў. Звычайна Сцыпіёны жылі ў сваім маёнтку Шчучыне, а Лідскую эканомію аддавалі ў арэнду сваім падстарастам. У цэнтры горада Ліды, пры даўнім рынку, каля царквы Св. Мікалая ад самага пачатку XVIII ст. Сцыпіёны мелі вялікі пляц, які з фронту прылягаў да рынку і змяшчаўся паміж сучаснымі вуліцамі Камерцыйнай і Пераца, а з тылу абмяжоўваўся ракой Лідзейкай (пасля Другой Сусветнай вайны гэтых вуліц няма, але паглядзеўшы на карту горада ў 1930-х гг. няцяжка зразумець, пра якую пляцоўку ідзе гаворка - *Л.Л.*). На гэтым пляцы змяшчаліся з часоў Сцыпіёнаў гарадская канцылярыя, турма і аптэка. Інстытуцыі гэтыя існавалі тут ажно з канца XVIII - пачатку XIX ст. Таксама тут жа быў і жылы двор, у якім месціліся лідскія старасты ў часы сваіх прыездаў у горад. Спераду, пры самым рынку ці вуліцы Віленскай стаяла вялікая драўляная заезджая карчма[12].

У часы вакацый 1756 г. піяры перанеслі свой калегіюм з Веранова ў Ліду і размясціліся на пляцы Сцыпіёна - часова занялі частку заезджай карчмы[13]: *"відочна, перарабілі карчму ў школу, павешаны на ёй званок пачаў згуртоўваць дзятву ў навуку адразу, з першых дзён вучэбнага года"*.

Старшымі сярод піяраў ў Лідзе былі:

У 1758-1762 гг. кс. Антоні Астроўскі.

У 1763 г. па намінацыі генерала ордэна кс. Войцах Камароўскі.

Каля 1767 г. кс. Казімір Яблонскі, памёр у Лідзе.

1768-1792 гг. кс. Аляксандр Вольмер, памёр у Лідзе 12 снежня 1802 г.

1792-1795 гг. кс. Фларыян Крушэўскі.

---

[9] Тэкст гэтай кароткай дамовы апублікаваў Міхал Балінскі, гл. Dawna Akademia Wilenska.1862, S. 165.

[10] Collegium Nobilium - вышэйшая навучальная ўстанова, заснаванае ў XVIII ст. ў Варшаве Станіславам Канарскім. Прызначалася для атрымання адукацыі сынамі шляхты, у асноўным магнатаў, выхоўваючы іх як будучых кіраўнікоў дзяржавы - у грамадзянскім і патрыятычным духу. Мовай навучання была латынь. У навучальнай установе выкладалі многія вядомыя дзеячы асветы. На наватарскіх праграмах школы была пазней заснавана рэформа, праведзеная Камісіяй Народнай Адукацыі. Курс навучання дзяліўся на пяць класаў, але некаторыя з іх былі двухгадовымі, так што працягласць вучобы складала 8 гадоў. Акрамя таго, выпускнікі маглі працягнуць навучанне ў двухгадовым класе права. У Collegium Nobilium ўпершыню ў Рэчы Паспалітай ў праграму сярэдняй адукацыі былі ўключаныя прыродазнаўча-матэматычныя навукі, эканоміка, права, вывучэнне сучасных моў і твораў сучасных пісьменнікаў. Як і ў іншых дваранскіх ліцэях ў Еўропе, навучэнцам прышчаплялі добрыя манеры іх вучылі правілах зносін і фехтаванню - *Л.Л.*

[11] Ігнацы Сцыпіён (1728-1791 г.) адзіны нашчадак вялікай спадчыны Сцыпіёнаў. Нягледзячы на маладосць, дзякуючы прывілею дадавання гадоў Ігнацый ужо ў 1743 г. стаў лідскім старастам... *Гл ст. 34 - 35.*

[12] Гэтая карчма згарэла ў пажары горада Ліды 1827 г., потым на яе месцы ў 1840 г. Беньямін Камянецкі пабудаваў новы двухпавярховы мураваны дом, у якім павятовыя ўлады месціліся да 1915 г. Зараз гэтай нерухомасцю валодае Фрума Крэйна Ілютовіч. Некалькі дзесяткаў іншых уладальнікаў забудавалі былы сцыпіёнаўскі пляц ажно да ракі Лідзейкі.

[13] Карчма - пабудова, дзе падарожнік мог падхарчавацца і знайсці начлег, а таксам месца сходаў, урачыстасцяў і шляхецкіх соймікаў. Корчмы будаваліся на гандлёвых плошчах гарадоў або мястэчкаў, у вялікіх вёсках і фальварках, на гандлёвых шляхах, каля рачных пераправаў, пры млынах і інш. Традыцыйна карчма ў цэнтры мела заезд (тыпа стайні), па баках шынок і пакой для пастаяльцаў. Каля карчмы маглі будавацца бровары, разнастайныя гаспадарчыя будынкі, крамы - *Л.Л.*

У 1796 г. кс. Андрыян Шалевіч.

У 1797 г. кс. Павел Выхоўскі.

Ад 5 верасня 1797 г. да 1799 г. кс. Філіп Неруш Банарскі.

1799-1806 гг. кс. Себасцян Дамброўскі, пробашч ваверскі і дылеўскі, архітэктар.

Ад 22 жніўня 1806 г. да 1808 г. кс. Раймунд Ржашоўскі, юрыст.

У 1808 г. кс. Юзаф Сангайла.

1808-1811 гг. кс. Антон Юхневіч.

1811-1814 гг. кс. Францішак Дашкевіч, памёр у Лідзе ў 1814 г.

У 1814 г. кс. Дамінік Серафіновіч.

1814-1817 гг. кс. Феліцыян Пашкевіч.

1817-1818 гг. кс. Себасцян Дамброўскі паўторна, памёр у Лідзе.

Ад 1818 г. кс. Віктар Ежыкевіч, па намінацыі правінцыяла ордэну.

У 1820 г. на капітуле абраны кс. Каласанты Санкоўскі. У 1826 г. атрымаў ад князёў Радзівілаў інвестытуру на Жырмунскае пробства. Кіраваў Лідскім калегіумам да 1829 г. Памёр у Жырмунах у 1834 г.

1829-1832 гг. кс. Антон Раеўскі, лідзянін, прыродазнавец.

1832-1835 гг. Фердынанд Шумоўскі, матэматык.

1835-1842 гг. кс. Юзаф Вайшвіла, матэматык.

Пляц пры вуліцы Віленскай, запісаны Ігнацыям Сцыпіёнам, не быў дастаткова вялікім, каб на ім маглі быць пабудаваны касцёл, калегіюм, школы і гаспадарчыя будынкі, і тады Юзаф Барымоўскі, лідскі земскі суддзя, уступіў за 2000 імшаў піярам ва ўласнасць свой пляц, прылеглы да ранейшага. Уласнікі Веранова Александровічы, за перапісаны піярамі ім ва ўласнасць пляц каля рынку ў Веранова, аддалі манахам свой пляц у Лідзе пры вуліцы Віленскай. Кароль Аўгуст III у 1762 г. зацвердзіў фундацыю піяраў у Лідзе і ў тым жа годзе ў Варшаве, 25 кастрычніка, падпісаў дакумент перадачы ва ўласнасць піярам, запісаных на іх пляцоў. У выніку старанняў тагачаснага рэктара Лідскага калегіюма кс. Аляксандра Вольмера 4 траўня 1774 г. з'явілася ўхвала экстраардынарнага сойму ў Варшаве пад назвай "Зацвярджэнне фундацыі Ксяндзоў Піяраў лідскіх з дазволам дакупіць новыя пляцы": *"Са згоды усіх станаў, фундуш Ксяндзоў Піяраў у горадзе нашым Лідзе праз ураджонага Ігнацыя Сцыпіёна, падстолія ВКЛ, судовага Лідскага старасты, на пляцах земскіх, якімі ён аднаасобна валодае, а другім Шпорцікаўскім, ад ур. Юзафа Барымоўскага, суддзі лідскага, земскага саступленым, зацвярджаем. Таксама, з-за невялікіх памераў упамянёных пляцаў, дазваляем прыкупіць тым жа Ксяндзам Піярам прылеглы пляц для добрай пабудовы касцёла, кляштара і школ. Salvis oneribus, terragio, et jurisdictione civitatensibus"* [14]. Такім чынам піяры павялічылі сваю нерухомасць у Лідзе да 6 моргаў. Згодна з планам 1851 г. яны мелі 4 дзесяціны і 36 квадратных сажняў. Зараз гэта нерухомасць Хазановічаў, Каменецкіх, Каткоў, Сапатніцкіх, Зяльдовічаў, Папірмайстраў і саміх піяраў (вул. імя Сувальскага палка, дамы №№ 62-72.). У гэтым месцы, раней забудаваным беднымі дамамі гараджан і яўрэяў, праз нейкі час з'явіўся калегіюм, дзе піяры амаль што 70 гадоў сціпла, але эфектыўна працавалі на ніве асветы.

Пасля атрымання нерухомасці ў Лідзе, піяры з дапамогай свайго фундатара найперш пабудавалі невялікі драўляны касцёл. Гэты касцёл стаяў пры канцы пляца, там дзе зараз стаіць уласнасць Сапатніцкіх і Камянецкіх (дом № 66). Візітацыя 1802 г. пра той касцёл захавала наступную інфармацыю: *"Касцёл драўляны, дабраславёны, не высвечаны, святога Юзафа Каласантага, фундаваны ад Ігнацыя Сцыпіёна дэ Кампа, старасты лідскага ў 1758 г. Будова патрабуе направы, аднак можа стаяць пакуль не закончаны новы, ужо на палову вымураваны за кошт імператара Паўла I, які 15 траўня 1797 г. вырашыў даць 5 000 рублёў. Алтары тры: 1) Пан Езус укрыжаваны, намаляваны, 2) Найсвяцейшая Панна, 3) Юзаф Каласанты, абразы: Св. Антонія і Св. Кацярыны. Брацтвы на якіх прывязаны вечныя адпусты: 1) Сэрца Езуса і 2) Найсвяцейшай Панны Ласкавай"*.

Каля гэтага касцёла, ці дакладней, капліцы быў пабудаваны невялікі драўляны дом пад школу.

Мураваны двухпавярховы дом для калегіюма пачаў мураваць рэктар кс. Аляксандр Вольмер у 1778 г., аднак з-за браку сродкаў будова прасоўвалася павольна. У візітацыі 1802 г. пазначана: *"Кляштар мураваны з цэглы на два паверхі, няскончаны"*. Дом гэты неаднаразова перароблены знутры і звонку часткова захаваўся да нашага часу і з'яўляецца адзіным з касцёлам гмахам.

Таксама ў візітацыі 1802 г. запісана: *"Сад закладзены некалькі гадоў таму, у годзе 1798, згодна з планам, у ім вызначаны вулачкі (алеі), і ён засаджаны прышчэпленымі дрэвамі і агрэстам"*. На плане горада 1832 г. у нерухомасці піяраў пазначаны дзве выкапаныя сажалкі - большая і меншая і вялікі агарод - ад сучаснага пляца Віленчыка да пляца Длускага. Адна алея каля лугу і чатыры папярэчныя алеі дзялілі гэты сад на дзесяць кварталаў.

Не маем дакладнай інфармацыі - калі менавіта пакінулі піяры сваю першую нерухомасць на сцыпіёнаўскім пляцы. Верагодна, часткова яны месціліся там ажно да пераезду ў мураваны дом, які адбыўся ў 1793 г.

Сойм 1775 г. зацвердзіў усе фундушы ксяндзоў Scholarum Piarum літоўскіх і адначасова дазволіў *"прылеглыя вёскі прыкупіць за сумы не большыя за 60000 злотых"* [15]. Каля горада Ліды, з паўночна-ўсходняга боку знаходзіўся маёнтак Пастаўшчына з вёскай Раслякі, землі якога, цераз раку Лідзейку межавалі з нерухомасцю лідскіх піяраў. Пастаўшчына мела доўг Міхалу Эйсманту ў суме 15 000 зл. Пад канец XVII ст. гэтым маёнткам валодаў Міхал Гусоўскі, падкаморы

[14] Volum. Leg. VIII, 410.
[15] Volum. Leg. VIII, 411.

венданскі. Ён прадаў гэтую маёмасць Тамашу Юзафу Умястоўскаму, рэгенту земскаму лідскаму, продку сучаснай магнацкай лініі Умястоўскіх, якой належала ўся паўночна-ўсходняя частка сучаснага Лідскага павета з рэзідэнцыяй у Жамаславе. Гэтаму роду ў 1882 г. папа Леан XIII надаў графскі тытул. Лідскія піяры, карыстаючыся пастановай сойму, 6 красавіка 1778 г. за ўласныя грошы набылі Пастаўшчыну ў пана Умястоўскага за 26 000 злотых, прычым адразу выплацілі гатоўкай 11 000 злотых і прынялі на сябе былы доўг Міхала Эйсманта ў памеры 15 000 злотых. Каля ўласнасці піяраў маёнтка Пастаўшчына, знаходзілася таксама вёска Раслякі з падданымі.

Згодна з інвентаром 1775 г. у склад Пастаўшчыны ўваходзілі: фальварак за ракой Лідзейкай па левым баку дарогі на Дворышча, млын на рацэ Лідзейцы і вёска Раслякі (6 дымоў, сем'і Федаровічаў). Падданыя былі павінны хадзіць на паншчыну, гэта значыць на работу, "з чым двор загадае", мужчыны і жанчыны па тры дні з кожнай хаты, ад усходу да заходу сонца, па чарзе вартаваць двор і адбыць чатыры за год дарогі ў Вільню, ці куды яшчэ будзе трэба.

Апрача нерухомасці ў горадзе Лідзе і маёнткаў Лапацішак і Пастаўшчыны лідскія піяры мелі некалькі запісаных легатаў (тастамнікаў). Ян Кербядзь, шляхціц з ваколіцы Кербядзі сваім тастамантам ад 1762 г. надаваў піярам 7 000 злотых, пазычаных Нарбутам, дзедзічам маёнтка Крупа (сучаснае Крупава - *Л.Л.*) з умовай, што піяры тры разы ў год: на Грамніцы, на Св. Тройцу і на Св. Яна Хрысціцеля, удвух будуць прыязджаць у Крупаўскі філіяльны касцёл з імшой і навукай. 24 красавіка 1766 г. адвакат Гаўрылкевіч запісаў піярам 2 000 злотых за маёнткам Ляцк Пісараўскі, які быў часткай маёмасці Шчучын Сцыпёнаў дэ Кампа. У 1773 г. князь Аляксандр Сапега надаў нашым піярам 15 000 злотых, забяспечаных ягонай маёмасцю ў Дзярэчыне. 1 лістапада 1781 г. Тамаш і Бенедыкт Мігдалы, уласнікі фальварка Мігдалы з Забалацкай парафіі, ахвяравалі лідскім піярам 12 000 злотых, 1000 злотых з гэтай сумы гатоўкай, а астатняя сума забяспечвалася застаўным правам[16] маёнткам Несікоўшчына, потым гэта забеспячэнне было перанесена на Вялікую Перапечыцу Юзафа Нарбута, лідскага харунжага. 10 красавіка 1789 г. Ежы Адамовіч, суддзя лідскі земскі, праз тастамант адпісаў піярам на мураваны касцёл 20 000 злотых, у гэтай суме 14 000 злотых - пазыковая распіска князёў Радзівілаў, забяспечаная іх маёмасцю ў Жырмунах, а 6000 злотых - пазыковая распіска Станіслава Марцінкевіча забяспечаная Гарнастаішкамі. Таксама было вельмі шмат больш дробных тастамнікаў і невялікіх грошай, якія ахвяравалі пабожныя людзі. Згода з тастамантамі Стацэвіча і Мігдалаў, піяры павінны былі ўтрымоўваць уласным коштам па адным вучні. Пабудова мураваных кляштарнага жылога дома і касцёла, набыццё Пастаўшчыны паглынулі большасць грошай.

Лідская нерухомасць, два фальваркі, працэнты ад тастамантных сум і выпадковыя ахвяраванні былі тымі крыніцамі, з якіх лідскія піяры мелі вельмі сціплыя і ледзь дастатковыя сродкі на ўтрыманне калегіюма, школы і на асабістае існаванне. Былі гэта грозныя часы другога і трэцяга падзелаў Рэчы Паспалітай. А пасля падзелаў пачаўся яшчэ больш горшы час.

## III.

У выніку здрады князя Вюртэмбергскага[17], рускія войскі генерала Крачэтнікава амаль што без усялякага адпору занялі паўночна-ўсходнюю частку Віленскага ваяводства і 14 чэрвеня 1792 г. увайшлі ў Вільню. Там, 25 чэрвеня ў прысутнасці самога Крачэтнікава з мэтай прыцягнення народу была аб'яўлена "Вольная канфедэрацыя ВКЛ" - каб *"перамагчы чатырохгадовы сойм і адкінуць інтрыгу клубаў вольнасці, справядлівасці і парадку, бо гэта пагражае цэламу краю ..."*.

Высланы з Вільні авангард з мушкецёрскіх Нараўскага і Курскага палкоў пад камандай Дзянісава, 29 чэрвеня 1792 г. заняў Ліду, хутка сюды са сваім штабам прыбыў і генерал Крачэтнікаў, а праз некалькі гадзін з Суботнікаў падышлі галоўныя сілы расійскай арміі. Ліда і блізкія да яе ваколіцы былі заняты казакамі і мушкецёрамі Рэвельскага палка падпалкоўніка Эсена, якія неміласэрна рабавалі прыгарадныя вёскі, забіраючы ў іх жыхароў абсалютна ўсю жыўнасць. У Лідзе пад рускім кіраўніцтвам была арганізавана канфедэрацыя Лідскага павета, якая вылучыла камісараў, суды і г.д. Асабліва Лідская канфедэрацыя націскала на забеспячэнне рускай арміі і пераслед сваіх супрацоўнікаў. 18 студзеня 1793 г. суд "Прасветлай Канфедэрацыі" сваім выракам наклаў секвестр на двор лідскага старасты Юзафа Сцыпёна дэ Кампа, які стаяў на яго спадчынным пляцы ў Лідзе і перадаў гэты двор пад магазін (склад). 7 лютага 1793 г. Лідская канфедэрацыя *"бачыла патрэбы ў правіянце для рускага войска ў большай колькасці, чым маецца зараз у магазіне, які быў сабраны з усяго павета пасля выдання першых двух універсалаў. Астатні правіянт праз экзекуцыі жыхароў павета рускімі войскамі дастаўляцца будзе"*. На гэты раз пад "экзекуцыі" патрапілі: тракельская плябань, маёнткі Дворышча Шукевіча, Няцеч і Дзітрыкі Барымоўскага, голдаўская і няцецкая плябані, Верхдзеражня[18] Пянткоўская ў пацэсіі Юзафа Гаеўскага, Рудкевічы Камянецкага, Лелюшоўцы Бялінскага, Багданаўшчына Вільканца і Няпрахі Грымайлы.

[16] Застаўны пасэсар (лац. possesio) - уладальнік зямлі паводле права закладовага валодання (застаўны - закладны) - *заўвага Л.Л.*

[17] Людвік Вюртэмбергскі (1756 - 1817), першапачаткова паступіў на прускую вайсковую службу і дасягнуў чыну генерал-маёра. У 1784 годзе ажаніўся з Марыяй Чартарыйскай (дачкой князя Адама Казіміра Чартарыйскага) і быў прызначаны галоўнакамандуючым літоўскай арміяй, у 1790 годзе атрымаў чын генерал-лейтэнанта. У вайне супраць Расіі ў 1792 г. паводзіў сябе пасіўна, удаваў сябе хворым, адмовіўся ваяваць супраць расійскіх войскаў і пакінуў армію. У 1793 г. яго жонка падала на развод і сышла ў кляштар - *Л.Л.*

[18] Верхдзеражня - у Жалудоцкай парафіі - *Л.Л.*

У кожны маёнтак высылаліся па 1 унтэр-афіцэру з жаўнерамі. "Рада канфедэрацыі" кіравала тут да траўня 1794 г.

Пасля выбуху красавіцкага паўстання частка войскаў ВКЛ пад кіраўніцтвам генерал-маёра Хлявінскага сабралася ў ваколіцах Ліды. 4/15 чэрвеня 1794 г. камандзір рускай дывізіі генерал-маёр Кнорынг даносіў з Іўя князю Рапніну, што *"мае намер ісці на Дзевянішкі, каб не дапусціць злучэння Ясінскага з Хлявінскім, які знаходзіцца паміж Лідай і Мытом, тым самым загарадзіць Хлявінскаму дарогу на Вільню, а пасля гэтага, вярнуцца ў Ліду, каб тут перамагчы ўзбунтаваўшаеся войска"*. 10/21 чэрвеня генерал-маёр князь Цыцыянаў данёс генерал-маёру Туталміну, што згодна з атрыманай інфармацыяй у Лідзе зараз было *"да 2 000 польскага войска"*. 19/30 чэрвеня даносіў князю Рапніну, што *"кіраўнік польскіх войскаў генерал Вяльгорскі пайшоў з Веранова ў кірунку Вільні, пакінуўшы генерал-маёра Цыпіёна для набору рэкрутаў з Лідскага павета, згуртавання шляхты і яе ўзбраення"*[19]. Згодна з гэтай інфармацыяй генерал Кнорынг выслаў з Дзевянішак на Ліду, *"каб рассеяць тлумы генерал-маёра Цыпіёна"* аддзел пад камандаваннем падпалкоўніка Эсена, а менавіта: 120 егераў, адзін эскадрон драгунаў, адну гармату і некалькі дзесяткаў казакаў. Для паскарэння маршу, пасадзіў егераў на коней. Недалёка ад Ліды вышэйназваны падпалкоўнік атрымаў інфармацыю, што як быццам сабранае тут паспалітае рушэнне, даведаўшыся аб набліжэнні рускіх, адступіла да Жалудка[20]. Але Эсен, відочна, атрымаў несапраўдную інфармацыю, бо праз некалькі дзён, а менавіта 26 чэрвеня - 7 ліпеня 1794 г. Кнорыг пісаў генерал-аншэфу, графу Салтыкову: *"Учора прыбыў у Дворышча, і толькі войска паставіла абоз, як да 30 конных і столькі ж пешых паўстанцаў напала на нашы пікеты на Лідскай дарозе, і пачалася страляніна, як толькі выслалі для супакаення нападаючых казакаў, яны прымусілі іх адступіць, прычым гналі амаль што да самай Ліды, да 20 чалавек забілі і некалькіх узялі ў палон. Пасля гэтага іх эскадроны палка драгунаў і пяхоты, якія былі ў Лідзе пад кіраўніцтвам генарал-маёра Сцыпіёна, мы перамаглі, пагналі і расцерушылі ў спосаб, надзвычай для нас шчаслівы. Як толькі атрымаў весткі пра Беляка і Хлявінскага, якія, як мне данеслі, ідуць на яго, я адправіў адмысловага ганца да гаспадзіна генерал-маёра і кавалера князя Цыцыянава з данясеннем і пайшоў яму на дапамогу, а потым пайду на злучэнне з вашай эксэленцыяй праз Жырмуны, Веранова і Салечнікі, ці можа праз Гальшаны на Ашмяны"*[21].

20 снежня 1794 г. князь Мікалай Рапнін выдаў у Гародні ад імя Кацярыны II універсал, у якім паведаміў, што Княства Літоўскае дзеліцца на тры часткі, у каторых галоўнымі гарадамі будуць: Вільня, Гародня, Коўня. Паветы: Віленскі, Завілейскі, Ашмянскі, Браслаўскі, Лідскі і Троцкі *"як яны былі перад Соймам і Рэвалюцыяй 3 траўня 1791 г."*, меліся складаць Віленскую губерню. У паветах дазволена стварыць земскія і гарадскія юрысдыкцыі, а ў гарадах ратушы і магістраты, у якіх наказана чыніць суд і расправу *"імем і ўладай Яе Імператарскай Мосці"*.

У 1795 г. Лідай і паветам ужо кіраваў *"секунд-маёр расійскіх войск Карл Меер, начальнік Лідскага павета"*.

Кс. Вайшвіла трымаў у руках хронікі лідскіх піяраў пад назвай: "Кніга агульных здарэнняў горада, пачата ў 1793 г.". Згодна з ім, раздзел *"”Выпадкі 1794 г.” быў напісаны, але старонкі выдраны з кнігі адразу ад пачатку года, заставалася толькі некалькі слоў у змесце"*.

**IV.**

Да гонару піяраў, належыць сказаць, што ім ніколі не былі даспадобы кансерватыўныя нацыянальныя, рэлігійныя ці класавыя ідэалы. Аднак, не былі для іх роднымі і павевы вольналюбівай эпохі Вялікай Рэвалюцыі. Піяры заўжды ішлі наперад і, выхоўваючы моладзь, улічвалі дух часу, як грамадзяне, вызначаліся праўдзівым і глыбокім патрыятызмам. Канстытуцыя Трэцяга траўня, у значнай ступені, паўстала дзякуючы вучням вялікага піяра Станіслава Канарскага[22] і яго выхаваўчай працы.

Трымаю ў руках кнігу "Зборнік вершаў, напісаных з розных акалічнасцяў менавіта ад імя віленскага шляхецкага канвікту кс. школьных піяраў" [23] надрукаваную ў Вільні ў друкарні Яго Каралеўскай Мосці ў Рэчы Паспалітай у кс. школьных піяраў года 1779. Гэта зборнік паспалітых панегірыкаў, уласцівых для другой паловы XVIII ст. Паміж іншымі, ёсць тут і творы лідскіх піяраў - двух Выгоўскіх, Урублеўскага і іншых. Вось некалькі фрагментаў з тых вершаваных піярскіх одаў, прывітанняў і віншаванняў:

У падзячнай одзе "Да Крысціны Масальскай,

[19] Стараста лідскі Юзаф дэ Кампа Сцыпіён, генерал-маёр лідскага павета - *Л.Л.*

[20] А. Энгель. Архив Виленского Генерал-Губернаторства. 1869-1870. Т. 1. С. 803, 810, 982. Т. II. Р. 46, 176, 241, 248, 303, 315, 328, 380, 380-382, 401.

[21] Копію гэтага ліста на рускай мове знайшоў у зборы матэрыялаў да гісторыі вайны 1794 г. складзеным б. вайсковым суддзём у Вільні, генерал-маёрам Аляксандрам Жыркевічам. Гэты збор, як частка багатай бібліятэкі гарнізоннага афіцэрскага казіно ў Вільні, у 1915 г. быў эвакуяваны разам з казіно ў Віцебск.

[22] Станіслаў Канарскі (Stanislaw Konarski; сапраўднае імя Еранім Францішак Конарский, польск. Hieronim Franciszek Konarski. 30 верасень 1700 года - 3 жніўні 1773) - педагог і палітычны пісьменнік, паэт, драматург. У 1740 г. заснаваў у Варшаве Collegium Nobilium, які лічыцца папярэднікам Варшаўскага універсітэта. Правёў рэформу адукацыі ў піярскіх калегіумах - *Л.Л.*

[23] Ciapinski, J. 1779. De aedibus ill. Comitis Brzostowski Notarii M. D. L. Canon: Vilnen. R. 1769. - Zebranie rymow z roznych okolicznosci pisanych mianowicie jmieniem konwiktu szlacheckiego wilen. XX Scholarum Piarum. Wilno: w Typografii J. K. M. y Rzeczypospolitey u XX Scholarum Piarum. - *Л.Л.*

падчашыны ВКЛ з акалічнасці падараванага ў Вільні палаца кс. піярам на канвікт шляхецкі, 1759 г. (С. 136.) кс. Мацей Тукала апісвае сучасны стан Рэчы Паспалітай у пераносным сэнсе і, звяртаючыся, як быццам, да егіпецкіх пірамід, паведамляе:

*Ганарова сваіх задум пустэчу паказвае,*
*Прыгнечанне Краю, знясіленне панства,*
*Пакуты жыхароў, знішчэнне падданства...*

Кс. Міхал Аляхоўскі ў прывітанні кс. Ігнацыю Масальскаму, біскупу віленскаму, апавяшчае яму хвалу, бо ён:

*Любіць мужычкоў, чыя праца ў крывававым поце*
*Высокіх багацееў пальцы залоціць…* (с. 182)

Кс. Міхал Харкевіч у одзе "На ўгодкі нараджэння Найяснейшага Пана Станіслава Аўгуста, 1779 г. (С. 89) славіць ужо "людскасць" веку і цешыцца, што:

*Мужык, хто няволі цяжкія цягне путы,*
*Пачынае лічыць і сябе чалавекам,*
*Вучыць дзяцей сваіх словам раскутым,*
*Што век цяпер ёсць людскасць пазнаўшым векам...*

Нікому незнаёмы сціплы настаўнік у манаскай вопратцы стаяў за адзін крок ад "Дэкларацыі правоў чалавека і грамадзяніна".

У прывітанні "Яснавяльможнаму пану Тышкевічу, пісару ВКЛ" (С. 32.) кс. Феліцыян Выгоўскі, успамінаючы дзеда пані пісаравай Станіслава Панятоўскага, падскарбія літоўскага, успамінае пахвальна пра яго цноты і векапомныя дзеі:

*Пяро Вальтэра гаворыць і карціны Баерхава[24]!*

Публікуючы гэтыя панегірыкі піяры, як арганізацыя, тым самым падкрэслівалі сваю салідарнасць з кірункам думак аўтараў - асобных чальцоў ордэна. Што праўда, не было гэтага зашмат, і не выглядала гэта вельмі грозна, аднак дух арганізацыі ва ўсім гэтым адчуваўся. А кірунак думак тагачаснага патрыятычна і ліберальна думаючага таварыства піяраў ні для каго не быў сакрэтам. Расійскі ўрад, пасля акупацыі краю, па-свойму рупліва і неадступна апекаваўся піярамі. Кацярына ІІ у распараджэнні ад 8 снежня 1792 г., дадзеным генералу Крачэтнікаву з рознымі інструкцыямі, датычнымі акупаваных абшараў, наказвала зрабіць апісанні кляштарных піярскіх школ і загадала звярнуць на іх увагу з-за іх шкадлівага кірунку, які грунтаваўся на французскай мудрагелістасці і таму расхістваў падмуркі грамадства і ўрада.

У іншым распараджэнні ад 30 кастрычніка 1794 г., выдадзеным генерал-губернатару літоўскаму князю Рапніну, гэтая як быццам светлая і мудрая царыца-вальтэрыянка сцвярджала, што Віленская акадэмія і піярскія школы з'яўляюцца шалёнымі і бязбожнымі і таму для ўсяго роду чалавечага яны згубныя, згубна выхоўваюць ліцвінскую моладзь, і таму вучыла свайго генерал-губернатара, што гэтыя школы патрэбна ўважліва вывучыць і знішчыць зло ў самым зародку, усялякімі спосабамі[25].

Лідскі стараста Юзаф дэ Кампа Сцыпіён чынна выступаў супраць таргавічан і расійскіх войскаў, чынна бараніў ажно да апошніх дзён вольнасць і незалежнасць Рэчы Паспалітай і недатыкальнасць Канстытуцыі Трэцяга траўня, а падтрыманыя ім піяры - лідскія і шчучынскія, верна дапамагалі свайму пратэктару і таму выклікалі супраць сябе пераслед акупантаў. Рускае войска для сваіх мэтаў час ад часу забірала школу, ціснула піяраў рэквізіцыямі і нават адзін раз забрала піярскі касцёльчык пад вайсковую царкву. 1/12 красавіка 1795 г. Рапнін апавясціў усіх, што піяр Ваўжынец Адамовіч у казанні дазволіў сабе выказванні аб дзеяннях уладаў і рабіў палітычныя ацэнкі, за гэта яго пазбавілі месца ў калегіюме, пасадзілі ў турму і павінны былі судзіць па ўсёй строгасці закона. Адначасова быў арыштаваны і рэктар лідскай школы кс. Фларыян Крушэўскі, за тое, што ведаў, аб чым казаў яго падначалены, потым ён быў звольнены з-пад арышту. Не вядома, што сталася з Адамовічам. У далейшым сваім апавяшчэнні ад 11/22 ліпеня 1795 г. князь Рапнін загадаў піярам сабрацца ў Шчучыне і забараніў ім выезд адтуль без дазволу ўладаў[26].

**V.**

Не маю пэўных дадзеных, калі піяры цалкам пакінулі сваю першую сядзібу ў Лідзе - заезджую карчму старасты Сцыпіёна. Ведаю толькі, што традыцыя адбыцця пакарання "ў вежы" калегіюма піяраў, якая пачыналася з часоў знаходжання іх ў двары старасты, пратрывала да ўпадку Рэчы Паспалітай. У 1792 г. суд павятовай канфедэрацыі, па скарзе пана Караля Лясковіча, уладальніка Ваверкі, асудзіў за звыклы суседскі эксцэс пана Ігнацыя Кастравіцкага, генерал-ад'ютанта Яго Каралеўскай Мосці і кавалера ордэна Св. Станіслава, уладальніка Паперні, на некалькі тыдняў вежы. Пан Кастравіцкі для адбыцця кары прыбыў у Ліду і звярнуўся да гродскага намесніка, каб той вызначыў месца, дзе можна адбыць "вежу". Калі намеснік адказаў яму, што ў Лідзе няма такога адпаведнага месца, дык Кастравіцкі зрабіў так жа, як і іншыя прыгавораныя рабілі ў такіх выпадках - за уласныя грошы наняў пакой у кляштары лідскіх піяраў і там адбыў "вежу".

Вядома, што ў тыя даўнія часы найлепшым будынкам Ліды быў піярскі калегіюм, служыў ён месцам, дзе спыняліся розныя высакародныя прыезджыя. У 1797 г. цар Павел І рабіў агляд "навадалучанага да Расіі краю". Разам з ім аглядалі наш край вялікія князі Аляксандр і Канстанцін і вышэйшыя расійскія саноўнікі:

[24] Маецца на ўвазе мастак Ян Лювік Рэгеман Баерхаў (Jan Ludwik Regeman Boerhaw) - *Л.Л.*

[25] Сборник документов, касающихся административного устройства Северо-Западного края …Вильно, 1903. С. 7,29.

[26] Ibid. p. 270, 284.

[27] Грыгорый Грыгоравіч Кушаль (1754-1883) - адмірал, граф, фактычны камандуючы расійскім ваенным флотам ў эпоху Паўла І - *Л.Л.*

Аляксандр Безбародка, Фёдар Растапчын, Дзмітры Трашчынскі, Грыгорый Кушчалеў[27], Аркадзь Нялідаў, флігель-ад'ютанты: князь Галіцын, Кутузаў, Нелядзінскі, Пётр Абрэшкаў, Аляксей Аракчэеў і асобы світы. Пышны царскі поезд з Масквы праз Смаленск, Воршу і Менск 19 траўня прыбыў у Нясвіж, адкуль, пасля начлегу, рушыў на Слонім, Дзярэчын, Масты і Скідаль да Гародні, куды і прыбыў 14 траўня. Пасля кароткага адпачынку ў каралеўскім замку Павел з вялікімі князямі і Рапніным паехаў на мяжу Прусіі. Назаўтра, пасля наведвання мяжы, усе разам выехалі праз Каменку Тызенгаўза і пераначавалі ў Лідзе[28]. Пра той начлег у Лідзе апавядае ў сваіх успамінах кс. Вайшвіла: *"Павел I, агледзеўшы літоўскія правінцыі, 16 траўня 1797 г. прыбыў у Ліду. Начаваў разам з вялікімі князямі Аляксандрам і Канстанцінам у тутэйшым калегіюме і пакінуў пасля сабе добрую памяць - ахвяраваў на касцёл 5 000 рублёў. Займаў тры пакоі на другім паверсе. Сам адпачываў у тым, у якім дзверы насупраць вялікага калідора, якім уваходзяць знізу, каля яго пакоя, з правага боку ў кутнім пакоі, адпачываў вялікі князь Аляксандр, а з левага - вялікі князь Канстанцін. Удзячныя піяры зрабілі памятную дошку, якая была галоўнай асаблівасцю і аздобай гэтай пабудовы. Авальная тарча з дрэва была прымацавана на калідоры над дзвярамі пакоя, дзе адпачываў цар, на тарчы меўся надпіс залатымі літарамі:*

***"Paulo I***

***Clementissimo et Sapientissimo totius Rusiae Imperatori atque Parenti optimo. Quum iter agens una cum carissimis Filiis suis magnis ducibus Aleksandro et Constantino Grodna ad Collegium Lidense quietis causa idibus maji divertisset, illugue Imperatoriae Majestatis suae gratia ac singulari patrocinio prosequatus fuisset Scholae piae grati animi, debiti amoris, profundissimae que veneratioriis percune tonumentum sexto Kalendas Junii anno Dni MDCCXCVII, D. D. D."***

*Гэтая дошка згарэла пры пажары 1842 г.*

*Цар праз сваю ласкавасць і шчодрасць вырашыў даць грошы для заканчэння пабудовы мураванага касцёла і запытаў гаспадара[29]: ""Колькі на гэта трэба"? Той, парадзіўшыся з калегамі, і каб не прасіць болей, указаў суму ў 5 000 рублёў. Адразу найяснейшы пан уласнай рукой напісаў квіток да падскарбія лідскага".*

Гэты ж Вайшвіла апавядае пра другі царскі начлег у лідскіх піяраў: *"У часы пабудовы касцёла, пануючы цар Аляксандр I наведаўшы калегіюм выказаў нам сваю ласку. Як мне расказваў кс. Антон Паеўскі, які сам тады быў вучнем школы, адбылося гэта ў траўні 1802 г. Найяснейшы пан адпачываў у зале над сталовай, якая апрача іншых упрыгожванняў, была высыпана ружамі (у траўні?), а калідор - рознымі іншымі кветкамі. Будаўнік[30] не адважыўся прасіць аб дары на аднаўленне касцёла, а меў шанец атрымаць, калі б распавёў пра неабходнасць гэтага".*

Акрамя таго, ксёндз Вайшвіла, не даючы даты, коратка піша пра яшчэ аднаго госця піяраў: *"Кніга агульных здарэнняў горада, пачатая ў 1793 г. не змяшчала нічога, акрамя адной ведамасці, што аўстрыйскія эрцгерцагі ў свой прыезд з Вены ў Пецярбург на зваротным шляху бавілі час і балявалі ў тутэйшым калегіюме"* [31].

Гасцілі ў піяраў не толькі цары, але і прыезджыя павятовыя дыгнітарыі (саноўнікі,*рэд.*). У "Гісторыі..." запісана, што 3 лютага 1800 г.: *"Была склікана сесія, каб вырашыць, што рабіць з лекцыямі падчас сойміка, бо адзіная школа была занята панам падкаморым, і ці маюць вучні бываць на сесіях?".*

Такія гасціны мусілі ўносіць пэўную мітусню ў жыццё калегіюма і школы, аднак гэта здаралася не вельмі часта, і госці нават аплачваліся калегіюму.

Значна больш цяжкай была справа вайсковага раскватаравання. Руская армія не рабіла ніякіх паслабленняў у адносінах да будынкаў школьных і кляштарных, а гэтак жа і для памяшканняў, у якіх жылі вучні. Ужо падчас першага побыту маскалёў 18 траўня 1793 г. *"склікана паседжанне школьнай рады з прычыны раскватаравання рускага войска ў пакоях вучняў". "Бо жаўнеры ў вучнёўскіх пакоях робяць перашкоду і трэба каб прэфект паразмаўляў пра гэта з палкоўнікам".*

## VI.

Піярская школа з першапачатковай назвай "Школа кс. піяраў у Веранове" ўтрымлівалася з фундушу і дабрачынных ахвяраванняў. Ані скарб Рэчы Паспалітай, ані каса Яго Мосці караля ні ў якой ступені не прычыніліся да стварэння гэтай школы. Як уласнасць ордэна Scholarum Pijarum школа належала і кіравалася піярамі. Кіраваў калегіюмам рэктар (ці прэфект), а яго непасрэдным кіраўнікоў быў правінцыял ордэна, ён і прызначаў прэфекта на пасаду. Ад 1756 г. прэфектамі лідскай школы былі:

1760 - 1768 гг. кс. Аляксандр Вольмер.
1784 - 1790 гг. кс. Павел Выгоўскі.
1792 г. кс. Ваўжынец Адамовіч.
1793 г. кс. Адам Шалевіч.
1798 г. кс. Рыгор Янкевіч.
1803 г. кс. Ваўжынец Адамовіч, паўторна.
1804 г. кс. Ігнацы Плескачэўскі.

[28] H. Moscicki, Dzieje Porozbiorowe Litwy i Rusi. I., p. 416.

[29] Кс. Паўла Выгоўскага, рэктара.

[30] Кс. Себасцян Дамброўскі, рэктар.

[31] У 1798 г. ў Пецярбург прыбылі браты імператрыцы Марыі Фёдараўна (жонкі імператара Паўла) Фердынанд і Аляксандр (яны служылі ў аўстрыйскай арміі). Зацікаўленая ў саюзніку Аўстрыя прапаноўвала заключыць саюз супраць Напалеона, а для ўмацавання саюза заключыць шлюб паміж Аляксандрай Паўлаўнай (дачка імператара Паўла) і эрцгерцагам Іосіфам, братам імператара Франца. Эрцгерцаг асабіста прыехаў у Расію, каб пазнаёміцца з нявестай. Сватаўство прайшло паспяхова, 2 лютага 1799 г. у Пецярбургу адбыліся заручыны і баль - *Л.Л.*

1805 г. кс. Якуб Захарэвіч.

1808 - 1811 гг. кс. Антон Юхневіч, першым быў прымушаны прыняць тытул наглядчыка школы.

1811 - 1822 гг. кс. Ігнацы Пазалевіч.

1824 г. кс. Дэмэтры Тамашэвіч.

1833 г. кс. Фердынанд Шымборскі, рэктар і наглядчык.

Усе навукова-выхаваўчыя справы разглядала школьная рада, якая складалася з настаўнікаў і ўзначальвалася рэктарам. Выпадкова была ўратавана ад знішчэння ў часе вайны і захавалася ў архіве гарадской школы арыгінальная кніга рашэнняў рады за 1788-1816 гг. з загалоўкам "Гісторыя паседжанняў".

6 чэрвеня 1785 г. на паседжанні школьнай рады "згодна з толькі што атрыманым статутам Найяснейшай Адукацыйнай камісіі аддадзены другі асобнік гэтага статута[32], і друкаваная рэзалюцыя Адукацыйнай камісіі з увагай на элементарную граматыку".

Умовы існавання школы пасля падзелаў Рэчы Паспалітай былі вельмі цяжкімі.

14 кастрычніка 1799 г. сустракаем такі запіс: *"Пасля заняцця школы пад царкву для палка Эсена 2-га, лекцыі з вялікім перапынкам пачалі даваць, прэфект запытаў, ці не лепей было адмяніць лекцыі на палову тыдня? Аднагалосна з гэтым пагадзіліся, лічачы гэта эканоміяй часу"*. Ксёндз Вайшвіла ў сваіх запісках дадае да гэтай інфармацыі наступнае: *"Побыт тут нашага гаспадара (кс. Філіпа Неруша Банарскага) скараціла наступная акалічнасць: пры канцы трохгоддзя яго прац і работ для ордэна, праваслаўны вайсковы капелан адправіў набажэнства ў піярскім касцёле, не пытаючыся аб дазволе, а рэктар быў абвінавачаны біскупам у тым, што гэта ён дапусціў, і таму зняты з пасады"*.

22 кастрычніка 1803 г. *"на агульным сходзе абмяркоўвалася, як зрабіць так, каб дом, прызначаны для летняй адукацыі і гвалтоўна забраны гарадской камандай, быў вернуты. Ухвалілі: падаць просьбу да гараднічага Ліды аб падпаручніку Мерным, які супраць указаў манарха аб каталіцкім духавенстве, якія вызвалялі ад пастояў усе памяшканні ордэнаў і асабліва памяшканні, прызначаныя для адукацыі, 21 дня прыйшоў з жаўнерамі і дзесятнікамі і гвалтоўным чынам школьны дом забраў, замкі пазбіваў, кафедры і лаўкі з класаў павыкідваў"*. 26 таго ж кастрычніка *"кс. прэфект сабраў сход, каб абмеркаваць адбор школы вайсковай камандай"*. *"Школьная рада неаднаразова звярталася да васпана выканаўца абавязкаў гараднічага, камісара лідскага, Ельца, але не дачакаўшыся ягонага выраку па справе аб заняцці школьнага дома, пастанавіла: даслаць рапарт у Імператарскі Віленскі ўніверсітэт"*. Але не дапамог і рапарт ва ўніверсітэт, бо візітатар 22/24 траўня 1804 г. эзопавым стылем запісаў у кнізе візітацый: *"Забраны пад палкавую капліцу школьны дом, а таксама робяцца перашкоды і забрана бюро за віну пошуку дапамогі ва ўніверсітэце"* (так!).

Мясцовыя ўлады шчыра змагаліся з піярскай школай, як з "крыніцай зла". 15 красавіка 1806 г. *"была сабрана сесія каб абмеркаваць свае паводзіны з васпанам Каралінам, гараднічым, ва ўмовах гвалтоўнага, супраць указу Імператара, прымусу распусціць на час вучняў і каб яны пакінулі свае пакоі"*. Ухвалілі: як хутчэй даслаць аб гэтым здарэнні рапарт ў *Галоўную Школу* (Віленскі універсітэт - *Л.Л.*). Універсітэт дапамог не хутка, бо 25 траўня 1810 г. (праз чатыры гады!) візітатар пісаў: *"Дзякуючы дапамозе Ўніверсітэта, школа вызвалена ад павіннасці пастою ў кляштары і школе"*.

Візітацыя 4 чэрвеня 1792 г. пра школьны будынак занатавала: *"Школьныя залы дастаткова зручныя"*, візітацыя 24 сакавіка 1808 г. сцвярджала, што *"асобнага будынка для школы няма* (NB - падчас візітацыі быў заняты войскамі), *частка класаў у кляштары, частка ў хаце-сталоўцы, частка ў пакоях настаўнікаў"*, візітацыя ад 25 траўня 1810 г. выразна адзначае: *"Школьны будынак цалкам зруйнаваны, а заняткі праходзяць у памяшканнях настаўнікаў"*. Дырэктар гарадзенскай гімназіі Сазановіч, візітуючы лідскую школу 21 кастрычніка 1833 г. таксама заўважыў: *"Паміж вучнямі, па магчымасці, падтрымліваецца дысцыпліна ў класах, якія з-за браку месца знаходзяцца ў сталовай і кельях манахаў-піяраў"*. Наогул, школьны будынак, які быў зруйнаваны пастоем войска, ніколі ўжо не быў адбудаваны.

Пасля пераносу ў Ліду школа доўгі час мела два двухгадовыя класы, ці два аддзелы. Аднак ніколі аддзелы класамі не называліся, і лічылася, што школа чатырохкласная. У 1796 г. да піярскай школы далучана Лідская парафіяльная школа. У візіце 1803 г. пазначана, што парафіяльная школа ўтрымліваецца стараннямі кс. каноніка Вінцэнта Нарбута, пробашча лідскага і што *"дзеці гэтай школы маюць асобнага настаўніка, ходзяць разам у тутэйшую школу і ў першым класе сярод пачаткоўцаў месцяцца"*. Візітатар 22/24 траўня 1804 г. запісаў: *"1-шы клас двухгадовы, вучняў 37, у двух вышэйшых класах знайшоў 24 вучня, класы гэтыя таксама двухгадовыя"*. У запісах "Гісторыі ..." ад 24 чэрвеня 1808 г. запісаны вучні з класа 1-га па 2-гі, з 2-га па 3-ці, з 3-на па 4-ты і з 4-га па 5-ты. Візітацыя 4 траўня 1812 г. паказвае наяўнасць пачатковага класа і 1, 2, 3 класаў, візітацыя 9 траўня 1816 г. - 1, 2, 3, 4 класаў, у візітацыі 9 чэрвеня 1818 г. адзначала: *"У школе лідскай у гэтым годзе ёсць 3-ы класы, з якіх апошні ёсць двухгадовы і называецца паспалітым класам 4-тым"*. Візітацыі 1822 і 1826 гг. знайшлі тут чатыры класы.

Пасля таго, як адукацыйныя справы перайшлі пад кантроль Адукацыйнай камісіі, лідская школа страціла сваю незалежнасць. Але, наогул, піяры не жадалі згаджацца з залежнасцю ад свецкіх уладаў, асабліва, калі тая ўлада стала расійскай. Таму яны ўсялякімі спосабамі ўхіляліся ад розных абавязкаў, якія на іх накладалі гэтыя ўлады. У 1800 г. у выніку прапановы правінцыяла піяраў, Літоўская Адукацыйная ка-

[32] "Ustawy Komisji Narodowey dla stanu akademickiego y na szkoly w kraiach Rzecyposрolitеu przepisane".



340. Lida, kościół Pijarów. Pomiar T. Tyszeckiego, 1842. Elewacja pn.

339. Lida, kościół i klasztor Pijarów. Pomiar T. Tyszeckiego, 1842. Rzut założenia.

місія дазволіла прыпыніць працу лідскай школы на тры гады, каб даць магчымасць піярам падрыхтаваць для школы кваліфікаваных настаўнікаў, і ў гэты час сваіх візітатараў з праверкамі не дасылала. Аднак піяры ў гэтыя тры гады з-за сваёй руплівасці і вернасці школьнай справе вучылі дзяцей незалежна ад выраку Адукацыйнай камісіі.

Не маю інфармацыі аб праграмах лідскай школы да часоў пераходу яе пад кіраўніцтва Адукацыйнай камісіі. Адзіна, з нататкаў кс. Вайшвілы ведаю, што ў 1771 г. разам з іншымі прадметамі ў школе дадалі маральную навуку, а ў 1772 г. - арыфметыку і геаметрыю. Аляксандр І, дазваляючы існаванне Віленскага ўніверсітэта, сваім рэскрыптам ад 4 красавіка 1803 г. падпарадкаваў універсітэту ўсе публічныя і прыватныя школы, а таксама пансіёны, якія знаходзіліся ў Вільні і іншых месцах. Новы імянны ўказ ад 20 жніўня 1804 г. датычыў чатырохкласных павятовых школ. Згодна з гэтым указам, у праграму 1-га класа ўваходзілі: граматыка лацінска-польская з перакладамі ўрыўкаў класікаў, арыфметыка, каліграфія, асновы геаграфіі і маральная навука. У 2-м класе вывучаліся лацінская мова і літаратура, матэматыка, фізіка, прырода, арыфметыка і асновы геаметрыі, маральная навука, гісторыя і геаграфія. У 3-м класе вывучалася лацінская мова і літаратура, геаметрыя і асновы алгебры, фізіка, прырода, маральная навука, правы, гісторыя і геаграфія. У 4-м класе вывучалася лацінская мова, матэматыка, фізіка, прырода, правы, асновы палі-тычнай эканоміі і логіка. Штат школы складаўся з: наглядчыка (кіраўніка школы) - 1, старшых настаўнікаў - 4, малодшых настаўнікаў - 3. На ўтрыманне кожнай павятовай школы з даходаў паезуіцкай маёмасці асігноўвалася штогод 2820 рублёў. Указ гэты вызначаў, што ў Літоўскіх губернях - Віленскай і Гарадзенскай - школы, якія ўтрымліваліся манаскімі ордэнамі, кіраваліся статутам *"былой Адукацыйнай камісіі Рэчы Паспалітай"*, і што школы гэтыя знаходзіліся ў падпарадкаванні ўніверсітэта. Асобнай клаўзулай указ абмяжоўваў правы манаскіх школ на атрыманне сродкаў з даходаў паезуіцкай маёмасці і паведамляў, што *"у Гарадзенскай губерні*[33] *сем школ павінны ўтрымліваць ордэны"* і *"ў тых школах адукацыйныя праграмы павінны быць прыстасаванымі да праграм чатырохкласных павятовых школ"*. У лік гэтых сямі школ уваходзілі школы ў Лідзе і Шчучыне. У 1808 г. універсітэт паставіў лідскую школу пад непасрэдны нагляд гарадзенскай гімназіі. Тады школа атрымала назву "Павятовая лідская школа кс. піяраў".

Мовай школы ажно да яе закрыцця была польская мова. Статут Віленскага ўніверсітэта ад 18 траўня 1803 г. выразна ўводзіў рускую мову ў праграму лекцый, але піяры нейкі час не прымалі гэтай навацыі: 12 лістапада 1803 г. кс. правінцыял Юзаф Астроўскі зацвердзіў штат настаўнікаў Лідскай школы, але ці выпадкова, ці адмыслова, выкладчыка рускай мовы

[33] Да 1842 г. Ліда належала да Гарадзенскай губерні - *Л.Л.*

сярод настаўнікаў не было. Відочна, нехта звярнуў на гэта ўвагу, і 6 снежня 1803 г. на школьнай радзе разглядалі пытанне: "Справа аб неабходнасці мэтра рускай мовы і выраку, каб кс. Санкоўскі вучыў гэтай мове". Візітацыя 1804 г. сцвярджала, што *"мовы французская і руская вывучаюцца"*, аднак поспехі вучняў у рускай мове былі слабыя ці рэдкія, бо ўніверсітэт пажадаў, каб гэтая мова *"давалася, як нацыянальная"*.

17 красавіка 1808 г. школьная рада *"не знайшла падручнікаў і настаўнікаў у гэтай мове і вырашана адкласці гэты пункт на наступны навучальны год"*. Але гэты наступны год прыйшоў не хутка: 25 траўня 1810 г. правінцыял у візітацыі адзначыў: *"Не выкладаецца абавязковая ў павятовых школах руская мова, але толькі французская на пачатковым узроўні"*. Потым на гэта звярнуў увагу дырэктар гарадзенскай гімназіі і ўказаў на гэты факт ў лісце да кіраўніцтва школы, загадаўшы выкладаць гэтую мову. 12 верасня 1811 г. школьная рада мусіла адказаць на загады і вырашыла, што рускую мову будзе выкладаць кс. прафесар Дыянізі Фрайсамберг, які і выкладаў гэты прадмет да 1820 г. Спачатку давалі рускую мову паўгадзіны штодзённа, але ад 3 лютага 1814 г. пачалі, відочна, пад ціскам, выкладаць рускую мову па гадзіне на тыдзень. 8 кастрычніка таго ж года была вызначана, што руская мова будзе выкладацца па панядзелках, серадах і пятніцах пасля "школьнай абедні". У 1820 г. рускую мову выкладаў кс. Тадэвуш Унянтоўскі *"у двух аддзелах: пачатковым і дасканалым"*, пры чым гэтыя лекцыі *"ўключалі навуку пачатковага чытання, скланенне слоў, красамоўства і правапіс"*. У 1822 г. рускую мову выкладаў ужо кс. Дэмэтры Тамашэвіч, у 1824 г. - кс. Алексы Тубароўскі, а ў 1829 г. - кс. Піюс Ясенскі.

Не маю поўнага спісу настаўнікаў школы за ўвесь час яе існавання. Прыведзены ніжэй спіс зрабіў на падставе "Гісторыі..." і кароткіх запісаў у візітацыях школы. Зразумела, што спіс гэты не можа быць поўным.

З боку гледжання падзелу настаўнікаў, школа складалася з наступных трох частак: 1) пачатковыя класы і парафіяльная школа, 2) два першыя малодшыя класы, 3) два старэйшыя класы.

Пачатковы клас, які часам называўся ўступным, і парафіяльная школа мелі аднаго настаўніка, я знайшоў: у 1824 г. гэта быў клірык Андрэй Слявінскі і ў 1828 г. - Рамуальд Панасевіч, раней ён сам быў вучнем павятовай школы і яе дамашнім наглядчыкам.

У 1-м класе выкладалі: у 1784-1785 гг. кс. Ваўжынец Адамовіч, у 1787 г. кс. Каэтан Дзержаноўскі, у 1788 г. кс. Антоні Юхневіч, у 1789 г. кс. Рамуальд Арашкоўскі, 1792-1793 гг. кс. Піюс Янкевіч, у 1798 г. кс. Людвік Сцыпіён, у 1800 г. кс. Францішак Стукевіч і ў 1803-1804 гг. кс. Вінцэнт Кавалеўскі.

У 2-гім класе выкладалі: у 1784 г. кс. Юзаф Статкевіч, у 1785-1787 гг. кс. Караль Харват, у 1788 г. кс. Казімір Таліцкі, у 1793 г. кс. Казімір Янцэвіч, у 1798-1803 гг. кс. Андрэй Канюшэўскі, у 1803-1804 гг. кс. Казімір Заткевіч і ў 1805 г. кс. Францішак Каля-сінскі.

У 1806 г. у 1-м і 2-м класах выкладаў настаўнік кс. Станіслаў Заверанскі, аднак у 1807 г. 1-шы клас быў аддадзены выключна кс. Ежы Мігдале, а 2-гі клас - кс. Адаму Юшкевічу. Аднак у 1808 г. у абодвух класах выкладаў адзін кс. Антоні Данілевіч, пасля яго ў 1816 г. Дзіянісі Фрасамберг, у 1818-1820 гг. кс. Тадэвуш Унянтоўскі, у 1825 г. клірык Мацей Рапніцкі.

Праца настаўніка ў двух старшых класах была падзелена па прадметах. У 1793 і 1798 гг. у "Гісторыі ..." успамінаецца кс. Казімір Жукоўскі з тытулам прафесара (гэтак называўся выкладчык-прадметнік, звычайна з універсітэцкай адукацыяй -*Л.Л.*), які выкладаў у 3-м класе. Вядома, што некаторыя прафесары старэйшых класаў адначасова выкладалі і ў малодшых. Выклікае павагу ўсебаковая падрыхтоўка і веды прафесараў. Пастараюся пералічыць вядомых мне прафесараў старэйшых класаў з пералікам выкладаных імі прадметаў:

Кс. Павел Выхоўскі, школьны прэфект, у 1785-1789 гг. выкладаў красамоўства.

Кс. Юзаф Статкевіч, у 1785 г. выкладаў геаметрыю.

Кс. Леапольд Сцыпіён, у 1792-1798 гг. выкладаў матэматыку і фізіку.

Кс. Ваўжынец Адамовіч, школьны прэфект, у 1792-1803 г. - красамоўства і права.

Кс. Антоні Канюшэўскі, у 1800 г. выкладаў матэматыку і фізіку.

Кс. Андрэй Канюшэўскі (можа ў 1800 г. памылкова быў запісаны як Антоні?), у 1803-1804 гг. геаметрыю і фізіку.

Кс. Ігнацы Плескачэўскі, у 1803-1804 гг. выкладаў красамоўства.

Кс. Казімір Заткевіч, у 1804-1806 г. выкладаў фізіку, у 1810 г. - граматыку.

Кс. Ігнацы Пазялевіч, шматгадовы наглядчык школы, у 1805 г. выкладаў матэматыку (арыфметыку і геаметрыю) і фізіку, у 1820 г. - натуральную гісторыю, у 1822 г., акрамя гэтага - яшчэ і геаграфію.

Кс. Антон Вільнярскі, у 1805 г. выкладаў красамоўства.

Кс. Яцак Руміноўскі, будучы правінцыял, у 1808 г. - красамоўства і гісторыю.

Кс. Антоні Данілевіч, у 1808 г. выкладаў навуку маральнасці, у 1810 г. арыфметыку, геаграфію і навуку маральнасці.

Кс. Феліцыян Калюсоўскі, у 1810 г. выкладаў навуку маральнасці, акрамя таго арыфметыку і геаграфію у першых двух класах, у 1818 г. - французскую мову і літаратуру.

Кс. Дэмэтры Тамашэвіч, у 1810 г. выкладаў граматыку, у 1822 г. - граматыку, геаграфію, арыфметыку, навуку маральнасці, рускую мову, у 1824 г. - хрысціянскую навуку, геаграфію, граматыку, польскую, лацінскую і французскаю мовы.

Кс. Павел Вансоўскі, у 1810 г. - красамоўства.

Клірык Юзаф Каласанты Кабылянскі, у 1814 г. выкладаў красамоўства і права, у 1816 г. красамоўства, права, паэзію, гісторыю, французскую мову. У 1825-1826 гг. у старэйшых класах - рыторыку, лаціну, агульную гісторыю.

Кс. Юзаф Каласанты Гаўлоўскі, у 1811 г. -

красамоўства.

Кс. Дзіянісі Фрасамберг, у 1811 г. выкладаў граматыку і лаціну. У 1814 г. - пачаткі граматыкі, арыфметыку, гісторыю, геаграфію, маральную навуку, рэлігію, рускую мову. У 1816 г. - настаўнік двух ніжніх класаў, навукі хрысціянскай, навукі маральнай, граматыкі, геаграфіі, арыфметыкі, рускай мовы ў вышэйшых класах.

Кс. Францішак Калясінскі, у 1818 г. выкладаў літаратуру, права і гісторыю.

Клірык Тадэвуш Унянтоўскі, у 1820 г. выкладаў рускую мову, граматыку, маральную навуку, лаціну, гісторыю і красамоўства.

Кс. Дамінік Бенявіч, у 1821 г. выкладаў польскалацінскую граматыку, у 1822 г. - красамоўства, гісторыю, права і нямецкую мову.

Кс. Алекса Тубароўскі, у 1824 г. выкладаў матэматыку і рускую мову.

Кс. Каласанты Адамовіч, у 1825-1826 гг. выкладаў геаметрыю, алгебру, натуральную гісторыю і фізіку ў вышэйшых класах.

Кс. Калансанты Багуцкі, у 1826 г. выкладаў арыфметыку, геаметрыю і натуральную гісторыю ў 1-м і 2-гім класах.

Клірык Мацей Рапнініскі, у 1825-1826 гг. выкладаў рэлігію, польскую і лацінскую мовы ў вышэйшых класах.

Кс. Фелікс Юшкевіч, у 1828-1829 гг. выкладаў геаграфію ў двух ніжніх класах, арыфметыку і геаметрыю ў вышэйшых класах.

Клірык Караль Ліпінскі, у 1828-1829 гг. выкладаў рэлігію ў 1-м і 2-гім класах і французскую мову.

Кс. Юстын Янушкевіч, у 1829 г. выкладаў арыфметыку і геаметрыю.

Кс. Піюс Ясінскі, у 1829 г. выкладаў рускую мову і звычаі.

У малодшых класах па некаторых прадметах былі яшчэ і практычныя заняткі. Пад час візітацыі 6 чэрвеня 1785 г. прафесару геаметрыі ўказана, *"каб вучыў геаметрыі на практыцы, на полі, разам з рысаваннем картаў"*. Школьная рада 2 траўня 1791 г. вызначыла час землямернай практыкі. У "Гісторыі..." 25 лістапада 1797 г. запісана: *"Каморнік, прызначаны Літоўскім урадам вымяраць горад Ліду і зрабіць план, прасіў аб дапамозе студэнтаў. Сход настаўнікаў, зыходзячы з вялікай практычнай карысці для вучняў, якія вывучаюць геаметрыю, дазволіў, каб удасканаліцца ў гэтай навуцы. А таксама, каб і настаўнікі хадзілі на тую практыку, аднак без занядбання школьных і кляштарных абавязкаў"*.

У 1800 г. Міхал Богуш, генеральны візітатар літоўскіх школ, склаў пахвалу кс. Андрэю Канюшэўскаму, прафесару 2-га класа, *"які злучаючы прыемнасць з практыкай, патрапіў зацікавіць сваіх вучняў батанікай, прывучаючы іх у часы адпачынку да збірання на палях і лугах тутэйшай ваколіцы розных зёлак, класіфікавання іх і складання кожным вучнем гербарыяў. Паказаныя вучнямі візітатару гербарыі, ён ўсе праглядзеў, запытваў іх назвы як па-грэцку, так і па-польску, і адказамі вучняў быў задаволены"*.

У "Гісторыі ..." 3 лютага 1800 г. знаходзіцца цікавы запіс аб уводнай лекцыі з навукі права. У тыя часы, згодна з даўнім звычаем, у Лідзе сабраўся грамнічны павятовы соймік - не той, праўда, які бываў у часы да падзелу Рэчы Паспалітай, калі ў Лідзе збіраўся тлум шарачковай, малазямельнай, узброенай шаблямі, а часам і рушніцамі (мушкетамі -*Л.Л.*) шляхты. Тлум падзяляўся на "партыі", хваляваўся і шумеў пад гродскай канцылярыяй[34]. Новыя ўлады ўжо прыструнілі шляхту і падзялілі яе на дзве катэгорыі - тых, хто мае падданых і тых, хто мае толькі зямлю без падданых. Да ўдзелу ў зборах, судах і падобных кіраўнічых органах дапусцілі толькі першую катэгорыю. Школьная рада дазволіла цікаўным вучням прысутнічаць на першай сесіі таго сойміка, але толькі разам з настаўнікам і прэфектам. Таму можна дапусціць, што такія ўводныя лекцыі права былі звычайнымі ў школьным жыцці і паходзілі з часоў Рэчы Паспалітай.

У школе звярталася ўвага і на фізічнае выхаванне вучняў. Візітацыя 13 ліпеня 1789 г. занатавала: *"Найсвяцейшая камісія вырашыла муштраваць вучняў і вучыць іх жаўнерскім прыёмам як толькі дазволіць іх узрост"*, а таксама: *"Звычайныя гульні падчас адпачынку - мяч і бег навыперадкі"*.

У школе праводзіліся метэаралагічныя назіранні. 22-24 траўня 1804 г. візітатар *"агледзеў метэаралагічную абсерваторыю"*. Візітацыя 1808 г. адзначае, што *"ў кнізе метэаралагічных назіранняў маюцца значныя перапынкі, бо два разы праходзіла войска, і вучняў распускалі"*.

Школа мела бібліятэку ў 800 тамоў.

Што да колькасці вучняў, дык акты візітацый даюць наступныя лічбы:

14 траўня 1784 г., 75 вучняў з тлумачэннем, што ўзімку было болей.

6 чэрвеня 1785 г., 60 вучняў, зноў з тлумачэннем, што ўзімку было значна болей.

10 траўня 1787 г., 82 вучні.

13 ліпеня 1789 г., 50 вучняў.

4 чэрвеня 1792 г., 52 вучні.

24 чэрвеня 1798 г., да 50 вучняў.

22 траўня 1804 г., 24 вучні, 1-ы клас - 37, 2-гі і 3-ці - 24.

10 ліпеня 1806 г., 37 вучняў.

24 сакавіка 1808 г., 44 вучні.

11 ліпеня 1811 г., 40 вучняў.

4 траўня 1812 г., 42 вучні.

9 траўня 1816 г., 47 вучняў.

9 чэрвеня 1818 г., 36 вучняў.

16 чэрвеня 1822 г., 24 вучні, але з-за расквартаравання ў Лідзе войскаў знайшлося толькі 13.

Узгадвалася вышэй аб двух фундушах, запісаных лідскім піярам - Войцаха Стацевіча і таксама Та-

[34] На сесію 9 лютага 1790 г. сабраліся 252 асобы, з іх 90 пісьменных (35,7 %) і 162 (64,3 %) тых, хто падпісваўся крыжыкамі.

маша і Бенедыкта Мігдалаў. Згодна з гэтымі фундушамі, піяры былі павінны бясплатна ўтрымоўваць і вучыць двух вучняў - сваякоў фундатараў ці хоць бы з такім жа прозвішчам як у фундатараў. Візітатары заўжды звярталі ўвагу на тое, ці выконваюць піяры гэтыя ўмовы. У візітатараў знаходзім занатаваныя імі прозвішча фундушовых вучняў:

Пётр Мігдала, 1788-1792.

Ігнацы Пранеўскі, 1789.

Юзаф Стацевіч, 1792.

Клеменс Стацевіч, 1792.

Караль Вільбік (па выраку ўправы), 1798 г.

Казімір Шалевіч (па выраку ўправы), 1798-1803 гг.

Ежы Мігдала, 1798-1807 гг. (ажно дзевяць гадоў?)

Аляксандр Вербуш, 1808 г.

Фелікс Стацевіч, 1808-1811 гг.

Караль Арахоўскі, 1811 г.

Вінцэнт Мігдала, 1818-1820 гг. (пайшоў ва ўланы).

Марцін Стацевіч, 1818-1820 гг.

Аляксандр Стацевіч, 1822 г.

Ян Місевіч, 1822 г.

Генрык Буржынскі, 1825 г.

Рамуальд Стацевіч, 1828 г.

Ян Мігдала, 1828 г.

Аляксандр Стацевіч, 1833 г.

Ігнацы Цярпіцкі, 1833 г.

Некаторыя з вучняў школы ў часы перад падзеламі Рэчы Паспалітай вызначыліся высокім узроўнем маральнасці ці выбітнымі поспехамі ў навуках і таму былі ўзнагароджаны медалём "Deligentiae", які кароль Станіслаў Панятоўскі зацвердзіў у 1785 г. Не магу ўстрымацца, каб не ўспомніць імёнаў тых, хто павінен быў быць прыкладам для наступных пакаленняў вучнёўскай моладзі. Узнагароджаны былі:

У 1787 г. Фелікс Багатка, Юзаф Лісоўскі, Антоні Лісоўскі.

У 1788 г. Ян Дымітровіч, Андрэй Канюшэўскі.

У 1789 г. Зыгмунт Кунцэвіч.

У 1791 г. Міхал Бародзіч.

У 1792 г. Мацей Гарасімовіч, Міхал Канюшэўскі, Юзаф Калясінскі.




***Медаль "Deligentiae" 1785 года***

У 1793 г. Леанард Трацяк, Азары Вайчынскі.

З усіх візітацый лідскай школы асабліва вызначым дзве.

*"6 чэрвеня 1817 г., ранютка, неспадзявана, пад час праезду ў Вільню і Пецярбург прыбыў у Ліду яго светласць князь Адам Чартарыскі, тагачасны куратар Віленскага ўніверсітэта і вучэбнай акругі. Ён адразу прыйшоў у тутэйшую школу і сам праверыў веды вучняў. Праверкай застаўся задаволены і выказаў падзяку рэктару разам з усімі настаўнікамі за адносіны вучнёўскай моладзі да навукі. Загадаў свайму сакратару запісаць ў журнале візітацый, але каб было хутчэй, запісаў уласнаручна. Перапісаў той запіс дакладна: "Аддаю павагу заслужанай руплівасці і пільнасці настаўнікаў лідскай школы і яе кіраўніку - высакароднаму і узорнаму ягамосці рэктару і сведчу сваю найвялікшую падзяку. Для яшчэ больш дасканалай працы гэтай школы, звяртаю ўвагу настаўнікаў на два важныя ў навучанні моманты: зразумеласць у тлумачэннях, што значыць чыстае вымаўленне слоў і цэлых сказаў з дакладнай інтанацыяй: без маркотнай аднастайнасці, але і без залішняй афектацыі. Вучыць так, каб вучні не запаміналі лекцыю павярхоўна, а грунтоўна даходзілі да галоўных высноў вывучанай тэмы. Трэба, каб моладзь не зубрыла лекцыі напамяць, але каб кожная навука выкладалася ясна і стасоўна да разумення, даваліся запамінальныя прыклады з жыцця і нарэшце, трэба імкнуцца да таго, каб кожнае слова з лекцыі вучні маглі самі растлумачыць. Пісана ў Лідзе 6/18 чэрвеня 1817 г. А. Чартырыскі, куратар". Гэты пратакол не змяшчае нічога асаблівага, але ж тое, што ў і Лідзе, князь паўтарыў у віленскай гімназіі, прыводзячы лідскую школу ў якасці узору. Ёсць гэта найвялікшая пахвала і гонар, аздоба і вянец дзейнасці школы"* [35].

Пры канцы красавіка 1827 г. школу наведаў тагачасны рэктар Віленскага ўніверсітэта Пелікан. Вынік інспекцыі ён выразіў у наступным лісце: *"Правінцыялу ордэна кс. піяраў, вялебнаму кс. Крукоўскаму. Наведаўшы ў гэтым годзе некаторыя навучальныя ўстановы Віленскай акругі, з вялікім задавальненнем магу адзначыць, што ў гімназіі Мендзырэча*[36]*, а таксама ў Лідскай павятовай школе, якую ўтрымліваюць піяры, усталяваны неабходны лад у справе выкладання навук і ў маральным выхаванні і пакаранні вучняў. Усё робіцца, як належыць з-за высокай руплівасці піяраў на дабро грамадства і дакладным выбарам піярскім ордэнам асоб для навучання моладзі. Лічу сваім прыемным абавязкам выказаць вам удзячнасць за вашую працу ад імя куратара Віленскай вучэбнай акругі, які мяне на гэта ўпаўнаважыў, і ад мяне асабіста. Прашу перадаць гэтыя падзякі таксама кіраўніку школы і настаўнікам. Рэктар універсітэта Пелікан. 6 ліпеня 1827 г. № 724"*.

Апошнюю інспекцыю школы правёў 21 кастрычніка 1833 г. дырэктар школ Гарадзенскай губерні калежскі дарадца Сазановіч. Пратакол ягонай інспекцыі першы раз упісаны ў кнігу візітацый па-руску. Школа была ўжо прысуджана да смерці.

***Пераклад Леаніда Лаўрэша.***

[35] Успаміны кс. Вайшвілы.

[36] Горад Мендзырэч-Падляскі - *Л.Л.*

***Аляксандр Горны***

# Беларускае школьніцтва на Лідчыне: новыя дакументы

У 2015 г. адзначалася 100-годдзе беларускамоўнага школьніцтва новага часу. Паводле вядомых на сённяшні час фактаў, летазлічэнне беларускамоўнай адукацыі можна пачынаць з даты 13 лістапада 1915 г., калі ў Вільні намаганнямі А. Пашкевіч (Цёткі) і Б. Пачопкі была адкрыта першая школа з беларускай мовай выкладання. Нягледзячы на даволі добрую распрацаванасць дадзенай тэмы ў беларускай гістарыяграфіі[1], многія яе аспекты, і ў першую чаргу праблема пашырэння беларускага школьніцтва ў розных мясцовасцях акупаванай немцамі Беларусі ў 1915 - 1918 гг. патрабуюць дастаткова крапатлівага вывучэння як з боку гісторыкаў, так і краязнаўцаў.

Працуючы з вялікім масівам дакументаў беларускіх нацыянальных арганізацый міжваеннага перыяду ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Літвы, якія былі сістэматызаваны і сталі даступны даследчыкам толькі ў 2012 г., аўтарам гэтых радкоў былі выяўлены некалькі дакументаў, якія ўтрымліваюць цікавыя звесткі па гісторыі станаўлення беларускага школьніцтва на Лідчыне. Дакументы, якія публікуюцца ніжэй, захоўваюцца ў фондзе № 361, вопіс 1 ("Беларускія арганізацыі. Таварыства беларускай школы"), справа 28, якая змяшчае карэспандэнцыю Цэнтральнай беларускай школьнай рады за 1925 г. (LCVA. F. 361. Ap. 1. B. 28). Згодна з вопісам фонду дадзеная справа была сфарміравана толькі ў 2015 г. Дакументы ўяўляюць сабой тры рукапісныя аркушы, два з якіх напісаны адным чалавекам - жыхаром вёсцы Панямонцы Лідскага павета А. Пышко на беларускай мове. Трэці дакумент з'яўляецца заявай упаўнаважаных з вёсак Збляны і Краснае ў Цэнтральную беларускую школьную раду, якая напісана па-руску дарэвалюцыйнай арфаграфіяй з невялікай колькасцю беларусізмаў. Дакументы ў справе не пранумараваныя.

У публікаваных дакументах прадстаўлена кароткая гістарычная даведка аб стварэнні першых беларускіх школ на тэрыторыі Лідскага павета, адлюстраваны тыя праблемы, з якімі сутыкнуліся беларускія актывісты пры арганізацыі нацыянальнага школьніцтва ў міжваеннай Польшчы. Дакументы ўпершыню ўводзяцца ў навуковы аварот і змогуць безумоўна дапоўніць, а недзе нават і скарэктаваць тыя сведчанні аб гісторыі беларускамоўнай адукацыі на Лідчыне, якія сёння маюцца ў распараджэнні краязнаўцаў і гісторыкаў[2].

**№ 1**

***У Цэнтральную Беларускую Школьную Раду***

*Александр Пышко, жіх.[ар]*
*вёскі Понемунцы[3], Беліцкай*
*гміны, Лідзкага павету*

*Да вайны ў нашай вёсцы істнавала расейская школа і быў пастаўляны новы школьны будынак, хоць вучыцца ў ім ня усьпелі. Як прышлі немцы, то яны адчынілі ў нас школу беларускую з выкладаням мовы нямецкай. З прыходам палякоў школы ня было да 1923 г. і школьны будынак пуставаў. У восені 1922 году пад час выбараў ў Сойм і Сэнат, сяляне нашай вёскі зрабілі прыгавар аб адкрыцьці беларускай школы; прыгавар гэты пацьверджаны войтам Беліцкай гміны, быў паданы ў кастрычніку месяцы Лідзкаму Школьнаму Інспэктару, а копію з яго я перадаў у Раду. Вясною 23 году селянамі зноў быў зробляны такі прыгавар, пацьверджаны войтам і таксама пры паданьні пяраданы Лідзкаму Школьнаму Інспэктару, а копію і з яго я перадаў у Раду. Акрамя гэтага я ад сябе пісаў заяву пану Старшыні Рады Тарашкевічу[4] і прасіў каб ён паклапаціўся перад Беластоцкім куратарам аб адкрыцьці у нас школы. На гэтыя нашы прыгавары і паданьні Лідзкі Інспэктар ніякага адказу ня даў, але з восяні 1923 г. адчыніў польскую школу замест беларускай і прыслаў вучыцеля паляка. Вучыцель гэты прозьвішчам Вінцэнты Новак (Бог яго ведая скуль ён) вось ужо два гады як працуя ў нашай школе, а навучыў дзяцей толькі разным непатрэбным гульням, а чытаць… толькі тыя трохі брыдуць (?), бацькі якіх самы знаюць літары, але такіх дужа нямнога. Нават і пад штрафы падводзіць мала - лёгка вучыць. Беларуская мова ў школе ня выкладаецца і прыватнай школы няма, бо сяляне адчыніць прыватную школу баяцца школьнага Інспэктара і паліцыі, ды ў дабавак бедныя, хоць і дужа хацеліб мець*

[1] На наш погляд, найбольш грунтоўнай працай па дадзенай тэматыцы з'яўляецца наступнае выданне: Ляхоўскі. У. Школьная адукацыя ў Беларусі падчас нямецкай акупацыі (1915 - 1918 гг.). Вільня-Беласток, 2010.

[2] Гл. напр.: Лаўрэш Л. Пачаткі беларускамоўнай адукацыі на Лідчыне // Наша слова. 2015. № 34. С. 2.

[3] Цяпер вёска Панямонцы Лідскага раёна.

[4] Тарашкевіч Бранiслаў (1892 - 1938) - беларускі грамадска-палітычны дзеяч, філолаг, педагог. У міжваенны перыяд з'яўляўся кіраўніком шэрагу беларускіх культурна-асветніцкіх арганізацый.

*школку ў роднай мове.*

*Цяпер некалькі слоў аб Зблянскай школе Беліцкай гміны. Там да вайны існавалі 2 школы: адна 2-х клясовая мяшаная, а другая [не разчытаць] клясовая дзеля дзяўчат. За вайну школьныя будынкі былі знішчаны, асабіста 2-х клясоўка. У 1919 г. стараньнямі вучыцеля Петры Зайкі была адчынена беларуская "жондовая"*[5] *школа, але ўжо ў 1920 г. ператворана на прыватную, а вучыцель Зайка быў змушаны ехаць ў Кракаў*[6]*. На яго месца была прыслана вучыцелька і заявіла, што школа будзя польскай. Тады сяляне, дужа абураныя гэтай справай, запратэставалі і ў школе стала выкладацца і беларуская мова. У восяні бягучага навуковага году ў Збляне прыслалі вучыцеля з Кракаўскіх курсантаў - беларуса (прозьвішча яго ня знаю), але школа лічыцца польскаю, а беларуская мова выкладаецца як прадмет. Дзяцей ў школу ходзіць мала, бо сяляне школаю нездаволяны, але парадзіць сабе таксама нічога ня могуць. Дый на вакола, ня толькі ў нашай гміне, а і па усіх вёсках Лідчыны, жыхары-беларусы хацеліб мець школы ў роднай мове, але як языковыя законы замярлі, та ўсе прыціхлі і нават прыгавараў аб адкрыцьці родных школак рабіць баяцца*

*А. Пышко.*

*26/I 1925 г.*

***№ 2***

***У Цэнтральную Беларускую Школьную Раду***

*Александра Пышко, ж. в. Понемунцы,*
*Беліцкай гміны, Лідзкага павету*

*У вёсках Беліцкай гміны: Зблянах*[7]*, Краснай*[8] *і Понемунцах істнуюць польскія школы. Але цяпер, калі сяляне даведаліся, што можна на падставе законаў перарабіць гэтыя школы ў беларускія, то ўсе, якія маюць дзяцей школьнага ўзросту, як адзін дружна сталі пісаць дэклярацыі і пасылалі ў Беліцу да войта гміны пана Вадэйкі, каб сцьвердзіў іх подпісы. На ўсе захады перад панам войтам, ён пасьвядчыць подпісы адмовіўся, мотывуючы тым, што не мае распараджэньня ад СтаростВа. А калі яму прынеслі закон і даказалі, што згодна з законам ён павінен гэтае зрабіць, то ўсё ж такі войт не пасьвядчыў ані аднаго подпісу, а сказаў: рабіце што хочаце, а я сьвядчыць не буду! Пасьля ўсяго гэтага павесілі бедакі свае галавы і ня ведаюць што рабіць. Час ўжо кароткі, а не пацьверджаных деклярацыяў Інспэктар ня прымець. І прыходзіцца бедным аставацца з думкаю, што школы польскія застануцца як былі, а дзетак нашых будуць ізноў ганяць туды карамі ды штрафамі.*

*А па гэтаму прашу як найхутчэй паведаміць вёскі: Збляны, Красную і Понемунцы, што трэба зрабіць, каб ня спазьніцца з падачаю дэклярацый.*

*А. Пышко.*

*10/III. 1925 г.*

***№ 3***

***В Центральную Школьную Беларускую Раду в Вильне***

*Уполномоченных жителей*
*деревень Збляны и Красной*
*Белицкой гмины, Лидского павету,*
*Кулеша и Рудзевича*

*Заявление*

*10 сего марта, мы обращались к Войту Гмины Белица К. Водэйко с просьбай о засвидетельствовании подписей грамадзян деревень Збляны и Красной на дэкляраціях об открытии нашей родной школы, причем п. войт отказался засвидетельствовать подписи грамадзян ссылаясь на неполучение на этот счет распоряжений. После чего нами была предъявлена ему беларусская газета "Беларуская Доля"* [9] *, в которой были выдержки законов об открытии беларускай школы, но и это не было принято во внимание.*

*Кулеш, Рудзевич.*

*10. III. 1925 г.*

---

[5] "Жондовая" - тут паланізм, ад слова "rzad" - урад, маецца на ўвазе ўрадавая, дзяржаўная школа.

[6] У міжваенны перыяд польскія ўлады некалькі разоў арганізоўвалі ў Кракаве курсы для настаўнікаў беларускай мовы. Курсы не карысталіся асаблівай папулярнасцю з-за сваёй нізкай кваліфікацыі.

[7] Цяпер вёска ў Лідскім раёне.

[8] Цяпер вёска ў Лідскім раёне.

[9] "Беларуская доля" - беларуская грамадска-палітычная газета, якая выдавалася ў Вільні з 11 студзеня па 22 траўня 1925 г., неафіцыйны орган Беларускага пасольскага клуба ў польскім сойме.

***Мікола Дзікевіч***

# Сялец
# ва ўспамінах К.У. Геца

*(Заканчэнне. Пачатак у папярэднім нумары.)*

**15. Вучоба і педагагічная дзейнасць**

У пачатку снежня я пакінуў чыгунку і пайшоў у школу. 15 снежня 1944 года дырэктар школы В.І. Савонь павёз мяне ў Ліду ў райкам камсамолу на бюро, каб зацвердзілі мяне піянерважатым Нёманскай школы. Райкамы камсамолу і партыі знаходзіліся ў адным будынку, калі ісці з райана на рынак. Зайшлі ў першы кабінет налева на першым паверсе. Нікога няма. У вокнах няма шыбаў, толькі снег кружыў па пакоі.

Савонь мяне пакінуў, сам пайшоў шукаць чальцоў бюро. Прыйшлі, селі за стол насупраць адзін аднаго, пагутарылі хвілін 15, узброілі мяне бібліятэкай. З гэтага дня я звязаў сваё жыццё са школай. Піянерская арганізацыя яшчэ не існавала. Яе патрэбна было стварыць. Пасля падзей у перыяд нямецкай акупацыі справа была не з лёгкіх. Аднак справіўся і даволі паспяхова. Сам вучыўся і выконваў адначасова абавязкі піянерважатага.

Другі раз мне прыйшлося ствараць піянерскую арганізацыю, працуючы дырэктарам Канюшанскай сямігадовай школы пасля педвучылішча. Там было цяжка арганізаваць дзяцей у піянерскі калектыў. Выступаючы на раённай настаўніцкай канферэнцыі сакратар райкама партыі Турык гаварыў: "Вось дырэктар Канюшанскай школы Гец стварыў піянерскую арганізацыю". У большасці школ раёна праблема рашалася з пэўнымі цяжкасцямі. Бацькі не дазвалялі дзецям уступаць у піянерскую і камсамольскую арганізацыі.

Вясною 1945 г. прайшоў навучанне на двухтыднёвых вайсковых зборах пры Лідскім горрайваенкамаце па 140-гадзіннай праграме па спецыяльнасці байца-стралка.

У 1947 годзе паступіў у Лідскае педвучылішча на чатырохгадовае навучанне, як у інстытуце. На выпускным вечары, уручаючы атэстаты, у сваім дакладзе Канстанцін Васільевіч Якімовіч адзначыў, што Гец ішоў на ўсе экзамены спакойным з цвёрдымі ведамі. Вучоба ў педвучылішчы была самым светлым, цікавым, радасным адрэзкам часу ў маім маладым жыцці. Там нам далі добрую тэарэтычную падрыхтоўку.

У 1951 годзе быў зроблены пераход да абавязковага сямігадовага навучання. Узнікла патрэбнасць у настаўніцкіх кадрах. Пачалі адкрывацца двухгадовыя настаўніцкія інстытуты, якія давалі незакончаную вышэйшую адукацыю (Маладзечна, Баранавічы, Берасце, Вілейка). У Вілейцы навучанне вялося на беларускай і польскай мовах. Туды паступалі вучыцца пераважна былыя польскія настаўнікі пачатковых класаў. З вядомых нам там вучыліся і закончылі Канстанцін Іванавіч Буйніцкі і Зоя Іванаўна Кудла.



***Студэнт Канстанцін Уладзіміравіч Гец***

У тым жа годзе ва ўсіх педвучылішчах Беларусі зрабілі адбор выпускнікоў на месячныя курсы. Тых, хто меў большую схільнасць да гуманітарных прадметаў і паспяхова па іх вучыўся, накіравалі ў Маладзечанскі настаўніцкі інстытут па падрыхтоўцы настаўнікаў мовы і літаратуры ў 5-7 класах, а лепшых матэматыкаў сабралі ў Берасцейскім настаўніцкім інстытуце. У Маладзечанскім інстытуце ад нашага педвучылішча была самая большая група - 18 чалавек, з іх 15 дзяўчынак і тры хлопцы, у тым ліку і я.

На ўсіх выпускнікоў педвучылішча карты ўліку аддзела кадраў Міністэрства асветы былі разасланы ў тыя раённыя аддзелы асветы, куды былі накіраваны пры размеркаванні студэнтаў, якое праводзілася яшчэ да заканчэння педвучылішча. Нам, курсантам, давалі даведку аб заканчэнні курсаў і карту ўліку Міністэрства асветы на рукі. Нягледзячы на размеркаванне, мы маглі паехаць працаваць у любы раён, куды каму захочацца. Многія (а іх была большасць) так і паступілі.

Будучы на курсах у Маладзечне, я ездзіў у Менск здаваць прыёмныя экзамены ва ўніверсітэт. Усе 8 прыёмных экзаменаў я здаў на пяцёркі. З усяго нашага выпуску ў педвучылішчы (90 чалавек) знайшлося нас толькі трое смелых, якія паступілі ва ўніверсітэт: я і мой сябар Юзік Шэўчык з вёскі Агароднікі - на гістарычны факультэт, і адна дзяўчына Надзя Барадаценка - на геафак. За намі пачалі паступаць іншыя, але ўжо на наступны год.

Некаторыя прадметы, якія я вывучаў у педву-



Свидетельство

Выдано

тов. Гец Константин Владимирович

в том, что он в 195_ году закончил обучение при педучилище

комитете ДОСАВ по специальности

парашютиста

Сдал зачёты с оценками:

по теоретическому курсу отлично

по практике отлично

Председатель

комитета ДОСАВ

***Пасведчанне парашутыста К.У. Геца***

чылішчы (педагогіка і гісторыя педагогікі, методыка выкладання гісторыі, логіка, псіхалогія, руская савецкая літаратура, гісторыя ВКП(б), ішоў здаваць ва ўніверсітэце з ходу без усякай падрыхтоўкі, і здаў іх паспяхова. Без падрыхтоўкі здаваў і польскую мову.

Пасля ўніверсітэта, працуючы ў Зембіне з 1967 года, мяне накіравалі на трохгадовыя партыйныя курсы рэзерву прапагандыстаў пры Менскім абкаме партыі. Тры гады ездзілі на сесіі як завочнікі. Там былі людзі з усіх раёнаў Менскай вобласці. Заняткі праходзілі ў доме палітасветы на вуліцы Янкі Купалы. Нам адразу прапанавалі, калі хто захоча можа здаць кандыдацкі мінімум. З усёй той кампаніі людзей знайшлося 7 чалавек.

З гэтай групы мне добра знаёмыя дзве аднакашніцы па ўніверсітэце. Адна з іх - Іра Клімовіч - выпускніца Гарадзенскага педвучылішча, разам паступала і канчала са мной універсітэт, працавала настаўніцай у Лідскай рускай першай школе. Другая - жонка сакратара Маладзечанскага гарвыканкама. Тры гады я тут патраціў не ў пустую. Здаў кандыдацкі мінімум па тэорыі марксізму-ленінізму.



***К.У. Гец, дырэктар школы ў Зембіне***

Калі я пераязджаў з Нёмана, мне прапанавалі ісці працаваць ва ўніверсітэт малодшым выкладчыкам. Са мной канчаў універсітэт капітан Буцько. Ён працаваў і спецыялізаваўся па археалогіі. Доўга ўгаворваў, але я не адважыўся ісці на 120 рублёў, пры хворых дзецях садзіцца на шыю жонкі. Пасля пашкадаваў, што не пайшоў, асабліва тады, калі мой малодшы зяць Алег, Жаннін муж, скончыўшы ўніверсітэт, працаваў інжынерам і плацілі яму ўсяго 120 рублёў.

Курсы для мяне на гэтым не скончыліся. Пасля партыйных пачаліся курсы-зборы вайсковыя. У арміі я не служыў. У педвучылішчы ў армію не прызывалі, паколькі ў краіне быў дэфіцыт педагагічных кадраў. Затое пазней, калі чалавек атрымаў адукацыю самастойна, скарысталі для арміі. Прызвалі на шасцімесячныя зборы палітработнікаў Савецкай Арміі ў Львове. Затым доўга агітавалі, каб застаўся служыць у арміі на пастаянна начальнікам пагранзаставы. Адмахваўся ад такой пасады як чорт ад ладану.



***Канстанцін Уладзіміравіч Гец.***
***Шасцімесячныя зборы палітработнікаў Савецкай Арміі ў Львове***

З маім малодшым зяцем Алегам Дворнікавым паступілі іншым чынам. Ён і Жанна канчалі факультэт фізікі ва ўніверсітэце. Алег закончыў з чырвоным дыпломам. Ва ўніверсітэце ёсць вайсковая кафедра. Выпускнікам адразу прысвойвалі афіцэрскае вайсковае званне. Пры размеркаванні на працу пасля заканчэння накіравалі на два гады ў армію як на працу. Служыў у Асіповічах, таму часта прыязджаў дамоў у Менск. Калі тэрмін па размеркаванні закончыўся, настырна агітавалі застацца ў арміі.

Адзін выпускнік згадзіўся застацца ў арміі. І якую яму далі працу? Начальнікам зброевага склада. Трэба мучыцца канчаць універсітэт, ды яшчэ факультэт фізікі, каб быць нейкім кладаўшчыком у арміі. Алег цягнуўся да навукі. Два гады назад абараніў доктарскую дысертацыю. Зараз ён прафесар, доктар тэхнічных навук.

### 16. Мая сям'я

Старэйшая дачка Света закончыла Нёманскую васьмігадовую школу. Сярэднюю - у Зембіне. Паступіла ва ўніверсітэт на факультэт радыёэлектронікі. Усё звязана з радыяцыяй. Да стыпендыі ім давалі надбаўку за радыяцыю.

Пасля двух курсаў Света пакінула ўніверсітэт і перайшла вучыцца ў інстытут народнай гаспадаркі. Па размеркаванні працавала два гады ў Дзісне эканамістам на нейкім прадпрыемстве. Адбыўшы тэрмін па размеркаванні, паехала ў Маскву і паступіла працаваць у Інстытут нафты і газу імя Г.М. Губкіна. Там яе прызначылі начальнікам аддзела, які каардынаваў дзейнасць усіх іншых аддзелаў інстытута. Пасада была прафесарская.



*Света Гец у Сяльцы, 3 гады*

Інстытут нафты і газу - мазгавы трэст Газпрама. Святлане далі накіраванне ў мэтавую аспірантуру. З поспехам здала экзамены і тры гады вучылася стацыянарна ў аспірантуры пры Інстытуце нафты і газу. Закончыла, абараніла навуковую дысертацыю на званне кандыдата эканамічных навук.



*Святлана Гец да маскоўскай аспірантуры*

Працуючы ў інстытуце, вяла аддзел па экалогіі. У яе была карта ўсяго Савецкага Саюза, у якой абазначаны тэрыторыі забруджаныя радыяцыяй, хіміяй і інш. Прыйшлося выконваць даручэнні ўрада па складанні законапраекту па экалогіі, а затым хадзіць на паседжанні Дзяржаўнай думы, калі закон абмяркоўваўся і прымаўся.

Пасля аспірантуры пайшла працаваць у Газпрам. Узначаліла аддзел эканамічнай экспертызы матэрыяльна-сыравінных рэсурсаў Газпрама. У аддзеле працуе чалавек 15 і ўсе з вучонымі ступенямі.

На гэтай пасадзе Света працавала да прыходу новага начальніка газпрама Мілера. Былы начальнік Вяхіраў, таксама кандыдат эканамічных навук, пайшоў на пенсію. Пуцін прывёз свайго чалавека з Пецярбурга.

Пры Мілеры Света пайшла на павышэнне. Зараз працуе памочнікам начальніка дэпартамента. Зарплата адразу павялічылася напалавіну. У начальніка дэпартамента два памочнікі: адзін курыруе збыт нафты і газу ў далёкае замежжа, другі - у блізкае. Блізкім замежжам займаецца Света, аднак ад Беларусі і Украіны адмовілася, матывуючы тым, што там жывуць бацькі, радня, і каб не было ціску на іх з боку беларускіх уладаў. Свету правільна зразумелі і перадалі Беларусь і Ўкраіну другому памочніку.

Света самастойна па службе вырасла да той вышыні пасады, на якую прызначае асабіста Мілер. Хаця ёсць яшчэ начальнікі вышэй за Свету, аднак яе выбралі членам савета дырэктараў.

Газпрам - дзяржава ў дзяржаве, свая паліцыя, свая медыцына, свая авіяцыя. Тым, хто выходзіць на пенсію, акрамя дзяржаўнай Газпрам плаціць яшчэ сваю пенсію тады, калі чалавек пакідае працу ў Газпраме. Света атрымоўвае дзяржаўную пенсію, але ў Газпраме пакуль застаецца працаваць - ва кіраванні па цэнаўтварэнні.

За час вучобы ў аспірантуры яна аб'ездзіла ўсе радовішчы нафты і газу Савецкага Саюза, збіраючы матэрыял для сваёй навуковай дысертацыі.



*Святлана Канстанцінаўна Палікарпава (Гец), Якуція, р. Лена, Ленскія слупы*

Працуючы ў Газпраме аб'ездзіла паўсвету. Многа раз лятала ў Амерыку (ЗША). Тады было нейкае супрацоўніцтва ЗША з Газпрамам. Здзяйснялася яно цераз Свету. Камандзіроўкі ў ЗША цяжкія. З Масквы да Нью-Ёрка ляцець самалётам 12 гадзін. У Нью-Ёрку перасадка, яшчэ 3,5 гадзіны над Амерыкай да горада Даласа, горада, дзе забілі Джона Кенадзі. Ёсць фота, на якім Света стаіць і паказвае рукой месца забойства Кенадзі. У Амерыку, хаця дарога цяжкая, але плацілі 100 даляраў камандзіровачных у суткі.

У такіх краінах як Германія, Аўстрыя, Швейцарыя, Італія, Англія, Нідэрланды, Чарнагорыя, Польшча, Арабскія Эміраты Света пабывала па некалькі разоў у рабочых камандзіроўках, або міжнародных канферэнцыях. Ездзіла не адна, а ў складзе групы экспертаў у ролі кіраўніка. Наведвала Чэхію, Латвію, Аўстрыю, Балгарыю, Егіпет.

Са старым і новым начальнікамі ляталі за Палярны круг на перамовы з губернатарам. Начальнік ля-

ціць на сваім персанальным самалёце, на другім - група супрацоўнікаў. З Урэнгоя ляцелі верталётамі на месца да губернатара. Адлятаючым супрацоўнікам з Газпрама запалярнікі давалі сумкі з гасцінцамі. Пераважна лепшыя гатункі рыбы з Ледавітага акіяна. Самым цікавым напрадвесні ў 2010 годзе было, калі гасцей з Масквы запалярнікі пачаставалі памідорамі і агуркамі.

У 2011 годзе Света ўспела злётаць на тыдзень у Чарнагорыю. Вярнулася адтуль, цераз кароткі час паляцела на 10 дзён у Арабскія Эміраты. Хаця зімой, але пакупалася ў цёплым моры. Яшчэ адна перавага Газпрама над іншымі прадпрыемствамі: калі ідзеш у адпачынак, тады акрамя адпускных табе плацяць грошы на правядзенне водпуску ў тым выпадку, калі ты едзеш адпачываць у санаторый, ці курорт, ці на экскурсію.

Муж Свецін - Жэня Палікарпаў - інжынер-электрык, прытым спадчынны. Бацька і дзед - таксама інжынеры, а маці была балярынай.

Жанна з Алегам Дворнікавым вучыліся ва ўніверсітэце на факультэце фізікі. Пра Алега я сказаў вышэй. Пасля Жанна скончыла ў Маскве акадэмію паслядыпломнай адукацыі па псіхалогіі. Ёй прапаноўвалі паступаць у аспірантуру, але мы параілі не ісці ў такім узросце. Жанна зараз спецыялізуецца як псіхолаг. Працуе ў прыватнай навучальнай установе. З ёй працуе ўнучка Воля. Воля скончыла Міжнародны гуманітарны ўніверсітэт у Менску, які выгналі з Беларусі. Жыве ў Санкт-Пецярбургу. Унук Андрэй скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт інфарматыкі і радыёэлектронікі, факультэт інфармацыйных тэхналогій (1999-2004 гг.). Працуюць ён і яго жонка Света праграмістамі ў розных замежных фірмах з дакументамі на нямецкай мове.

Калі ўнучка Воля здала дзяржэкзамены ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце, ездзіла на тры месяцы ў Швейцарыю працаваць перакладчыкам з французскай мовы на рускую. Яна паехала на замену сваёй папярэдніцы студэнткі, якая там адпрацавала таксама тры месяцы. Кіраўніцтва Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта такім чынам стварала ўмовы прайсці стажыроўку па замежнай мове. Прыехаўшым у Швейцарыю давалі адразу жыллё і наперад зарплату - 800 еўра.



*Жанна Канстанцінаўна Дворнікава (Гец), псіхолаг*



*Алег Дворнікаў, у войску*



*Алег Дворнікаў. Доктар тэхнічных навук, прафесар*



*Вольга Алегаўна Дворнікава*



*Андрэй Алегавіч Дворнікаў. Кіраўнік праекту SAPR/3.*

Воля працавала ў медыцынскай установе, куды едуць лячыцца багатыя рускія. Ад Волі са Швейцарыі даведаліся, што Света пойдзе на падвышэнне. Там лячылася жанчына з аддзела кадраў Газпрама. Воля пры лекары была ёй перакладчыцай. Жанчына паведаміла Волі, што бачыла дакументы аб павышэнні Светы па службе. Воля пазваніла ў Менск мацеры, а Жанна паведаміла нам аб гэтым. Такі ланцужок пра загад аб прызначэнні Светы на новую пасаду.

Калі Воля ад'язджала дамоў, і лекар даведаўся, што яна беларуска, здзівіўся: лічыў яе францужанкай.

Я выйшаў на заслужаны адпачынак і назаўсёды пакінуў працу ў школе. Не сеў, склаўшы рукі, дома. Як цяпер жартам гавораць: я стаў "фермерам".

Узяў 1,5 га зямлі. Быў свой конь "Дружок", свой трактар. Гаспадарка, праўда, была невялікая. Гадаваў дзве дойныя каровы, дзве свінаматкі. Апрача гэтага



***К.У. Гец, пчаляр***



***К.У. Гец, фермер***

кожны год выкормлівалі двое свіней і бычка вагой 300-350 кг на забой на мяса, дзесяткі два курэй. Праўда, былі яшчэ трусы - вялікія серабрыстыя, якіх мы гадавалі, калі працавалі ў школе. Кожнае лета выкормлівалі або гусак, або індычак, або качак. І што за гаспадарка, калі яе не ахоўваюць два сабакі і не ловяць мышэй кот з кошкаю?!

З усёй гэтай гаспадаркай упраўляліся ўдваіх з Ядвігай Елісееўнай. Дочкі вучыліся. Што зробіш, калі ў нас сялянскія душы. Кажуць, што прырода перамагае навуку.

**17. Дзядуля і дзядзька Коля**

Калі дзед "Міхалюк" памёр, я вучыўся ў 2-м класе (1937 г.). Дзядзьку Колю далі тэлеграму ў Латвію і чакалі, што ён прыедзе на пахаванне. Цягнік Рыга-Вільня-Львоў праходзіў праз станцыю Нёман пад вечар. Не дачакаліся, дзядзька не прыехаў. Дзеда хавалі з ліхтарамі.

Пад вечар я ляжаў на печы, прыйшоў бацька і сказаў, што дзядуля памірае. Я пабег туды і быў каля дзеда, пакуль ён не сканаў. У хаце знаходзіліся бацька, маці, дзядзька Міша з жонкай і бабуля Агата.

Дзед просіць Мішу даць закурыць. Ён запаліў папяросу, падаў. Дзед некалькі разоў пацягнуў. Трымае папяросу, не адчувае яе і просіць, каб падалі другую. Сэрца пачало дрэнна працаваць, пальцы халадзелі.

Дзед быццам ніколі не хварэў, па старасці быў слабы, крыху хадзіў. У той дзень ён устаў з ложка. падышоў да вядра на кухні напіцца вады і паваліўся. Магчыма стукнуўся, не ведаю. Стала дрэнна, і да паўночы памёр.

Пражыў дзед 83 гады. За шэсць гадоў да смерці (мне было тры гады) дзед запрог каня Дэраша і паехалі па снапкі лёну ў Міркішкі - уздоўж чыгункі да другога пераезду, затым налева Жамойскай дарогай і зноў налева да лесу - там у лагчынцы рос гайнік лёну. Дзед узяў мяне з сабой. Сеў на калёсы, спусціў ногі між драбін, а мяне пасадзіў на калені. Прыехалі на месца, зняў мяне з калёс, занёс на пагорак, дзе пачынаўся лес, пасадзіў і кажа: "Сядзі тут, нікуды не ідзі". Сам развярнуў каня і пачаў складаць снапкі лёну, затым уціснуў жэрдкай. Пасадзіў мяне на лён, як у карыта і паехалі дамоў. Дзед ішоў каля воза да падворка, а я схаджу ў краму ў Менску ў суседнім доме, штосьці куплю, іду назад, і мучыць задышка.



***Мікалай Міхайлавіч Гец. Латвія, Руена, 10 красавіка 1933 г.***

Некалькі слоў пра дзядзьку Колю, які жыў у Латвіі. Калі бацька вярнуўся з Таганрога пасля рэвалюцыі ў Расіі, тады Коля і Міша былі падлеткамі. Бацька пачаў нарыхтоўваць бярвенні за Нёманам у казённым лесе і вазіць дамоў. Часта браў з сабой Колю.

Не ведаю, як і дзе, і чаму яны вучыліся ў час вайны, але дзядзька Коля ўмеў чытаць і заўсёды многа чытаў, займаўся самаадукацыяй. Пісаў ён прыгожа і пісьменна. У мяне захаваліся яго некаторыя лісты і подпісы на яго фатаздымках.

Пасля службы ў 6-м уланскім палку польскай арміі ў Вільні быў сакратаром падпольнай камуністычнай арганізацыі ў вёсцы Сялец. Сялецкая ячэйка адносілася да Беліцкага падрайкама партыі. Кіраваў ёю Міхаіл Міхайлавіч Манькоўскі. Сабраны і апрацаваны Канстанцінам Уладзіміравічам Гецам, удакладнены каштоўны гістарычны матэрыял пра дзейнасць ячэйкі, ухвалены былым сакратаром Лідскага райкама камуністычнай партыі Мінкевічам, з-за пераводу яго на пасаду міністра асветы БССР "закапаўся" ў нетрах папер райкама і, магчыма, загінуў назаўсёды. І звесткі, як планавалася, на старонкі раённай газеты не трапілі.

Выехаўшы ў Латвію, дзесьці ў 1932 годзе, дзядзька Коля за год авалодаў латышскай мовай не толькі гутарковай, але і пісьмовай. Памятаю яго да ад'езду.



***Аліна, дачка цёткі Юліі Міхайлаўны Гец з мужам - справа, сваты - злева, пасярэдзіне - дачка Аліны і зяць.***



*Мікалай Міхайлавіч Гец. Латвія, Руена, 21 красавіка 1935 г.*

Прыносіў мне паштоўкі з малюнкамі, браў на рукі і падымаў да столі. Значыць, я быў яшчэ малы.

Дзядзька Коля жыў з сястрой Юляй. Муж яе (не ведаю яго імя і прозвішча, толькі памятаю па фотаздымку - з твару прыемны паўнаваты і з вялікімі вусамі). Закупляў жывёлу ў людзей для тых, хто займаўся вытворчасцю мясных прадуктаў - каўбас, паляндвіц, кумпякоў і інш.

Затым ён адкрыў мясарню і сам пачаў займацца такой вытворчасцю, пазней адкрыў уласную краму. Ва ўсім дапамагаў яму дзядзька Коля, і адначасова ён працаваў у краме. Жылі ў сельскай мясцовасці, была свая гаспадарка. Акрамя гэтага быў у іх дом у гор. Руена. Памятаю, яны прысылалі здымак гэтага горада і стрэлкай на здымку паказалі на свой дом. У час вайны горад Руена і дом згарэлі.

Да пачатку вайны Польшчы з немцамі дзядзька Коля прыязджаў дамоў летам 1939 года. З ім прыехала Аліна, дачка цёткі Юлькі. Сабраўся ехаць з імі малодшы брат Аліны Альфрэд. Ішлі на станцыю, і ён успомніў, што нешта забыўся. Вярнуўся, каб узяць, і спазніўся на цягнік. Так ён застаўся дома.

З прыходам бальшавікоў у 1940 годзе сваё прадпрыемства яны закрылі. Дзядзька Коля пайшоў працаваць начальнікам чыгуначнай станцыі Даўгулі Валмірскага ўезда. Пры немцах - не ведаю. Пасля вайны - зноў начальнікам той жа станцыі. Па выхадзе на пенсію працаваў у сельгастэхніцы дзяжурным на прахадной.



*Мікалай Міхайлавіч Гец перад выхадам на пенсію, 1974 г.*

Жаніўся дзядзька Коля ў 40 год у 1945 годзе ў дзень на Купалу, 7 чэрвеня. Жонка была заядлая латышская нацыяналістка. Памерла трагічна. Ехала да касцёла на ровары, выпадкова ўпала і смяртэльна разбілася. Сыны Івар і Роланд былі ўжо вялікімі. На пахавальнай фатаграфіі яны стаяць прытуліўшыся да бацькі ўзровень яго плячэй.



*Дзядзька Мікалай Міхайлавіч Гец з жонкаю Велтай. Латвія, чыгуначная станцыя Даўгусі, 15 студзеня 1965 г.*

Па выхадзе на пенсію дзядзька пабудаваў дом у горадзе Валміера, вул. Салацая, 4а. З ім жыў сын Івар з жонкаю. Роланд жыве ў сельскай мясцовасці на цёшчыным падворку.

Дзядзька Коля два разы прыязджаў у Сялец, калі я пераехаў у Зембін. Першы раз гасцяваў, калі было вяселле Сашы Барыса. Другі раз наведаў радзіму, і я спецыяльна прыехаў з Зембіна, каб з ім сустрэцца.

Не памятаю, у якім годзе дзядзька перанёс інсульт, ляжаў каля года, але пры добрай памяці і размове. Любіў чытаць мае лісты. Пісаў іх я яму вялікія. Як і ўсіх людзей, яго цягнула да свае радзімы, да радавых каранёў, асабліва на апошніх кроках жыцця.

Сыны яго па-руску ні чытаць, ні пісаць не ўмелі. У большасці лісты мае дзядзьку чытала нявестка, жонка Івара. Яна мне і адпісвала ад імя дзядзькі.

У апошні час Івар збіраўся адкрыць сваю ўласную краму. Пасля смерці дзядзькі перапіска наша перарвалася, і пра іх зараз нічога не ведаю.

Калі памерла цётка Юля, на пахаванне ездзілі бацька з дзядзькам Мішам. У час майго спаткання ў Сяльцы з дзядзькам Колем, калі я спецыяльна прыяз-



*Дзядзька Мікалай Міхайлавіч Гец з сынам Іварам і нявесткаю. 3 снежня І974 г.*

джаў з Зембіна, многа чаго ў яго не распытаў. Затое ён часцяком, амаль цэлымі днямі, праседжваў каля бацькі (бацька быў ужо сляпым). Я іду аднойчы ў хату, а ён выходзіць з дому. Кажу: "Аб чым вы цэлы дзень размаўляеце?" Ён у адказ: "Бацька вельмі многа ведае". Прыезд гэты быў апошнім, развітальным з Радзімай.

Аднойчы сустрэў дзядзьку над Нёманам у Лахадрах. Адчуваючы свой канец, чалавеку захацелася пабываць там, дзе прайшло яго дзяцінства і маладосць, уваскрэсіць у памяці ўсё сваё жыццё.

У малалосці ён заляцаўся да дзяўчыны Марыі Кляйдовай, Алесінай дачкі, з якой затым ажаніўся Сашка Некрашэвіч - маці і бацька Раісы Праскурэнка (Некрашэвіч).

Ніжэй звесткі з апавялання дзядзькі Колі, калі ён быў сакратаром падпольнай камуністычнай арганізацыі ў в. Сялец.

*У Вільню ён ехаў у шырокім плашчы, хаця тады быў малады і высмыглы. Там яму за падкладку наліцоўвалі бальшавіцкай літаратуры, і цягніком вёз у Сялец. Заўсёды баяўся, каб польская паліцыя не западозрыла.*

*Літаратуру ў Вільню прывозілі з Савецкага Саюза калёсамі цераз мяжу. Займаліся гэтым у прыватнасці Іван Сцяпанавіч Кудаш і яго жонка Людміла. Пасля пакарання смерцю Манькоўскага іх пасадзілі ў канцлагер у Картуз-Бярозе, дзе яны прабылі да разгрому Польшчы. Дома засталіся жыць адны дзеці - старэйшая Вера, сын Лёня і самая меншая Тома - мая аднагодка. Жылі яны ў сваім доме пад наглядам дзеда і дзядзькоў. Вярнуўшыся з Картуз-Бярозы, пры "першых саветах" усёй сям'ёй выехалі кудысьці ў Гомельскую вобласць.*

*М.М. Манькоўскага судзілі вайскова- палявым судом за разведвальную дзейнасць на карысць Савецкага Саюза, а ён займаўся палітычнай дзейнасцю. І.С. Кудаш і Люда былі пляменнікамі Манькоўскаму па жонцы. Жонка Манькоўскага Вольга, родная сястра Аўдолі жонкі Сцянана Кудаша. Іван Кудаш брат майму бацьку ў другой стрэчы, бо мой дзед "Міхалюк" і Сцянан Кудаш стрыечныя - Кудаш ад брата, мой дзед ад яго сястры. А ўнукі Сцяпана Кудаша мне стрыечныя ў трэцім калене.*

*У дваюраднага дзеда Сцяпана Кудаша радзілася таксама восем дзяцей - шэсць хлопцаў і дзве дзяўчыны: Іван, Аляксандр, Вікенцій, Павел, Канстанцін. Уладзімір, Ганна (у Жомайдзі замужам за Мурынам ("Турчыкам"), Вера (за Уладзімірам Борысам, затым за Сажнікавым).*

Яшчэ з апавялання дзядзькі Колі.

*У 1933 годзе рыхтавалася першамайская дэманстрацыя ў Сяльцы. Арганізатары дэманстрацыі абмяркоўвалі план у нашым доме. Падрыхтавалі чырвоны сцяг. Мелася на ўвазе вывесці на першамайскую дэманстрацыю рабочых тартака, чыгункі, лесасплаву, грузчыкаў і возчыкаў лесу і сялян.*

*Напярэдадні падпольшчыкі збіралі грошы на дапамогу сем'ям, членаў якіх палякі арыштавалі за падпольную дзейнасць. Грошы даручылі атрымоўваць і захоўваць аднаму чалавеку, іх затым павінны былі размеркаваць паміж пацярпеўшымі сем'ямі. Прозвішча гэтага не сялецкага чалавека не памятаю. З сабранымі грашыма ён уцёк у Амерыку, выдаў польскім уладам партыйную арганізацыю і тое, што рыхтуецца першамайская дэманстрацыя.*

*Перад 1-м Маем з Ліды прыехала 20 чалавек жандармерыі. Акружылі наш дом, на рабоце арыштавалі дзядзьку Колю і бацьку, прывялі дадому і пачалі рабіцьператрус. Шукалі партыйныя дакументы і іншыя доказы. Дзядзька Коля быў яшчэ сакратаром пажарнай каманды ў в. Сялец. Якія паперы знойдуць, ці спіс людзей - усё адносілася да пажарнай каманды. Не знайшоўшы ніякіх улік, вызвалілі з-пад арышту бацьку і дзядзьку. Зняўшы асаду дома, паехалі ні з чым назад у Ліду.*

*У дзядзькі Колі былі ўсе партыйныя дакументы. Ён надзейна іх хаваў на ганку пад падлогай. Сцяга таксама на знайшлі. Такім чынам дэманстрацыя была сарвана.*

Бальшавіцкая літаратура захоўвалася ў асноўным у доме Тодара Федзюкевіча - сталяра, бондара. Ён жыў без жонкі (яна памерла) з сынам Мікалаем па мянушцы "Мірон". Мікалай пры "першых саветах" спачатку працаваў заўгасам у бальніцы, а затым сакратаром Нёманскага сельскага савета, пазней расстраляны немцамі ў Лужку.

Пасля крывавай расправы з сынам Тодар Федзюкевіч прывёз жанчыну з Краснага Сяла. Пасля смерці Тодара (хвароба яго пачалася з болі малога пальца на назе, а затым развілася далей і давяла да смерці) "Тадорка" ўзяла ў хату прымака Вінцука Буйніцкага, бацьку Сяргея Буйніцкага. Вінцук тады працаваў паштальёнам.

**18. Цётка Юля і дзядзька Міша**

Некалькі слоў пра цётку Юлю і дзядзьку Мішу.

Цётка Юля прыязджала першы раз у 1934 годзе да бацькоў пасля таго, як яна выйшла замуж у Таганрозе за латыша. Яна гасцявала з дзецьмі - Алінай, якая вучылася ў 7-м класе гімназіі, і сынам Альфрэдам. Я вышэй ужо гаварыў, што Аліна прыязджала другі раз з дзядзькам летам 1939 года. Прыгожая і мілая дзяўчына.

Дзядзька Міша ў палітыку не ўмешваўся. Чалавек-земляроб. Прымаў удзел толькі ў самадзейнасці. Памятаю, маці ўзяла мяне ў школу на нейкую пастаноўку. У гэтым прадстаўленні нейкую ролю выконваў дзядзька Міша, нават з шабляю ў руках. Я нічога не разумеў, што на сцэне паказвалі. Прызыўную службу дзядзька адбываў у польскай арміі кулямётчыкам па званні плютановы (сяржант). Затым яшчэ прызываўся ў рэзерве. Памятаю, бо прыязджаў у форме дамоў.

Дзядзька жаніўся ў 1937 годзе. Вяселле яго добра памятаю. У дзень вяселля ён прынёс нам з Колем у хату прыгаршчы цукерак. Былі мы з Колем дома адны, бацькі знаходзіліся цераз вуліцу на вяселлі. Дзядзька Міша ўзяў сабе ў жонкі Марыю, дачку Кандрата Раманава Клейды. Кандрат Раманаў і Ўладысь (цесць Сяргея Ганевіча) - родныя браты. Дзед быў зу-



*"Za Ojczyzne ...", 1928 г.*
*Дзядзька Міша злева другі.*

білізаваны. Пеша дабраўся дамоў.

При "першых саветах" дзядзька Міша ў калгас не падаўся, быў аднаасобнікам. Пры "другіх саветах" ім ужо не застаўся, але штосьці не памятаю, каб ён хадзіў на працу ў калгас. Доўгі час працаваў бакеншчыкам на Нёмане. Сена здабываў на вялікім востраве ніжэй моста. Пазней працаваў у вайсковай частцы конюхам, а яго сын Андруша - шафёрам, вазіў камандзіра базы ракетных кампанентаў, пакуль не памёр.





*Діядзька Міхаіл Міхайлавіч Гец, плютановы (сяржант), кулямётчык, 1928 г.*

сім не задаволены выбарам Мішы. Маню ён крыху недалюбліваў, называў яе "казой".

У пачатку вайны з немцамі дзядзьку Мішу прызвалі ў польскую армію. На фронт не трапіў і ахоўваў чыгуначны мост у Скрыбаўцах. Пасля 17 верасня прыйшоў дамоў у поўным абмундзіраванні, нават з польскім карабінам. Палякі ўзбройвалі салдат абы якой зброяй. Новак у Сяльцы хадзіў з рускай вінтоўкай са штыком. У польскай арміі на ўзбраенні, як і ў немцаў, былі багнеты.



*“За Родину...” Германія, 1945 г.*



*Германія, 17 верасня 1945 г.*



*Дома з жонкаю Марыяй Кандратавай, сынам Андрэем і дачкой Ларысай, 1945 г., кастрычнік.*



*Германія, 1945 г.*



*Ветэран вайны*

Не мінуў Чырвонай Арміі. Дайшоў да Германіі. З Германіі пераганяў жывёлу цераз Польшчу ў Беларусь. У Пружанах у кастрычніку жывёлу пагрузілі ў цягнік і адправілі ў Расію. Дзядзька Міша быў дэма-

## 19. Брат Мікалай і яго сям'я

Мікалай Уладзіміравіч Гец (25.12.1931-25.01.2012) закончыў Нёманскую сямігадовую школу, затым - Лідскае чыгуначнае вучылішча. Да службы ў арміі працаваў на паравозе памочнікам машыніста і машыністам. Пасля арміі вучыўся ў Лідскім індустрыяльным тэхнікуме. Да выхаду на пенсію працаваў на пасадзе інжынера торфабрыкетнага завода "40 гадоў БССР" у пасёлку Першамайскі Лідскага раёна.



*Мікалай Уладзіміравіч Гец (перад адыходам у армію 09.12.1953 г.)*



*Да арміі машыністам, у арміі танкістам...*

Жонка Мікалая Уладзіміравіча Тамара Валяр'янаўна працавала ў канторы торфабрыкетнага завода.

Старэйшы іх сын Мікалай Мікалаевіч - рабочы. Малодшы - Святаслаў Мікалаевіч - і яго жонка Ала разам закончылі Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт. Ала закончыла яшчэ аспірантуру і выкладае эканоміку ў гэтым універсітэце.



*Жонка Тамара Валяр'янаўна.*



*Сын Мікалай Мікалаевіч Гец*

Унук майго брата Мікалая Ўладзіміравіча Яўген Мікалаевіч - рабочы, студэнт-завочнік сельскагаспадарчага ўніверсітэта.



*Яўген Мікалаевіч Гец, прапрапраўнук “Міхалюка” Геца*



*К.У. Гец на малой радзіме з пляменнікам Святаславам Мікалаевічам Гецам і яго жонкаю Алай. Ваколіцы ракі Нёман*

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Соя і Грош**

Мы ўсе жылі ў адным вялікім пакоі такога “абшчажыцця”. Кожны з нас меў велізарны спрунжынаваны ложак з нікеляванымі галкамі. У куце два ложкі былі аддзелены простынямі - быў гэта сямейны куток. Збоку спаў Вернер. Пры акне - Важык. У другім радзе - я, Грэгары, Галан і Люсяк.

Апошні нейкі час чакаў на Ванду, якая была на фронце. Ён не меў дакументаў, не атрымаў прымацавання да сталоўкі. Мы далі яму свае падарожныя нарады, з якімі ён хадзіў на вакзал і яшчэ некалькі дзён атрымоўваў пайкі хлеба і нават абеды. Хлеб прыносіў нам, абеды з’ядаў на месцы. Па сем абедаў за раз! Так, але адзін раз у дзень...

Наша сталоўка была сціпленькая. Я ніколі не еў кашы. Канешне, давалі яе раз за разам на абед ці вячэру. Іншыя стараліся заняць месца каля мяне: я ўступаў сваю кашу. Найчасцей карыстаўся з таго Норберт, адразу пасля тыфу, таму нялюдска выгаладнелы, альбо яго жонка, прыгожая і мілая Клара, якой пасля тыфу астрыглі валасы, і яна хадзіла ў нейкай панчосе на галаве.

У горадзе з прадуктамі было цяжка. Бо на працягу некалькі дзён усё харчаванне было выключна з соі. Суп яшчэ не кепскі, катлеты ўжо горшыя, кампот не вытрымаць.

Пастарнак не вытрымаў і захварэў. Выбраў сабе нешта такое, што атрымаў спецыяльную дыетычную кухню. Еў за суседнім столікам куранят і нават піроaccess жныя, а мы перажоўвалі тоўчаную сою, якую садыстычна называлі раз “біфштэксам”, раз “шарлоткай”.

З тыфам справа выглядала досыць страшна. Вялікі рух людзей плюс недаяданне прывялі да таго, што на парозе горада стаяла эпідэмія. Я апісваў, як усіх нас паслалі на дэзіфекцыю (апавяданне з кнігі “13 ў Вясёлка”). Уся гісторыя абсалютна аўтэнтычная, уключна з тыпам, які жадаў, каб мы гаварылі па-расейску.

Але да эпідэміі, аднак, не дайшло. Былі толькі адзінкавыя ахвяры. Паміж іншымі тыф выцяў у Бруна. Той, чыім імем названы Дом журналіста ў Варшаве, захварэў неяк раптоўна і памёр вельмі хутка. Не памятаю нічога з пахавання: пэўна нас не было ўжо (ці яшчэ...) у Саратаве.

Ужо пасля нашага ад’езду прыехала ў рэдакцыю пару новых працаўнікоў. Распавядалі мне пра маляўнічыю гісторыю, якая там разыгралася летам. Немцы перлі на Волгу, у сувязі з чым атмасфера ў рэдакцыі зрабілася нярвовай. Адзін з працаўнікоў, літаратар, пасварыўся з Грошам. Пачалі павышаць голас - адзін і другі. Пачалі лаяцца - адзін і другі. Тады першы зажадаў, каб другі выйшаў за дзверы. Другі зрабіў першаму, як цяпер кажуць, інтэлектуальную прапанову. Першы паклікаў ахову.

І так вось на вачах многіх супрацоўнікаў адзін стары кумпел выкінуў другога пры дапамозе наёмнай сілы.

Адразу пасля інцыдэнту абодва высокія бакі кінуліся да пісання скаргаў і кляўзаў. Пакрыўджаны выслаў ліст... хвілю вагаўся: у “абкам”. Крыўдзіцель (няма такой формы ў польскай мове, а шкода, яе патрэба проста гарачая...) зараз жа пра тое даведаўся і перасягнуў свайго праціўніка: паслаў антыскаргу проста ў ЦК ВКП(б). Пакрыўджаны хуценька пра тое даведаўся і таксама махнуў у ЦК.

Лета даспявала, пераходзіла ў восень. Немцы перлі ў Сталінград, дабраліся да Эльбруса, занялі радовішчы нафты ў Грозным. Пачалі контрнаступ пад Ржэвам. Сітуацыя была пякельна цяжкая. А нашыя два высокія пратаганісты дадавалі Усесаюзнаму ЦК высокагатункавай работы.

Сварка скончылася, як ўсе вялікія скандалы - нічым. Праз пару гадоў Грош, ужо выбітны дзеяч Саюза патрыётаў, пайшоў па нейкай справе ў той жа ЦК. Трапіў на досыць высокага функцыянера. Той паглядзеў на яго і мовіць:

- А, таварыш Грош! А я вас ведаю!

Тут Грошу (які мне апавядаў гэта асабіста) зрабілася прыемна, што ён такі вядомы ў Цэнтральным Камітэце магутнай партыі. Перамкнула яму па галаве: можа антыфашысцкія артыкулы ў перадваеннай прэсе? Можа праца ў Львове? Можа VII аддзел (па “разлажэнні войскаў непрыяцеля”) нейкага з франтоў? Можа поспехі на ніве радыё? Можа “Вольная Польшча”, якую ўласна Грош рэпрэзентаваў?

Але таварыш з ЦК досыць холадна паглядаў на Гроша. Сказаў:

- Ах, гэта вы той таварыш Грош, які выкінуў за дзверы пісьменніка?

Грош пачырванеў, як дзяўчына. Кінуўся ў бой, намагаючыся выказаць, што тое выкідванне было проста абавязковым.

Таварыш з ЦК не даў яму скончыць.

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. “POL WIEKU. Wojna.”** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

- Так ці не так, але выкідваць за дзверы? Пісьменніка? Вы ведаеце, таварыш Грош, што такое пісьменнік?

- Ведаю! - крыкнуў у роспачы Грош. - Гэта інжынер чалавечых душ.

Фактычна, аднак, не ведаў. Здаецца, тая сцэна пакінула яму на душы трывалую рану на пункце пісьменнікаў.

Ужо пасля вайны наракалі мы з ім разам на недахоп баявой мастацкай літаратуры, якая апавяла б будаўніцтва сацыялізму. Грош у той справе вызнаваў тэорыю сціслую, як вайсковая каманда.

Гаварыў:

- Гэта таму, што добра тым пісьменнікам жывецца. Усе супертворы сусветнай літаратуры былі напісаны на паддашках пісьменнікамі з галоднымі страўнікамі і дзіравымі ботамі!

- Так, - адказаў, - але ўсе былі накіраваны супраць ладу, у якім паўсталі!

Таксама здольнасць адкрываць таленты ў Гроша я не заўважаў. Сам распавядаў мне ў 52 годзе такую гісторыю:

У 43 годзе, пасля ўзнікнення "Вольнай Польшчы", працаваў у ёй нявідны, малы чалавечак на пасадзе "літрадактара", г.зн. спецыяліста, які папраўляе стыль. Не вельмі ён гарэў на той рабоце. Грош спрабаваў спакусіць яго перспектывай кар'еры.

- Вы старайцеся, таварышу! Калі папрацуеце над сабой, хто ведае, як далёка зойдзеце ў журналістыцы. Можа аж да сакратара рэдакцыі!

Чалавечак скрывіўся.

- А я не застануся ў журналістыцы.

- Як гэта? - аслупянеў Грош. - А кім жа вы хочаце быць?

- Я буду пісьменнікам.

Грош выбухнуў артыстычным смехам.

- Тады мне тут валасы вырастуць! - крыкнуў ён, тыкаючы сабе пальцам у далонь.

Я агледзеў тую далонь, калі ён мне гэта распавёў. Бо чалавечкам тым быў Юльян Стрыйкоўскі, а "Уцёкі ў Фрагал" якраз атрымалі дзяржаўную ўзнагароду.

**Новыя "Новыя гарызонты"**

Як толькі надарылася аказія, я пачаў старацца выехаць з Саратава. Праца ў Гроша мне не адпавядала, хоць быў ён да мяне добры. Зрэшты гэтае пачуццё - гаворка ў пустэчу...

Недзе ў сакавіку 1942 года мы з Грэгары завязалі кантакт з Усіевіч. Яна была ў Куйбышаве. Новыя гарызонты мелі быць адноўленыя ў новым фармаце. Неўзабаве Грэгары туды паехаў. Праз пару тыдняў я паехаў за ім. Чыгунка да Куйбышава ішла страшна акружна. Памятаю, што тады першы раз дакрануўся да Азіі. Падарожжа было зноснае і бясколернае.

Куйбышаў, як усе надволжскія гарады, меў адну найпрыгожую рэч: становішча. На высокім, маляўнічым беразе Волгі - адтуль шырокія лірычныя перспектывы на лугі другога берага, поўныя рэдка раскіданых дубоў, амаль як у Баневе. Сам горад дзівіў кантрастамі. Цэлыя кварталы аднапавярховых драўляных дамкоў - і велізарныя будынкі, якія часта тырчалі па-адным пры разлеглых плошчах. Адзін з іх быў тэатр з каланадаю, прыклеенай да магутнай каробкі, другі - нейкі адміністрацыйны дом. Бліжэй да Волгі было некалькі вуліц, забудаваных вялікімі камяніцамі.

Мы атрымалі пакой у гатэлі "Нацыяналь". Быў гэта некалькіпавярховы будынак у досыць запушчаным стане. За некалькі сот метраў ад яго, каля невялікай плошчы са скверыкам стаяў нібы аднапавярховы дом з пачатку XIX стагоддзя з тоўстымі сценамі і высокімі вокнамі. Даўней размяшчаліся тут суды. Пры ўваходзе памятная дошка: тут у якасці адваката выступаў Ленін...

Калі паглядзець улева, вуліца спадала ўніз паміж драўлянымі дамкамі. А ў далечыні - акенца на нешта вялікае: Волга.

У тым доме размяшчалася "Саўінфармбюро" або Савецкае інфармацыйнае бюро, гэта значыць яго частка хутчэй публіцыстычная. "Зводкі" рабілі ў Маскве. Тым куйбышаўскім аддзелам кіраваў адзін з намеснікаў міністра замежных спраў, Саламон Лазоўскі.

"Новыя гарызонты" былі прыкамандзіраваны да яго. Далі нам два пакоі. У першым сядзела Яніна Бранеўская, а таксама месцілася адміністрацыя. У другі ўпакавалі аж чатыры столікі: для Усіевіч, Ендрыхоўскага і мяне. Чацвёрты быў Ляміпэ.

Пачалася вёрстка першых нумароў. Выданне цалкам змяніла сваю канцэпцыю. Замест месячніка, адрасаванага польскай інтэлегенцыі, але савецкім грамадзянам, месячніка, прысвечанага перш за ўсё літаратуры, а нават канкрэтна белетрыстыцы і лірыцы, паўставаў грамадска-палітычны двухтыднёвік, прызначаны наогул для палякаў, якія знаходзіліся на тэрыторыі Савецкага Саюза, без адрознення іх прававога статусу.

Справа ў тым, што ў гэтым годзе дыпламатычныя стасункі паміж савецкім урадам і эміграцыйным урадам Сікорскага, хоць не найлепшыя, але ўсё-такі існавалі. Амбасада была якраз у Куйбышаве. Тут выходзіла амбасадаўскае выданне пад назвай "Польшча". Поблізу, тут і там фармаваліся дывізіі Андэрса.

"Новыя гарызонты" мусілі лічыцца з тым фактычным становішчам. Адсюль неабходнасць досыць складаных захадаў часам толькі стылістычных. Выданне мусіла стаць выразнікам касмагоніі Народнай Польшчы, голасам польскіх камуністаў, але ўсё гэта адбывалася без удакладнення фармальнай падставы выказвання ў такіх далікатных матэрыях.

Гэты тон, гэтую плынь у выданні рэпрэзентаваў перш за ўсё Ляміпэ. Амаль год я працаваў з ім у адным пакоі. Я не аддаваў сабе да канца справаздачы, што ён азначаў як інтэлектуал і арганізатар. Таму мае адносіны да яго цалкам зыходзілі з жадання зрабіць на яго добрае ўражанне. Ёсць такія, хто мае за тое да мяне

прэтэнзіі.

Што мяне ў ім уражвала - гэта яго стыль працы. Я маю здагадку, што ён пачынаў цягнуць выданне без хоць якой журналісцкай практыкі. Бачыў, як ён мучыўся над рэплікай Цата-Мацкевіча, якая мела быць першым палітычным матэрыялам у выданні. Першыя версіі артыкула вельмі яму не падабаліся. Былі ладныя. паленіка вострая, але без з'едлівасці. Палітычная сутнасць - як найбольш слушная - з-за той някемкай формы гублялася, у параўнанні са знакамітай формулай Цата траціла нейкую частку сілы пераканання.

Лямпэ гэта бачыў і раз-пораз вяртаўся да свайго тэксту. Перарабляў яго з верху да нізу, фактычна пісаў нанава. Можа ў чацвёртай версіі рэч набыла бляск. Я даўно махнуў бы рукой. Лямпэ сядзеў і сядзеў.

Бачыўшы яго мукі, якія я асабіста ніколі ў такой ступені не адчуваў, я пачаў досыць лёгка ставіцца да свайго суседа ў вобласці вузка пісьменніцкай і рэдакцыйнай.

Але праз пару месяцаў ён мяне правучыў.

Мы рыхтавалі вераснёвы нумар. Паколькі я рэгулярна пісаў агляды сітуацыі на фронце, мне даверылі апісанне ходу вераснёвай кампаніі. Я прачытаў кнігу Норвіда-Нойгебаўара на тую ж тэму і досыць бегла яе пераказаў.

Тады ўчапіўся ў мяне Лямпэ. Давёў, што я паддаўся ўплыву санацыйнага саноўніка, галоўнай задачай якога, было адбельванне перадвераснёвых уладаў Польшчы. Гэта, зрэшты, было проста. Але, калі пасля такой крытыкі, абражаны, поўны жалю, я засведчыў, што адмаўляюся ад тэмы, ён патрафіў прымусіць мяне адкінуць капрызы і нанава апрацаваць артыкул.

Я яшчэ сядзеў і бурчаў. Артыкул быў завялікі. Зноў сказаў: рабіце, што хочаце, я сваё зрабіў. І зноў ён змусіў мяне да страшнай рэчы: да перакройвання ўласнай пісьменніцкай кроўнай працы пад бязлітасныя патрабаванні калонак і слупкоў.

Ад таго часу я набраўся да яго павагі і пэўнага страху. Але той першай было больш. Ведаючы, колькі яму каштавала размова са мной, я з абурэннем глядзеў на некаторых іншых аўтараў, якія маглі гадзінамі спрачацца з ім за адно слова, ба, часам за адну коску.

Быў адзін такі, які асабліва цвёрда бараніў кожную сваю літару. Па дзве і па тры гадзіны тэрарызаваў Лямпэ. Той пад канец траціў сілы, хістаўся, вочы заплюшчваў. Я сядзеў за суседнім сталом. Не мог зразумець, адкуль тая заядласць, тым больш, што пісаў аўтар дубова, у найлепшым выпадку ватна. Потым пры паўтарэнні тых трагедый я пачаў дапускаць, што ў кожным дыскутаваным слове хаваецца, Бог ведае якая, разынка. Сёння ведаю, што па-просту тып той быў зануда, а Лямпэ хацеў выратаваць выданне ад нудоты.

Гэта Лямпэ - з нагоды таго артыкула - распавядаў гісторыю свайго маршу з Равіча, якая сталася, мабыць, найярчэйшай сцэнай "Верасня".

Лямпэ здзейсніў яшчэ адну вялікую рэч: першы сфармуляваў прэтэнзіі на гістарычныя польскія землі на захадзе. Была гэта справа нялёгкая. Тое, што сёння выглядае так натуральна, у той час натрапіла на цалкам нечаканыя псіхалагічныя супрацівы. Будзь, што будзе, азначала гэта адмаўленне ад канцэпцыі этнаграфічнай, якая адначасова прымалася адносна ўсходніх межаў, і прыняцце канцэпцыі гістарычнай - якая якраз адкідалася адносна ўсходу.

Вялікую ролю ў тым акрэсе справы адыграў Прушынскі. Не гледзячы на тое, што быў працаўніком "лонданскай" амбасады, часта заглядваў у рэдакцыю, а асабліва дадому да Усіевіч, з якой вёў доўгія размовы, не толькі таварысцкія. Мусіў сутыкацца і з Лямпэм.

Першы раз - я асабіста - пра Одру і Нісу (Найсэ) пачуў якраз ад яго. Неяк сказаў:

- Калі вы ўжо пагаджаецеся на адданне Львова і Вільні, зажадайце прынамсі Шчэціна і Ўроцлава.

Вельмі супала тая формула з маімі перакананнямі. Я не мог зразумець пазіцый некаторых нашых публіцыстаў, якія - яшчэ ў 43 і 44 гадах - абгаворвалі справы ўсходніх граніц найдзіўна бессэнсоўным чынам. Калі я вярнуўся з Роўна ў Маскву ў сакавіку 44 года, накінуўся на іх з лютасцю:

- Вы падаяце гэтую справу такім чынам: усе да нас. Толькі мы аддаём Львоў і Вільню!

А справа вельмі складаная. Рэч слушная, што мы адступаем з зямель, населеных у сваёй велізарнай большасці не-палякамі. Але трэба гэта вытлумачыць лагічна, без бессэнсоўных падкопаў.

Уласна Одра і Ніса давалі адзін з аргументаў для лагічнага довада. Лямпэ сфармуляваў гэта яшчэ ў 42 годзе.

Па меры выхаду наступных нумароў "Новыя гарызонты" зрабіліся асяродкам згрупавання польскіх камуністаў, распарушаных пасля эвакуацыі на бязмерных абшарах Савецкага Саюза. Друкавалі ў іх артыкулы Рамана Замброўскага, які як бы прыязджаў у Куйбышаў. Якуб Правін прысылаў карэспандэнцыі з-пад Сталінграда, дзе браў удзел у баталіі, якая якраз распачыналася. Атрымоўвалі прозу Ўладзіміра Сакорскага. Моцна мы на ёю пацелі: страшна шмат было русізмаў. Відавочна, аўтар быў цалкам па-за польскім асяроддзем.

Часам я заходзіў да Лямпэ. Жылі яны ў цёмным пакоі ўчацвярых, Лямпэ меў жонку, дзесяцігадовага недзе сына і дачку, якая якраз нарадзілася.

Бывалі ў яго візіты незнаёмых мне людзей, пра якіх гаварыў паўголасам. Былі і такія, пра якіх пачутае паўслоўка гучала, калі не неспакоем - то агідай.

**Дыктатар псеўданімаў**

Ендрыхоўскі стаўся галоўным спецам па эканоміцы. Здзіўляла яго працавітасць. Запісаўся ў мясцовую бібліятэку і ўсюды лазіў з забойча нуднымі кніжкамі пра гаспадарчыя праблемы. Ішлі ў сталоўку, чакалі ў чарзе: адразу выцягваў кніжку з карткай паперы, чытаў, занатоўваў. Я дзівіўся, але не зайздросціў. Не ўсведамляў сабе таго, што ўжо тады ён выбірае для сябе цалкам іншакшы стыль жыцця.

Пакуль я пісаў дробязі - агляды ваенных дзеянняў, напрыклад. Таксама зрэдку вершы. Доўга

мучыў адзін, які меў быць роспачлівым лістом ад той, якая засталася ў краі. Паколькі не прыходзіла мне ў галаву добрая думка, абарваў верш на палове, назваў фрагмент і змясціў.

З іншым здарылася ў мяне забаўная гісторыя. Пасля Сталінграда я напісаў верш, у якім даў волю цалкам шчырым, напаўняўшым мяне пачуццям, якія вырываліся ў той час з душы. Не былі яны лішне гуманістычнымі. Шматгадовыя адступленні перад фашызмам прывялі да даго, што на першым месцы адчуваў па-просту фізічную сатысфакцыю, падобную, але ў шмат разоў большую, на тую, якая наведвае чалавека, калі яму першы раз удаецца даць па мордзе хулігану, які шматразова яму дакучаў. Адтуль у вершы столькі высілкаў, каб вобразна падаць амаль садыстычныя дэталі ламання хрыбта дзікаму зверу.

Я лічыў верш за вельмі добры. Менавіта таму вырашыў пажартаваць. Адчуваў, што Усіевіч мяне любіць, а Важыка - хутчэй не. Хацеў правесці эксперымент на тэму аб'ектыўнасці меркавання крытыкі. Занёс верш пані Гелене, сказаўшы, што Важыка.

Скрывілася.

- Гэты Важык! - сказала саркастычна. - Заўсёды ў яго гэты натуралізм!

У вершы было канешне пра юшку, якая цячэ з морды хрыпеўшага звера.

- Не для друку! - адрэзала рэдактарка.

Тады з уласцівым мне тактам і зграбнасцю крыкнуў:

- А, ку-ку! Гэта не Важык, гэта я!

Страшна разгневалася. Пачуў тады і на тэму ўласнай працы шмат мілых рэчаў.

У выніку верш не пайшоў. Быў гэта каштоўны ўрок на тэму - як гэта небяспечна зашмат ведаць, а асабліва, каб людзі пра гэта ведалі.

Яшчэ адно я рабіў у выданні: быў дыктатарам псеўданімаў. Сам прыдумаў сабе гэтыя функцыі, на што рэшта мусіла пагадзіцца.

Справа ў тым, што пісала нас жменька. Новых аўтараў знайсці было цяжка. Пачалі размнажацца шляхам вегетатыўным. Праз псеўданімы. Забаўна пры тым, што кожны хацеў "гучаць" як найпрыгажэй. Прыхільнікі ўлады рабочых і сялян хацелі называцца выключна, як шляхціцы. У часопісе пачало чарнець ад прозвішчаў на "-скі" і "-цкі" альбо залішне саладжавых, альбо нават антымоўных, г.зн., у якіх аўтар забываў, што коранем прозвішча на "-скі" заўсёды ёсць назва нейкай мясцовасці. Словам над часопісам разносіўся чад маргарыну: адразу было відаць, што аўтары выдуманыя.

Правёў пару размоў. Адразу ўсе мяне высмеялі. Потым мусілі згадзіцца. Падаў, зрэшты, прыклад, выбраў сабе нейкае мужыцкае прозвішча і прышыў да яго нямецкае імя. Гэта мела гучаць па-шлёнску. Тады паддаўся і Ляммэ. Я выдумаў яму псеўданім Раман Янчышын. Такім чынам гэта ўсё мела выглядаць з большага на паў-украінца.

Яніна Бранеўская пісала галоўным чынам "карэспандэнцыі з месцаў". Праз пару нумароў мы пачалі атрымоўваць шмат лістоў ад вывезеных з дэталямі на тэму метадаў амбасадарскіх "дэлегатаў". Метады гэтыя былі жыўцом скапіяваныя з санацыйных часоў. Дзіўнае відовішча: велізарны край, які змагаецца з велізарным намаганнем, не даядае, не дасыпае - у ім распарушаны анклавы дзясяткаў тысяч вывезеных, у нэндзы, у голадзе, халодныя і, па чарзе ў тых анклавах увіваюцца спрытнюгі, якія гандлююць, махлююць, па-просту крадуць дары розных амерык і канадаў для тых галадоўнікаў, пры аказіі гаўкаюць на бальшавікоў, звальваюць на іх усю адказнасць за свае зладзействы. Удзячны матэрыял для "побытавых абразкаў".

Неяк, мабыць ужо наступнай зімой, мы атрымалі ад нейкага былога сяржанта з Сярэдняй Азіі ліст з далучанай... сатырычнай паэмай. Было гэта апісанне перасялення афіцэрскіх жонак з-над Волгі недзе ў Ташкент. Чыталі тую паэму хорам, дасціпная рэпліка аднаго з герояў сталася рэдакцыйным лозунгам:

*Так Польшча зноў пачынаецца!*
*Ад чаго ўсім твар мяняецца.*

Надрукавалі фрагменты таго народнага эпасу. Быў ён не толькі дакументальны, выдаваў немалыя літаратурна-сатырычныя здольнасці аўтара.

**Цяжкія часы**

Была гэта вельмі цяжкая пара ў Савецкім Саюзе. Перамога пад Масквой не прынесла такіх вынікаў, на якія мы паціху разлічвалі. У сакавіку ваенныя дзеянні заштопарыліся. У траўні пачалося савецкая наступленне на Харкаў, закончанае цяжкай паразай: акружэннем і знішчэннем армій, якія задалёка прарваліся. У чэрвені паў Севастопаль. У канцы чэрвеня немцы распачалі магутнае наступленне на поўдні, прарваліся да Варонежа і, затрыманыя, павярнулі на поўдзень, развальваючы ўвесь паўднёвы фронт па Растоў уключна. Адначасова было вельмі цяжка ў тылах. Найбольш населеныя і найбольш прамысловыя тэрыторыі былі акупаваныя. Вывезеныя адтуль фабрыкі толькі пачыналі даваць прадукцыю. Мільёны бежанцаў рынуліся восенню 1941 года ў Сярэднюю Азію амаль падвойваючы колькасць яе насельнікаў. Зіма была там незвычайна цяжкай, часам людзі ўміралі з голаду на вуліцы. У т.л. спаткала гэта аднаго львоўца, дырэктара бібліятэкі, у якой працавала Ірэна. Я ўжо не гавару пра ленінградцаў.

Вызваленыя па амністыі палякі таксама ў сваёй большасці пацягнуліся ў Сярэднюю Азію. Мая сям'я была пад Навасібірскам. Шмат іхніх таварышаў па нядолі выбралася ў Ташкент. Бацькі засталіся на месцы і сто крат мелі рацыю.

Кожны чарговы нумар часопіса павялічваў нам трохі загінулых і расцярушаных. З Ташкента адазвалася Шамплінская, а дакладней яе муж, былы рававыст, Сабалеўскі. Ліст быў роспачлівы. У бежанстве памерла іхняе дзіця. Гаравалі ў Ташкенце (а можа ў Самаркандзе). Сама Шамплінская захварэла на дзіўную хваробу, г.зв. мальтыйскую гарачку. Якраз у Куйбышаве была Ванда. Не гледзячы на тое, што тая яе

не выносіла, выцягнула яе бліскавічна, залатвіла жыллё і, што найважнейшае, нейкі спецыяльны прадуктовы паёк.

Калі я ўбачыў Шамплінскую, сапраўды не мог яе пазнаць. Была, што называецца, ценем сябе самой. Рукі, як у дзіцяці, твар - як бы ад яго застаўся адзін профіль. Не паказвалася, не пісала. Сабалеўскі пачаў працаваць у адміністрацыі.

Недзе адтуль прыехаў Стэфан Вярблоўскі. Той пачаў рэгулярна пісаць. Дакучаў мне часта, падкрэсліваючы лёгкаважкасць і маёй пазіцыі, і мяне асабіста. Я цярпеў доўга. Пэўнага дня выбухнуў.

- Што ты сабе думаеш? - крыкнуў. - Я тут для таго, каб рабіць гэтыя аглядзікі? Я тут сяджу, каб збіраць матэрыял для аповесці. Я там так цябе адмалюю!

Вярблоўскага заткнула. Яго рэпліка пра тое сведчыць.

- Што ты пра мяне ведаеш? Бачыш мяне ў нетыповай сітуацыі! Па-праўдзе, то я - народны трыбун! Прамаўляю да масаў! Вяду іх за сабой!

Але ад таго моманту на ўсякі выпадак супакоіўся з нападкамі на мяне.

З Аральска над морам той жа назвы прыехаў вядомы мастак Аляксандр Рафалоўскі. І ён быў у нэндзы, абадраны, выгаладнелы. І яго ўладкавала Ванда. Узяўся адразу за маляванне.

Гэта было не лёгка. Адчуваў, што трэба ўключыцца ў вялікую бітву. Пастанавіў зрабіць карціну пра змаганне ў краі. Доўга маляваў кампазіцыю. Гарадскі завулак, ідзе група людзей і зрывае ненавісныя гітлераўскія шыльды.

Каб жыць, вырашыў таксама маляваць партрэты герояў з фронту. Патрапіў у шпіталь. Быў там адзін цяжка паранены Герой Савецкага Саюза. Рафалоўскі зрабіў яго партрэт. Але партрэт на выставу не прынялі. Бо на твары знайшлі шкодныя, ідэйна няправільныя зялёныя таны.

- І каб жа гэта звычайны паранены! - тлумачылі Рафалоўскаму, - ну, цяжка! Але гэта перш за ўсё Герой Савецкага Саюза. І зялёныя таны пад вачыма!...

Рафалоўскі пасяліўся разам з намі, у "Нацыяналі". Быў страшна рассеяны. Аднойчы, зімой, дзяжурная на калідоры пачула дым. Глядзіць, а ў пакоі таго паляка-мастака дым клубамі. Адчыняе дзверы...

Рафалоўскі ў ложку спіць, а коўдра з ваты дыміцца. Курыў папяросу, заснуў...

Восенню ідзём галоўнай вуліцай. Усе ў напружанні, чакаюць на добрыя навіны з фронту, асабліва з-пад Сталінграда. Здалёк бачу Рафалоўскага. На мой від пачынае махаць рукамі.

Сэрца забілася мне мацней. Можа на фронце...

- Ежы! - лемантуе Рафалоўскі. - Ежы, Ежы!

Можа Сталінград. Прыспешваю крок.

- Ежы! - верашчыць Рафалоўскі на цэлую вуліцу. - Ежы, ведаеш, што сталася?

Сталінград, слова даю. Уцякаюць...

- Ведаеш, што сталася? Ежы! Ежы!

Дападаю да яго, хапаю за штрыфлі плашча. Рафалоўскі кідаецца мне на шыю.

- Дастаў вопратку!

**Порткі**

Што праўда, вопратку я меў кепскую, а атрымаць новую было д'ябальскі цяжка. Пераканаўся ў тым найбліжэйшым летам. Паехалі ўтраіх з Грэгарым і яго знаёмай за Волгу выкупацца. Была страшная гарачыня, я пайшоў без пінжака, у адзіных портках, якія меў. Дакументы паклаў у тыя порткі. Рукаў ракі на тым беразе. Пакінуў порткі пад апекай Грэгары і яго знаёмай і пайшоў купацца. Вяртаюся, ён і яна ёсць, портак няма. Заглядзеліся, нехта ў іх з-пад носа сцягнуў.

Грэгары змешаны паехаў у горад шукаць запасныя порткі. З усіх нашых знаёмых толькі Мікулку можна было ў тым падазраваць. Прыехаў якраз у Куйбышаў. Год таму вайна застала яго ў Маскве. Быў шалёна закаханы ў Ардонку, спрабаваў даехаць да Вільні, мусіў вярнуцца, размінуўся з ёй, ужо яе не ўбачыў. Прыткнуўся ў нейкай вёсцы над Волгай, някепска яму там было, ужо пачаў сваю гінекалагічную практыку, прыехаў у Куйбышаў добра апрануты, на твар поўны, хоць поўны меланхоліі з-за Ардонкі.

Добра, Грэгары паехаў да яго, а я схаваўся ў кусціках. Чакаў у іх да вечара. Было ўжо холадна, калі вярнуўся. Меў порткі. Мікулка не падвёў.

Але былі гэта так зв. брыджы, з пухірамі, званымі "галіфэ", прызначаныя для высокіх ботаў. А я меў толькі гумовыя тапачкі. Цяжка, хадзіў у тых брыджах пару тыдняў, абуджаючы зразумелае здзіўленне прыгожай паловы кавалерыйскім строем у бёдрах, расхрыстаным ніжэй калень. Нарэшце нехта мне парадзіў звярнуцца да Лазоўскага. Ёсць закрытыя крамы, да якіх прымацаванне можа даць толькі ён асабіста. Напісаў, матывуючы шчырую праўду, што застаўся без портак. Атрымаў адмоўны адказ. Матывацыя: недахоп дастатковых падставаў...

Раззлаваўся, пайшоў на "таўкучку" ці "цюхі". Недзе на прадмесці. Страшная цесната (адтуль назва). Натоўпы прадаўцоў. Значна большыя натоўпы пакупнікоў. Найбольш тых, хто па-просту глядзіць. Што прадаюць? Усё. Між іншым, параілі мне пахадзіць, можа патраплю на тыя мае ўкрадзеныя. Не патрапіў.

Што прадавалі канкрэтна? Напрыклад, два кавалачкі цукру. Стаіць жанчына і трымае кавалачкі на выцягнутай далоні. Таксама ўсякага роду лахманы і лахманчыкі. Мяшкі "самасаду", ці груба пасечанай махоркі ўласнага вырабу, якую прадавалі шклянкамі. І так далей.

Нарэшце купіў порткі з падшыўкі (падкладкі). Былі нават выгадныя, бо лёгкія, а гарачыня вялікая. Але выглядалі, ну, не цяжка сабе ўявіць.

Але ў тых меў усе дакументы. Вельмі непакоіўся. Праз некалькі тыдняў выклікалі мяне ў камісарыят міліцыі. Запыталі дадзеныя. Згадзіліся, уручылі цэлы пачак маіх папераў.

Аказваецца, што тутэйшыя зладзеі як агню баяцца дакументаў, бо калі зловяць, то абцяжарвае гэта кваліфікацыю злачынства. Таму дакументы, знойдзеныя ў скрадзенай вопратцы, чым хутчэй укідваюць у паштовыя скрынкі.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# *Найбольш значныя гістарычныя выданні апошняга часу*




**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшаў “Кароткі гістарычны слоўнік беларускай мовы”, 1040 ст., наклад 500 асобнікаў.**




**У Менску выдавец Зміцер Колас выдаў кнігу Алега Трусава “Гісторыя сярэднявечнай Еўропы. V - XV стст.”, 356 ст., наклад 300 асобнікаў,**




**У Менску ў выдавецтве “Беларусь” выйшла кніга Дзяніса Лісейчыкава “Святар у беларускім соцыуме. Прасанаграфія ўніяцкага духавенства 1596-1839”, 720 ст., наклад 400 асобнікаў.**







**У Менску ў выдавецтве “Мастацкая літаратура” выйшаў двухтомнік Барыса Крэпака “Вяртанне імёнаў. Нарысы пра мастакоў”,**
**Кніга 1. 416 ст., наклад 1000 асобнікаў.**
**Кніга 2. 384 ст., наклад 1000 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларуская навука” выйшаў зборнік навуковых артыкулаў “Гісторыя гандлю на тэрыторыі Беларусі”, 504 ст., наклад 150 асобнікаў.**




**У Менску ў выдавецтве “Беларусь” выйшла кніга “Шэдэўры пісьменства і літаратуры Беларусі X - XVII стагоддзяў”, 568 ст., наклад 1000 асобнікаў.**



**Віктар Кудла.** ***Зіма ў Дворышчы.*** Алей.